масавы ўдзел. Важак гэтага паўстання ў Літве і Беларусі К. Каліноўскі можа быць названы сімвалам польска-беларускага яднання і дружбы.

Таксама ў XX ст. знаходзім у Беларусі і ў Польшчы нямала фактаў, якія сведчаць аб глыбокай узаемнай зацікаўленасці. Доказам гэтай узаемнасці можа быць Янка Купала, які пачынаў сваю творчасць на польскай мове, а нават і тады, калі ўжо перайшоў на беларускую мову, нямала ўвагі прысвячаў перакладам польскіх паэтаў.

Нават у міжваенны перыяд, калі адносіны паміж буржуазнай Польшчай і сацыялістычнай Беларуссю былі вельмі дрэннымі, і ў Беларусі і ў Польшчы было зроблена нямала, каб запазнаць сваё насельніцтва з культурай суседняга народа. Зразумела, што ў Польшчы справай папулярызацыі культуры БССР займаліся выключна дэмакратычныя сілы, дэмакратычныя пісьменнікі і дзеячы.

Нас аднак цікавіць польска-беларускае супрацоўніцтва ў пасляваенны перыяд, калі былі ўстаноўлены паміж БССР і Народнай Польшчай братэрскія адносіны.

У сувязі з тым, што польска-беларускае супрацоўніцтва развіваецца ў шматлікіх галінах і аспектах, мы можам звярнуць увагу толькі на некаторыя з гэтых аспектаў. Разглянем гэтыя адносіны на прыкладзе:

польска-беларускіх літаратурных сувязей зацікаўлення Міцкевічам у БССР, святкавання ў Польшчы 80 гадавіны з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, супрацоўніцтва польскіх і беларускіх вучоных, польска-беларускіх кантактаў у галіне музыкі, супрацоўніцтва Беласточчыны з Гродзеншчынай.

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ

Літаратура і прэса прычыняюцца да ўзаемнага пазнання і да паглыблення дружбы. Трэба сказаць, што сучасная польская літаратура і прэса карыстаюцца ў БССР вялікай папулярнасцю. У сувязі з тым, што многія беларусы ведаюць польскую мову, вялікая колькасць польскіх кніг і часопісаў у арыгінале прадаецца ў беларускіх кіёсках і кнігарнях. У Мінску і ў іншых гарадах БССР цяжка купіць „Трыбуну Люду", „Пшыязнь", „Пшэкруй" ці „Экран", бо запатрабаванне на іх з боку насельніцтва вельмі вялікае.

Зразумела аднак, што асноўнай формай запазнання беларускага чытача з польскай літаратурай з'яўляюцца пераклады. Да найважнейшых польскіх кніг, перакладзеных на беларускую мову належаць наступныя: апавяданні — Г. Сянкевіча, том паэзіі — А. Міцкевіча, том паэзіі — Ю. Славацкага, том паэзіі — У. Бранеўскага, том паэзіі сучасных польскіх паэтаў, аповесць К. Брандыса — Грамадзяне, аповесць Е. Путрамента — Верасень, аповесць Жулаўскага — Чырвоная рака, аповесць Трапачынскай-Агарак — Лясныя долы, аповесць А. Мінкоўскага — Ніколі ў жыцці.

Іншай формай папулярызацыі польскай літаратуры ў Беларусі з'яўляецца літаратурная крытыка, вечары і акадэміі прысвечаныя польскім пісьменнікам. Дагэтуль вельмі ўрачыста святкаваліся ў БССР гадавіны з дня нараджэння або смерці такіх польскіх пісьменнікаў як Міцкевіч, Славацкі, Канапніцка, Ажэшкова, Прус і многіх іншых.

Справе папулярызацыі Польшчы ў БССР служыла таксама польская праблематыка ў беларускай літаратуры. Паказам розных аспектаў польскага жыцця займаліся ў сваёй творчасці такія беларускія пісьменнікі як Купала, Колас, Лынькоў, Гарэцкі, Пестрак, Брыль, Танк. Пісьменнікі гэтыя адклікаліся перад усім да праблематыкі даваеннай буржуазнай Польшчы. Зразумела, што адносіны беларускіх пісьменнікаў да гэтай Польшчы мелі адмоўны характар. Пасля вайны карэнным вобразам змя-



Прадстаўнікі Беласточчыны і Гродзеншчыны на канцэрце беларускага савецкага калектыву

Фота А. Карпюк

ніліся гэтыя адносіны. Доказам новага падыходу беларускіх пісьменнікаў да новай Польшчы можа быць кніга Я. Брыля — „Вачыма друга". Аўтар да вайны жыў у Заходняй Беларусі. У 1939 годзе быў польскім салдатам і бараніў перад немцамі польскае ўзбярэжжа. Пасля вайны, у 1955 годзе Брыль прыехаў у Польшчу і адбыў па ёй падарожжа. Вынікам гэтага падарожжа была кніга „Вачыма друга", у якой аўтар не скрывае свайго здзіўлення вялікімі эканамічнымі і сацыяльнымі пераменамі праведзенымі ў Народнай Польшчы.

Другім пісьменнікам, які вельмі часта закранае ў сваёй творчасці польскую праблематыку з'яўляецца М. Танк, які таксама ў міжваенны перыяд жыў у Польшчы. Танк быў звязаны з нелегальнай камуністычнай дзейнасцю і таму не раз сядзеў у санацыйных турмах. Даваенныя вершы Танка гучэлі рашучым пратэстам супраць буржуазыйнай Польшчы. Але ўжо тады, у даваенны перыяд, бачыў паэт розніцу паміж польскімі пануючымі кругамі і польскімі простымі людзьмі. Першых паэт ненавідзеў, да другіх адносіўся з пашанай. Першых клейміў ён у сваіх вершах, з другімі салідарызаваўся і бараніў іх. Максім Танк пераклаў на беларускую мову вялікую колькасць вершаў такіх польскіх пісьменнікаў як Міцкевіч, Славацкі, Бранеўскі. Таксама многія свае вершы прысвяціў ён слаўнаму мінуламу або сучаснасці польскага народа. Да гэтых вершаў належаць такія творы як: Вянок, Вадапад Міцкевіча, На Навагрудскай гары, Песня пра Яносіка, Гевонт, Пад Леніно, Паронін.

У 1957 годзе Таварыства польска-савецкай дружбы ў Варшаве прызнала М. Танку вялікую грашовую ўзнагароду за ўклад у развіццё добрасуседскіх адносін і дружбы паміж Польшчай і Беларуссю. З гэтай нагоды М. Танк прыехаў у Польшчу і выступіў у Варшаве з палымянай прамовай падчас якой сказаў: „Узнагароду гэтую, адну з самых дарагіх майму сэрцу, я лічу ўзнагародай майму народу, для якога мова і песня, літаратура і мастацтва братняга польскага народа былі заўсёды блізкімі. Я гэтую ўзнагароду лічу ўзнагародай народу яшчэ і таму, што нават самы большы ўклад любога з нас гэта толькі кропля ў моры спраў і заслуг народных."

Канчаючы сваю прамову М. Танк усю ўзнагароду, на якую зложылася 25 тысяч злотых, перадаў у фонд адбудовы Варшавы. Ці ж можа быць лепшы доказ на сардэчныя адносіны гэтага пісьменніка да Польшчы?

Дагэтуль займаліся мы польскай літаратурай у Беларусі і адносінамі беларускіх пісьменнікаў да Польшчы. Зараз ахарактарызуем беларускую літаратуру ў Польшчы і адносіны польскіх пісьменнікаў да Беларусі.

У Народнай Польшчы былі перакладзены на польскую мову наступныя беларускія творы: аповесці Я. Коласа — Дрыгва і У палескай глушы, вершы М. Танка, вершы Я. Купалы, аповесць Я. Брыля — У Забалоцці днее, і многія апавяданні, аповесць Лынькова — Векапомныя дні, аповесці І. Шамякіна — Глыбокая плынь, Сэрца на далоні, аповесці В. Быкава — Трэцяя ракета, Альпійская балада і Праклятая вышыня, аповесць Мележа — Людзі на балоце. Найбольшую актыўнасць у галіне перакладаў з беларускай на польскую мову праяўлялі такія пісьменнікі як Федэцкі, Жыранік, Яворскі, Кананові. Аднак бадай што найлепшым польскім пера-



Аркестр народных інструментаў з Гродна на сцэне ў Беластоку ў часе адкрыцця „Дні БССР" на Беласточчыне

Фота А. Карпюк



Урачысты сход з нагоды прысваення імя Сяргея Прытыцкага сталярнаму заводу ў Саколцы. Прамаўляе Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Іван Шамякін.

Фота — А. Карпюк

кладчыкам з'яўляецца малады празаік беларускага паходжання Яўгень Кабац.

Даволі вялікую колькасць дробных твораў перакладзеных з беларускай мовы памесцілі такія польскія часопісы як: „Пшыязнь", „Камэна", „Культура".

Аддзельная тэма — гэта беларуская праблематыка ў польскай літаратуры. Ведаем, што многа яе было ў творчасці Міцкевіча, Ажэшковай, Кандратовіча. Польскім пісьменнікам, які многа пісаў аб Беларусі быў таксама Віктар Гамуліцкі (1851—1919), які стварыў вялікі цыкл вершаў пад загалоўкам „На Белай Русі". Традыцыю Гамуліцкага ў міжваенны перыяд прадаўжаў Леанард Падгорскі-Аколаў, які ў 1927 годзе выдаў том вершаў пз. „Беларусь". Трэба сказаць, што вобраз жыцця Беларусі ў гэтай паэзіі выключна песімістычны. Бачым у ім толькі гора, бяду і няшчасце беларусаў.

У пасляваенны перыяд польскія пісьменнікі пачалі звяртаць увагу на іншы аспект жыцця беларусаў, на іх змаганне ў міжваенны перыяд за сваё вызваленне ў санацыйнай Польшчы і на іх барацьбу, часта супольна з палякамі, з гітлераўскім акупантам. Новая трактоўка беларускага жыцця выступіла ў такіх кнігах, як Паўстагоддзе — Е. Путрамента, Лясныя долы - Трапачынскай, Помста — Шулецкай, Белы анёл — Кабаца. Нярэдка беларуская праблематыка паяўляецца ў кнігах успамінаў пісаных тымі палякамі, якія падчас акупацыі дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў партызанскіх атрадах.

 

## ЗАЦІКАЎЛЕННЕ МІЦКЕВІЧАМ У БЕЛАРУСІ

Адам Міцкевіч, вялікі польскі пісьменнік, які нарадзіўся, жыў і тварыў на беларускай зямлі, да сёння застаецца акружаны асаблівай пашанай з боку беларусаў. А вось факты, якія пацвярджаюць гэтую думку. Ужо ў 1859 годзе Дунін-Марцінкевіч пераклаў на беларускую мову адзін з найвыдатнейшых твораў Міцкевіча паэму „Пан Тадэуш". Аднак толькі дзве часткі гэтай паэмы ўдалося апублікаваць. Рэшта загінула. Гэтыя ж дзве часткі былі паўторна выдадзены ў 1908 годзе беларускай выдавецкай суполкай „Загляне сонца ў наша ваконца".

Зараз пасля рэвалюцыі, у 1920 годзе Рэвалюцыйны камітэт у Навагрудку пастанавіў паклікаць да жыцця музей Міцкевіча. У пастанове гэтай між іншымі гаварылася: „У Навагрудку жыў калісьці вядомы ўсяму свету вялікі польскі паэт — Адам Міцкевіч. Захаваўся яго дом а таксама бібліятэка. Савецкая ўлада — прапагатар культуры і святла — памятае аб тых, хто працаваў на гэтай ніве і памяць аб іх захоўвае і бароніць".

Зацікаўленне Міцкевічам з боку беларусаў развівалася ў міжваенны перыяд. Пісьменнікі Савецкай Беларусі нямала пераклалі яго твораў на беларускую мову. Асаблівага подзвігу ў гэтай галіне даканаў дзеяч „Грамады" Браніслаў Тарашкевіч, які седзячы ў санацыйнай турме пераклаў на беларускую мову ўсяго „Пана Тадэуша". Адзін з раздзелаў гэтага перакладу змешчаны ў альманаху „Белавежа", падрыхтаваным да друку ГП БГКТ.

У БССР урачыста святкавалася 80-ая гадавіна смерці Міцкевіча. У сувязі з гэтымі святкаваннямі Я. Купала сказаў: „Беларускі народ дзяліўся з Міцкевічам сваімі песнямі, марамі, легендамі, казкамі."

Але з асабліва вялікім размахам адбыліся ў БССР урачыстасці звязаныя з сотай гадавінай смерці Міцкевіча, якая прыпала на 1955 год. У сувязі з гэтай гадавінай адбылося на ўсёй БССР сотні акадэмій, дакладаў, лекцый, навуковых сесій прысвечаных жыццю і творчасці Міцкевіча. З гэтай нагоды была змешчана ў беларускіх часопісах вялікая колькасць твораў А. Міцкевіча і артыкулаў, прысвечаных яго творчасці.

Адным з найбольш урачыстых момантаў Міцкевічаўскіх урачыстасцей было адкрыццё ў Навагрудку Музея А. Міцкевіча. Музей гэты быў поўнасцю знішчаны ў часе акупацыі і многія думалі, што ніколі нельга будзе яго адбудаваць, бо ўсе экспанаты загінулі. На шчасце такая думка не аказалася праўдзівай. Калі толькі пачаў музей арганізавацца, з усіх куткоў Беларусі, Літвы і іншых рэспублік пачалі наплываць прадметы і рэчы, звязаныя з Міцкевічам. Сярод гэтых прадметаў знайшліся такія цэнныя экспанаты, як арыгінальныя крэслы з дома Міцкевіча, акуляры паэта, футляр ад яго гадзінніка і бронзавы бюст Міцкевіча. Польскае Міністэрства культуры і Саюз польскіх пісьменнікаў прыслалі ў музей аж 300 экспанатаў.

Аб папулярнасці Міцкевіча ў Беларусі можа сведчыць наступны факт: Адна з беларускіх фабрык выпусціла 1000 статуэтак прадстаўляючых Міцкевіча. Статуэткі гэтыя на працягу некалькіх дзён былі выкуплены з магазінаў.

Вялікую актыўнасць у святкаванні 100 гадавіны Міцкевіча праявіў вядомы беларускі паэт Якуб Колас, якога сапраўднае прозвішча таксама Міцкевіч. Колас прымаў удзел у дзесятках мерапрыемстваў, вечароў і акадэмій прысвечаных Міцкевічу. Апрача гэтага Колас напісаў вялікую колькасць артыкулаў аб польскім паэце. У сваіх выступленнях і артыкулах Колас падкрэсліваў, што значэнне і слава Міцкевіча даўно пераскрочыла межы Беларусі і Польшчы, і што паэт гэты стаўся вядомым усяму свету. Колас падкрэсліваў, што Міцкевіч быў не толькі паэтам, але і вялікім дзеячом, які ўсё сваё жыццё прысвяціў ідэі барацьбы „за свабоду нашу і вашу".

## СВЯТКАВАННЕ Ў ПОЛЬШЧЫ 80 ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Я. КУПАЛЫ І Я. КОЛАСА

Творчасць выдатных беларускіх пісьменнікаў Я. Купалы і Я. Коласа выклікала значную зацікаўленасць з боку польскага чытача і літаратурнай крытыкі. Асаблівай аказіяй да паглыблення гэтай зацікаўленасці была 80 гадавіна з дня нараджэння гэтых пісьменнікаў, якая выпала на 1962 год. Святкаванне гэтай гадавіны пачалося 10.VI.1962 года ўрачыстай акадэміяй у Драматычным Тэатры ў Варшаве. З дакладам прысвечаным жыццю і творчасці беларускіх пісьменнікаў выступіў вядомы польскі літаратар Е. Анджэевіч. Падкрэсліў ён, што творчасць Купалы і Коласа мела вялікі ўплыў на развіццё нацыянальнай і класавай свядомасці беларускага народа. Па ініцыятыве Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы былі прачытаны даклады аб жыцці і творчасці Купалы і Коласа ў такіх гарадах як Познань, Яроцін, Аполе, Люблін, Быдгашч, Гданьск, Ольштын і ў многіх іншых меншых мясцовасцях.

Асабліва шырокія размеры мелі мерапрыемствы, прысвечаныя беларускім паэтам, праведзеныя на Беласточчыне. Даклады аб іх творчасці былі прачытаны ў Беластоку, Гайнаўцы, Бельску, Белавежы, Супраслі. Апрача гэтага амаль усе школы ў беларускім асяроддзі арганізавалі вечарыны прысвечаныя Купалу і Коласу.

У гэтым самым часе польская цэнтральная і рэгіянальная прэса змясціла вялікую колькасць артыкулаў аб беларускіх пісьменніках, а Галоўнае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы выдала аб іх абшырную публікацыю.

Вялікую ролю ў папулярызацыі творчасці Я. Коласа і Я. Купалы адыграла ГП БГКТ, якое арганізавала дзесяткі мерапрыемстваў. Таксама „Ніва" змясціла многа матэрыялаў, звязаных з беларускімі пісьменнікамі. Не менш урачыста святкавалася ў 1972 г. 90-ая гадавіна нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. З гэтай нагоды між іншымі Польская акадэмія навук і Варшаўскі універсітэт арганізавалі навуковыя сесіі прысвечаныя творчасці беларускіх пісьменнікаў.

## КАНТАКТЫ І СУПРАЦОЎНІЦТВА ВУЧОНЫХ

Кантакты вучоных набылі асаблівую актыўнасць пасля 1956 года. У Польшчу многа разоў прыязджала М. Каменская — дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР. Каменская выступіла з радам дакладаў, прысвечаных розным перыядам у гісторыі Беларусі.

У 1958 годзе выязджала ў БССР дэлегацыя польскіх вучоных на чале з дырэктарам Інстытута па эксплуатацыі торфу ў Эльблёнгу — М. Ніклеўскім. Дэлегацыя знаёмілася з метадамі выкарыстання торфу ў БССР.

У гэтым самым годзе выязджала ў Мінск група польскіх вучоных — мовазнаўцаў. У склад групы ўваходзілі вучоныя з Варшаўскага, Ягелёнскага, Лодзінскага і Вроцлаўскага універсітэтаў. Польскія вучоныя супольна з вучонымі БССР разважалі розныя праблемы звязаныя з польска-беларускім моўным пагранiччам.

На падставе дагавору паміж міністэрствам асветы і вышэйшай адукацыі Польшчы і БССР часта прыязджаюць у Польшчу маладыя навуковыя супрацоўнікі з БССР. Таксама ў БССР амаль кожны год накіроўваюцца польскія маладыя вучоныя ў рамах гэтага дагавору. Студэнты беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта кожны год едуць у БССР збіраць матэрыялы да магістэрскіх работ. Таксама настаўнікі беларускіх школ з Беласточчыны выязджаюць на месячныя курсы ў Мінск з мэтай дасканалення дыдактычных кваліфікацый.

Праявам канкрэтнай дапамогі з боку беларускіх вучоных для Польшчы было тое, што яны на працягу многіх гадоў вялі лекцыі на беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і на беларускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку.

Вынікам супрацоўніцтва паміж навуковым супрацоўнікам АН БССР Мікалаем Бірылам і кіраўніком Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта А. Яблонскай быў польска-беларускі слоўнік выдадзены ў 1962 годзе.

Супрацоўніцтва паміж беларускімі і польскімі вучонымі датычыць такіх галін навукі як: гісторыя, мовазнаўства, літаратуразнаўства, тэхніка, медыцына, архітэктура і гд.

## ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІЯ СУВЯЗІ Ў ГАЛІНЕ МУЗЫКІ

Бадай што найбольшую ролю ў гэтым супрацоўніцтве адыграў вядомы дырыжор аркестра мандаліністаў польскага радыё ў Лодзі Эдвард Цюкша. Яшчэ ў міжваенны перыяд, калі Цюкша працаваў у Вільні, пачаў ён апрацоўваць беларускія мелодыі. Характарызуючы свае кантакты з беларускай песняй Цюкша сказаў: „Сутыкнуўся я з ёю бадай што ад моманту нараджэння. Беларуская песня мае непаўторны клімат зусім непадобны на песню рускую, польскую ці украінскую. Маю сімпатыю да беларускай песні паглыбіла жонка, якая пазнаёміла мяне з вялікай колькасцю беларускіх мелодый... Я закаханы ў беларускім фальклоры. Беларускія мелодыі адпавядаюць маёй асабовасці, яны блізкія майму сэрцу”...

Цюкша пачаў апрацоўваць беларускія песні ўжо ў 1929 годзе. Прадаўжаў гэтую працу да апошніх дзён свайго жыцця. У суме апрацаваў ён больш 150 беларускіх мелодый. Усе яго апрацоўкі выконваліся сотні разоў і ў польскім, і ў беларускім радыё. Найбольшую папулярнасць набылі апрацоўкі такіх беларускіх мелодый як Лявоніха, Крыжачок, Чачотачка, Бульба. Аркестр Цюкшы выязджаў таксама ў БССР і выступаў перад беларускім радыё.

Папулярызатарамі польскай народнай музыкі ў БССР з'яўляюцца перад усім Шырма і Цітовіч. Адзін і другі ў міжваенны перыяд жылі ў Вільні і таму мелі магчымасць шырокага кантакту з польскай народнай музыкай. Шырма з'яўляецца дырэктарам Дзяржаўнай капелы, якая ў сваёй праграме мае многа польскіх песень.

Цітовіч — дырэктар Беларускага дзяржаўнага ансамбля, у даваенны перыяд прайшоў вялікую тэрыторыю Польшчы, запісваючы народныя песні. Большасць з іх загінула падчас вайны. З таго, што захавалася, выдаў Цітовіч у 1962 годзе зборнік „Польскія народныя песні”. Ва ўступе да свайго зборніка Цітовіч падкрэсліў, што песня можа быць інструментам збліжэння народаў. Падкрэсліў таксама, што польская песня мае ў Беларусі многа прыхільнікаў, і што да яе распаўсюджання прычыніўся асабліва польскі калектыў „Мазоўша”. „Бачым, пісаў Цітовіч, што польская песня з'яўляецца адным з істотных момантаў польска-беларускіх культурных адносін, а адносіны гэтыя, асабліва ў галіне народнай творчасці, маюць старыя традыцыі”.

Варта ўспомніць, што такія польскія мастацкія калектывы як „Мазоўша” і „Слёнск” многа разоў выступалі ў Мінску і іншых гарадах БССР. Таксама беларускія калектывы: Дзяржаўная капела Шырмы і Дзяржаўны ансамбль Цітовіча выступалі ў Польшчы, а іх канцэрты цешыліся вялікай папулярнасцю.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ З ГРОДЗЕНШЧЫНАЙ

Супрацоўніцтва Беласточчыны з Гродзеншчынай з'яўляецца нераздзельнай часткай цэласці польска-беларускіх сувязей. Развівалася яно ад мо-

манту заканчэння вайны, аднак яго актывізацыя звязана з перыядам пасля 1956 года. У гэтым годзе наведала Беласток дэлегацыя БССР у складзе: Верасаў — старшыня Беларускага таварыства культурнага супрацоўніцтва з-за мяжой, Пестрак і Брыль — пісьменнікі. Беларускія госці апрача Беластока наведалі Замброў і Белавежу. Сустрэліся яны таксама з супрацоўнікамі ГП БГКТ і „Нівы". Вярнуўшыся ў БССР пісьменнік Піліп Пестрак, які ў міжваенны перыяд 11 год сядзеў у санацыйнай турме, прыслаў у „Ніву" ліст, у якім пісаў, што ў факце існавання ў Польшчы БГКТ і „Нівы" бачым доказ таго, што беларуская меншасць у Народнай Польшчы мае неабходныя ўмовы да дзейнасці ў напрамку культурнага развіцця і пабудовы сацыялізму.

Кантакты паміж Беласточчынай і Гродзеншчынай маюць вельмі шырокі дыяпазон. Датычаць яны і навукі, і прамысловасці, і сельскай гаспадаркі і культуры.

Толькі ў 1956 годзе выехала з Беласточчыны на Гродзеншчыну 8 дэлегацый, якія складаліся ад 5 да 50 чалавек. У склад дэлегацыі ўваходзілі партыйныя дзеячы, сяляне, настаўнікі, прадстаўнікі прафсаюзаў. Таксама з Гродзеншчыны не раз прыязджалі на Беласточчыну прадстаўнікі розных прафесій.

Да вельмі цікавых форм беластоцка-гродзенскіх кантактаў належаць масавыя сустрэчы польскага і беларускага насельніцтва ў прыгранічных раёнах. Першая з такіх масавых сустрэч мела месца ў 1958 годзе ў Кузніцы з нагоды Міжнароднага тыдня салідарнасці працоўных. У наступных гадах падобныя масавыя сустрэчы спалучаныя з мітынгамі адбыліся, між іншым, у Ялоўцы і Берастовіцы. Дзякуючы гэтым сардэчным сустрэчам тысячы людзей з Беласточчыны і Гродзеншчыны змагло асабіста сустрэцца, навязаць кантакты, паглыбіць дружбу.

Варта ўспомніць таксама аб некалькіх ужо прыездах на Беласточчыну мастацкіх калектываў з Гродзеншчыны. Па-за Беластокам выступалі яны ў Гайнаўцы, Саколцы, Белавежы, Аўгустове, Замброве. І Беластоцкія калектывы не раз выязджалі на Гродзеншчыну. Сярод гэтых калектываў знайшліся „Зялёныя курпі", калектыў ГП БГКТ і аркестр кіраваны Куляшэвічам.

Абменьваюцца вопытам таксама некаторыя фабрыкі Беласточчыны і Гродзеншчыны... Адносіцца гэта перад усім да фабрыкі Сяржана і ваўнянага камбіната ў Гродне.

Нярэдка сустракаюцца навуковыя супрацоўнікі Беластоцкай медычнай акадэміі і Медыцынскага інстытута ў Гродна. Доказам канкрэтнай дапамогі з боку Гродзеншчыны для Беласточчыны было перадание ў 1958 годзе двух камбайнаў і двух трактараў. Машыны гэтыя былі раздзелены паміж спулдзельнямі ў Дарожках, Васьках, Крывой і Вульцы Нурэцкай.

Цікава развіваецца супрацоўніцтва паміж спартсменамі, гарцэрамі, маладзёжнымі арганізацыямі.

ГП БГКТ заўсёды ўключалася ў розныя формы польска-беларускага супрацоўніцтва. Прыняло яно ў сябе дзесяткі дзеячоў, вучоных і пісьменнікаў з БССР. У апошнія гады БГКТ арганізавала дзве экскурсіі ў БССР для свайго актыву. Апрача гэтага БГКТ праводзіць грамадную работу ў галіне распаўсюджвання інфармацыі аб жыцці БССР. Работа гэта з кожным годам паглыбляецца і пашыраецца. Зразумела, што мы тут прывялі толькі некаторыя факты з галіны польска-беларускага супрацоўніцтва. Але ўжо і на іх прыкладзе бачым, што БССР і Польшча зрабілі нямала для запазнання свайго насельніцтва з жыццём суседзяў, і што ўжо ўсё зробленае добра служыла справе міру і дружбы.

**Аляксандр Баршчэўскі**

# Кастусь Каліноўскі

## (ДА 110 ГАДАВІНЫ СМЕРЦІ)

Прозвішча, ідэі, дзейнасць Кастуся Каліноўскага — бадай што найпрыгажэйшай постаці ў беларускім руху XIX ст. — выклікаюць асаблівую эмоцыю ў нас, у беларусаў Беласточчыны. Прычына гэтай эмацыянальнасці ў тым, што Каліноўскі вырас на нашай зямлі, марыў аб яе свабодзе, ваяваў за яе і за яе загінуў.

Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі 21 студзеня 1838 года ў вёсцы Мастаўляны каля Ялоўкі. Бацька Кастуся быў мясцовым памешчыкам, цікавіўся ткацтвам. Збудаваў нават тэкстыльную фабрыку, якую пасля перанёс у новы маёнтак, Якушоўку пад Свіслаччу.

Вось у гэтых дзвюх беларускіх вёсках, у Мастаўлянах і Якушоўцы, прайшлі дзіцячыя гады Кастуся Каліноўскага. Тут вывучыў ён беларускую мову і тут пазнаёміўся з нядоляй беларускай вёскі. Пачынаючы з 1848 года па 1855 год Каліноўскі вучыўся ў Свіслоцкай гімназіі. На гэты перыяд прыпадае паглыбленне ведаў аб жыцці, аб страшэнных грамадскіх кантрастах, аб паншчыне, якая дайшла да свайго апагея і спіхнула селяніна на дно нэндзы. Высокія ідэалы афіцыйнай дзяржаўнай навукі, дурман царскага культу, пустая фразеалогія памешчыцтва — усё гэта ў словах народнае, а ў істоце варожае сялянскім элементарным інтарэсам, не магло не кідацца ў вочы дапытліваму юнаму Кастусю Каліноўскаму. Чым больш становяцца гаваркімі пануючыя класы, чым часцей паяўляюцца ў іх выказваннях фразы аб праўдзе, альтруізме, спачуванні, тым больш у сапраўдных пачуццях гэтых класаў і ў іх паступках эгаізму, маны, ашуканства. Зразумела, што народныя масы ў такой сітуацыі сваёй інтуіцыяй дасканала адчуваюць крывадушлівасць пануючых. Такой была сітуацыя ў палове XIX стагоддзя.

Малады Каліноўскі, калі і не ўмеў яшчэ дыялектычна аналізаваць існуючую сітуацыю, дык інтуіцыйна разумеў, што царска-памешчыцкая машына дзейнічае ў напрамку паглыблення сялянскай нядолі. Хто ведае, ці не самаўладства памешчыцтва і разгул царскага чыноўніцтва былі прычынамі, якія накіравалі Каліноўскага ў юрыдычную вышэйшую ўстанову. Хто ведае, можа Каліноўскі ўжо тады рашыў бараніць пакрыўджаных у судзе. Скончыўшы свіслоцкую гімназію, Каліноўскі накіраваўся ў Маскву. Там ужо прабываў яго брат Віктар. Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Правучыўся там аднак толькі паўгода. У сувязі з пераездам Віктара ў Пецярбург, у гэты ж горад накіраваўся таксама Кастусь. У Пецярбурзе Каліноўскі паступіў на універсітэт, які скончыў у 1860 годзе са ступенню кандыдата юрыдычных навук.

Захаваліся шматлікія дакументы, якія сцвярджаюць аб тым, што Каліноўскі, знаходзячыся ў Пецярбургскім універсітэце, многа раз звяртаўся да ўлад з просьбай звольніць яго ад абавязку аплаты за навучанне. За кожным разам Каліноўскі матываваў сваю просьбу матэрыяльнымі цяжкасцямі. Ці сапраўды Каліноўскі быў дрэнна забяспечаны фінансавымі

сродкамі? Досыць цяжка адказаць на гэтае пытанне. Бацька Каліноўскага спраўна вёў сваю гаспадарку і няма падстаў думаць, што не памагаў свайму сыну. Дык можам думаць, што Каліноўскі, спасылаючыся на свае ўбоства, карыстаўся прыёмам, да якога адклікаліся і адклікаюцца, мабыць усе студэнты свету.

Займаўся аднак справамі больш сур'ёзнымі. Мы ўжо сказалі, што беларуская сялянская рэчаіснасць мела вялікі ўплыў на фармаванне юнацкіх поглядаў Каліноўскага. Калі гаворым аб пецярбургскім перыядзе жыцця Каліноўскага, дык мусім падкрэсліць, што руская грамадская рэчаіснасць мела грамаднае значэнне ў крысталізацыі ідэалаў і поглядаў нашага рэвалюцыянера. Трэба памятаць, што прабыванне Каліноўскага ў Пецярбурзе прыпала на той перыяд у гісторыі Рускай імперыі, калі наступіла шпаркае пашырэнне ідэй разначыннай рэвалюцыйнай дэмакратыі, якая гвалтоўнасцю і дынамікай сваёй аргументацыі раз і назаўсёды зварухнула з месца скастнеласць рускай рэчаіснасці. Чарнышэўскі, Бялінскі, Дабралюбаў, Агароў, былі тымі людзьмі, якія аказвалі ўсё большы ўплыў на інтэлектуальныя цэнтры краіны. Іх погляды хутка пашыраліся, ахопліваючы ўсё большыя групы людзей. А асабліва вялікі ўплыў на рускае жыццё меў Аляксандр Герцэн, які знаходзіўся ў эміграцыі. Па імперыі нават кружыў анекдот, у якім гаварылася, што невядома хто кіруе Расіяй — Аляксандр II ці Аляксандр Герцэн. Гаворачы аб крышталізацыі поглядаў К. Каліноўскага, мы не можам абмінуць уплыву на яго польскай пецярбургскай калоніі, у якой было многа студэнтаў, вайсковых і рабочых. Палякаў ніколі не пакідала думка аб антыцарскім паўстанні. Думка гэта сталася пуцяводнай зоркай у думках і будучай практыцы Каліноўскага. Даследуючы працэс фармавання ідэалогіі Каліноўскага не можам абысці таксама заходнееўрапейскага ўплыву. Заходняя Еўропа, а перш за ўсё Францыя, ад упадку Напалеона, была не толькі цэнтрам перадавой думкі, але і рэвалюцыйнай практыкі. Рэвалюцыйныя зрывы, Вясна народаў, падтрымка польскага паўстання ў 1831 годзе — усё гэта не магло не прымушаць патэнцыяльных рэвалюцыянераў у Польшчы, Беларусі і Расіі звяртаць свае вочы на захад. Сярод гэтых людзей быў, несумненна, і Каліноўскі.

Закончыўшы Пецярбургскі універсітэт і вярнуўшыся ў Беларусь, Каліноўскі быў чалавекам з выразна акрэсленай сістэмай грамадскіх і палітычных поглядаў. Погляды гэтыя зложыліся пад уплывам наступных фактараў:

а) беларуская рэчаіснасць і антыпрыгонны сялянскі рух;

б) дзейнасць прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі;

в) ідэі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі;

г) свабодалюбівыя тэндэнцыі ў заходнееўрапейскай дэмакратычнай думцы.

Прыехаўшы на пераломе 1860 і 1861 года ў Беларусь, застаў Каліноўскі зусім іншую сітуацыю, чым тая, якую пакінуў, выязджаючы ў Маскву і Пецярбург.

Наступіла выразная актывізацыя інтэлігенцыі і забітага дагэтуль беларускага сялянства. Сацыяльныя канфлікты завастрыліся да крайнасці. Выбухалі антыфеадальныя бунты. Над галавой пануючых класаў вісеў прывід татальнай рэвалюцыі. У такой сітуацыі царскі ўрад зрабіў уступку ў выглядзе зямельнай рэформы 1861 года.

Рэформа ў значнай ступені пахавала сялянскія надзеі на поўнае вызваленне. Разам з рэалізацыяй рэформы канчаткова развейваўся міф аб высакароднасці цара і яго апякунчых адносінах да народа. Такім чынам у Беларусі далей існавала рэвалюцыйная сітуацыя. Такая ж сітуацыя існавала таксама ў Польшчы, дзе паншчына не была ліквідавана і ў далейшым глуміла сялянскія масы. У нацыянальнай сітуацыі таксама існавала падабенства паміж Беларуссю і Польшчай. І адзін, і другі народы былі пазбаўлены незалежнасці той самай дзяржавай — царскай імперыяй. Такім чынам існавалі прычыны да сумеснага антыцарскага выступлення, да супольнага паўстання. Заставалася аднак нявырашанай справа характару паўстання і ўдзелу ў ім сялянскіх мас — справа, у якой ніколі не дайшло да поўнай згоды паміж паасобнымі важакамі паўстання.

Каліноўскі — адзін з кіраўнікоў паўстанцкага парыву — звязваў надзею аб удачы паўстання з супольным выступленнем беларусаў, літоўцаў, палякаў і украінцаў. Разлічваў ён таксама на падтрымку з боку рускага рэвалюцыйнага элементу.

Каліноўскі, прапагандуючы супольнасць барацьбы з царскай сістэмай, адстойваў права няпольскіх народаў на самастойнае дзяржаўнае існаванне, з чым не заўсёды згаджалася Варшава.

Другой, бадай што найважнейшай прычынай нязгоды паміж Каліноўскім і правымі важакамі паўстання быў характар антыцарскага руху. Паводле Каліноўскага, паўстанне павінна было быць не толькі антыцарскім, але і антыпамешчыцкім, антышляхецкім.

Адзін з умераных важакоў паўстання А. Гіллер такім чынам характарызуе погляды Каліноўскага на паўстанне:

„...Кранула мяне балюча яго тэорыя аб будучым паўстанні ў Літве, якое па думцы Каліноўскага павінна было абапірацца толькі на польскае сялянства, а шляхту, значыць, трэба пакінуць на баку" (Agaton Giller. Historia Powstania Narodu Polskiego, Paryż, 1867 г., t. I, s. 49).

Зразумела, што выказваючы такія думкі, Каліноўскі не мог не папасці ў глыбокі канфлікт з правымі арганізатарамі паўстання, якія прагна глядзелі на беларускія і літоўскія землі, ды з выразным жахам сачылі за антыпамешчыцкімі тэндэнцыямі ў сялянскім руху. У Вільні быў створаны „Камітэт руху", які меў кіраваць паўстаннем. У сувязі з тым, што ў гэтым органе рашаючы голас мелі людзі тыпу Каліноўскага, варшаўскі цэнтр разграміў „Камітэт руху" і замест яго быў створаны „Камітэт, загадуючы правінцыямі". Ужо ў назве гэтага органа паявіўся экспансіўны характар. З назвы вынікала, што Беларусь, Літва і Украіна гэта ўсяго толькі правінцыі, а не асобныя часткі Рэчыпаспалітай. Зразумела, што такая трактоўка нацыянальнага пытання выяўляла інтарэсы польскіх

феадалаў і абшарнікаў, якія былі аднолькава варожыя як беларускаму, так і польскаму селяніну.

У трактоўцы нацыянальнага пытання Каліноўскі стаяў, несумненна, на пазіцыі блізкай Герцэну і Бакуніну, якія лічылі, што народы павінны мець поўную свабоду ў выбары дзяржаўнай формы свайго існавання і выбары формы сваіх адносін з суседзямі. Канкрэтна, для Украіны, Літвы і Беларусі прызнаваў Герцэн (і яго саратнікі) правы на самастойнае існаванне або федэрацыю з Польскай ці Расіяй.

Толькі воля данага народа, а не вырашэнні з боку мацнейшых суседзяў, павінна акрэсліваць лёс нацыянальнасцей. Несумненна, такіх поглядаў прытрымліваўся Каліноўскі.

Адной з найважнейшых прычын нязгоды паміж правымі і левымі кіраўнікамі паўстання была нацыянальная праблема. Правыя кіраўнікі паўстання лічылі, што новая Польшча павінна адрадзіцца ў старых граніцах Рэчыпаспалітай Шляхецкай. З такой пазіцыяй не згаджаліся левыя кіраўнікі паўстання і прадстаўнікі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, з якімі польскія паўстанцкія дзеячы былі ў кантакце. Рускія рэвалюцыянеры абяцалі падтрымаць польскае паўстанне толькі ў тым выпадку, калі палякі гарантуюць беларускаму, украінскаму і літоўскаму народам правы на свабодны выбар формы дзяржаўнага быту. Герцэн на старонках „Колакала" пісаў: „У сучасных умовах вельмі цяжка даведацца, чаго жадаюць Літва, Беларусь і Маларасія, прыгнёт рускага ўрада не дае ім малейшай магчымасці выказацца і гэты ж прыгнёт прымушае іх змешваць усё рускае з урадавым" і далей: „...Скажам разам з палякамі: быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны хочуць, або ні з кім, каб толькі волю іх пазнаць не падробленную, а сапраўдную" (А. Герцэн. Полное собрание сочинений п.р. Лемке т. XV, с. 516).

Не менш выразна па гэтаму пытанню высказаўся Бакунін: „Я думаю, што ўся Украіна, а таксама і Беларусь будуць самаістнымі сябрамі агульнаславянскай сувязі. Я вымагаю толькі аднаго, каб кожнаму малому і вялікаму племю былі даны магчымасці і права дзейнічаць згодна з уласнай воляй. Жадае ён зліцца з Расіяй ці Польшчай, няхай зліваецца, хоча быць самаістным, няхай будзе гэтакім. Урэшце хоча ён зусім ад усіх аддзяліцца і жыць ва ўмовах зусім асобнай дзяржавы — бог з ім, няхай аддзяляецца" (цытата з кнігі: М. Піотуховіч. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры, Менск, 1928 с. 94).

Кіраўнікі польскага паўстання пасля доўгіх перагавораў з групай Герцэна пайшлі на частковыя ўступкі ў нацыянальным пытанні і ўрэшце на старонках „Колакала" апублікавалі заяву, у якой, між іншым, было сказана: „Імкнемся да адраджэння Польшчы ў даўніх межах, пакідаючы за народамі, пражываючымі ў гэтых межах, гэта значыць, за літвінамі, і русінамі, свабоднае права выбару аб'яднання з Польшчай або вырашэння свайго лёсу згодна з уласнай воляй".

Гучэла гэта досыць дэмакратычна. Была гэта аднак толькі тэорыя. На практыцы, важакі паўстання, якія выходзілі найчасцей з абшарнікаў,

сур'ёзна ніколі не думалі аб магчымасці адрыву ад Рэчыпаспалітай, Літвы, Беларусі і Украіны.

Як глядзеў на нацыянальную праблему Каліноўскі? Быў блізкі Герцэну і Бакуніну і далёкі правым важакам паўстання. Не мог аднак выяўляць сваіх поглядаў. Вымушаны быў лічыцца з Варшавай. Пасля разгрому „Камітэта руху" Каліноўскі мог застацца па-за паўстаннем. У такой сітуацыі ўвайшоў у „Камітэт, загадваючы правінцыямі", і быў назначаны на пост ваеннага камісара Гродзеншчыны. Дакладнае веданне тэрыторыі, знаёмства з многімі людзьмі, веданне сялянскай псіхалогіі, дазволілі Каліноўскаму паспяхова развіваць паўстанне 1863 года. Разгортванне паўстанцкіх падзей мела асабліва востры характар у заходніх губернях, якія гранічылі з галоўным цэнтрам паўстання — Польшчай.

Пры гэтым аднак трэба адзначыць, што далёка не ўсе матэрыяльныя і чалавечыя рэзервы Беларусі былі выкарыстаны ў паўстанні. Павольнае выгасанне паўстання ўжо ў канцы 1863 года забівала ў многіх веру ў перамогу. Пасля арышту многіх паўстанцкіх дзеячоў, Каліноўскі становіцца фармальным і фактычным кіраўніком паўстання ў Беларусі і ў Літве.

Цяпер зноў мог актыўней і больш адкрыта дэманстраваць свае погляды на сацыяльнае і нацыянальнае пытанне. Прадстаўнік Варшаўскага цэнтра Агатон Гіллер так апісвае адну з антыпольскіх дэманстрацый, якая адбылася на пасяджэнні Віленскага „камітэта, загадваючага правінцыямі": „Пасля сказанага мною ўсе згадзіліся, што прычына бяздзеяння знаходзіцца ў Варшаве, а Малахоўскі крыкнуў: „Досыць гэтай пасіўнасці, Варшава не разумее нашых патрэб, мы самі павінны радзіць над дабром Літвы, мы ўсе тут сабраныя рашылі ліквідаваць гэтую залежнасць, якая нас губіць". Гаворачы так, ён кінуў на стол пячатку, на якой апрача герба былі выразаныя словы „Камітэт, загадваючы Літвой". (Agaton Giller, Historia Powstania Narodu Polskiego, Paryż 1867, t. II, s. 62—63).

Пазбаўленне пячаткі польскага арла і ўстанаўленне новай назвы паўстанцкага органа, называе Гіллер „сепаратызмам і здрадай", але якраз у гэтых фактах выявіліся настроі, якія былі характэрныя для Каліноўскага і яго саратнікаў. Каліноўскі ніколі не згаджаўся з экспансіўнай палітыкай белых — меў сваю праграму, праграму сацыяльнай і нацыянальнай рэвалюцыі.

Паўстанне аднак уратаваць было нельга. З кожным днём яно падала пад напорам царскіх войск. Хутка крывавы марш расправы Мураўёва закончыўся балючым акордам — смерцю Каліноўскага. У апошнюю фазу паўстання ён жыў у Вільні, недалёка ад кватэры Мураўёва-вешацеля. Выступаў Каліноўскі пад псеўдонімам Вітажэнца. Яго здрадзіў адзін з паўстанцаў. Арыштавалі яго каля дзвярэй сваёй кватэры 1 студзеня 1864 года. У часе следства, якое было праведзена ў атмасферы фізычных мук, Каліноўскі ніколі не выдаў і не выракся сваіх поглядаў. Палемізаваў ён нават з чыноўнікам, які чытаў пад шыбеніцай смяротны прыгавор. Каліноўскі быў павешаны ў Вільні на Лукішскай плошчы 10 сакавіка 1864 года. Было яму тады ўсяго 26 гадоў.

Каліноўскі быў не толькі дзеячом але публіцыстам і паэтам. У глыбокай канспірацыі друкаваў ён на пераломе 1862 і 1863 года праўдападобна ў Беластоку першую беларускую газету „Мужыцкая Праўда". Падпісваў яе псеўдонімам Яська гаспадар з-пад Вільні. Першы нумар гэтай газеты змешчан у календары.

**Аляксандр Баршчэўскі**

Mużyckaja prauda

Dzieciuki!

Minuło uże toje, kali zdawało sia usim szto mużyckaja ruka zdasce tolki da sachi, — ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa świeci! Niachaj paznajuć szto my możem nie tolki karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swojej mużyckoj praudaj.

Pytali i pytajuć usie szto czuwaci na świeci, chto nam biednym mużykam daść wolność? No praudu skazawszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe — pa sprawiedliwości. My mużyki, braty waszyje, my wam budziem hawaryć całuju praudu, tolki słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou, buduć pierepyniać pismo nasze da was; no najdućsia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych, szto choczuć waszej swabody, waszaho szczaścia — jony to wam heto pismo dawaci buduć, kab wy znali chto wasz przyjaciel, a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło, jak paczali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho, a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau, to taki durny, czto czort wiedaje da czecho jon podobny, — ni jakoj u niom niema praudy, nie ma z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi, zrabili sud, jakby heta nie usio rouno brać u sraku czy z sudom czy bez suda. Parabili Pisarou, pasrednikou, a usio za mużyckije hroszy i wielikije hroszy — czort ich wiedaje na szto; dla toho chyba kab zapisywali książki, jak mnoho napiszuć na srakach mużyckich. A z hetoho to i widać, szto nam niczoho dobraho i nie dumali rabici.

Prauda obieszczali szto kaliś daść nam wolność; no jak nam zdajeć sia na nasz mużycki rozum szto choczuć aszukaci, bo kali prez sześć let niczoho nie zrabili, to czerez rok peunie nie zrobiać. Mohuć jeszcze napisaci i druhi manifest, jeszcze bolszyj ad hetaho, no i z hetaho druhoho manifestu niczoho dobraho jak i z pierszaho nie budzie.

Ad maskala i panou nie ma czeho spadziewaci sia; bo jony nie wolności a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć. No nie douho jony nas buduć abdziraci, bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać ziemlu i swabodu. Waźmiem sia Dzieciuki za ruki i dziarżem sia

razom! a kali pany choczuć trymać z nami, tak niechaj że robiać po świętej sprawiedliwości: bo kali inaczej — to czort ich pabiary! Mużyk pakul zdużaje trymaci kosu i sakieru, baranić swaho patrafić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

Hetu: Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni. Kasztuje hroszy 5.

# Эліза Ажэшка і Беларусь

Польская пісьменніца Эліза Ажэшка (1841—1910) усё сваё працавітае жыццё ў асноўным правяла на Гродзеншчыне. Кожны год летам выязджала яна ў беларускія вёскі ў гродзенскім, берастаўіцкім і свіславіцкім раёнах. Цэлыя месяцы жыла пісьменніца ў Мяневічах, у Паніжанах, а таксама ў многіх іншых прынёманскіх вёсках.

Яе кантакты з беларускім сялянствам распачаліся яшчэ ў раннім дзяцінстве, а пазней знайшлі шматлікія адлюстраванні ў багатай творчасці. Без пераўвялічвання можна сказаць, што ў цэлай гісторыі сусветнай літаратуры няма іншага пісьменніка, які б з такім зацікаўленнем адносіўся да беларускага люду, які б прысвяціў яму столькі твораў. Эліза Ажэшка была тут першай.

Жыла яна 69 гадоў, з якіх больш чым паўстагоддзя заняла ёй безупынная творчая праца. Напісала звыш двухсот раманаў, аповесцей, навел і расказаў. Падзеі ў яе творах пераважна разыгрываюцца на роднай для яе Гродзеншчыне, а героямі іх з'яўляюцца беларусы розных саслоўяў, вельмі часта гарадская бедната і беларускія сяляне.

Прыгадаем хаця некаторыя: аповесці — „Дзюрдзі", „Хам", „Бене наці", „Сыльвек Цментарнік", „Відма", „Над Нёманам", „Нізіны", „З жыцця рэаліста", „Зыгмунт Лавіч і яго сябры"; навелы — „Шэрая доля", „Юльянка", „Неружовая ідылія", „У зімовы вечар", „Хохлік-Псотнік"; расказы — „Абразок з галодных гадоў", „Добрая пані", „А... Б... Ц...", „Панна Антаніна", „Тадэвуш", „Рэха", „Цень", „Яны", „Пані Дудкова" і іншыя.

Для мастацкага адлюстравання псіхічнай глыбіні сваіх гераічных персанежаў Ажэшка часта выкарыстоўвала бяздоннае багацце народнай творчасці. Для прыкладу, у навелы „У зімовы вечар" народны фальклор так цесна пераплятаецца з аўтарскім расказам, што складае ён быццам бы дадатковы паясняльны каментарый, арыентуючы чытача ў гушчары псіхалагічных перажыванняў герояў гэтага твора. Асабліва датычыць гэта старога Мікулы і яго сына Ясюка, які пасля многіх гадоў, пад выглядам незнаёмага вандраўніка нераспазнаны, змучаны і замерзшы, зайшоў да бацькоўскай хаты. У хаце Мікулы адбываюцца вясковыя вечарынкі. Дзяўчаты прадуць кудзелі, хлопцы расказваюць навінкі, усе ра-

зам спяваюць свае, беларускія песні. Бабулька Настуля расказвае казкі, чытае з памяці народныя балады. Асабліва адна з іх, балада пра двух разумных і аднаго дурнога братоў, робіць на прысутных вялікае ўражанне. Змест гэтай старыннай беларускай балады яскрава адлюстроўвае становішча ў сям'і Сымона Мікулы, даводзіць да таго, што бацька пазнае сына, якога лічыў ужо мёртвым і дарує яму шматлікія і цяжкія грахі.

Яшчэ больш значную ролю беларускаму фальклору адводзіць Эліза Ажэшка ў вядомай аповесці пра беларускіх сялян з вёскі Сухая Даліна. І вёска, і яе жыхары — героі кніжкі — сям'я Дзюрдзяў, аўтэнтычныя. Сама пісьменніца, у адным з лістаў (у адказ на крытычныя заўвагі Генрыка Сянкевіча) піша, што яна ганарыцца тым, што яе Дзюрдзі — людзі сапраўдныя, што гэта беларускія сяляне, якія „яшчэ астаюцца на нізкім узроўні цывілізацыйнага развіцця".

Гэтыя Дзюрдзі, напіўшыся гарэлкі ў мястэчковай карчме, забілі люшнямі ад воза маладую Пятрусю, жонку каваля Міхася, якую ў вёсцы падазравалі ў вядзьмарстве. „Чартоўскую моц мы знішчым", — пасля гэтага злачынства гаварыў Пётр Дзюрдзя, старэйшына сям'і Дзюрдзяў. А калі паставілі іх перад судом, забойцы Пятрусі не маглі зразумець, за што іх судзяць. „Мы ж не чалавека забілі, — думалі яны, — а толькі вёску ад нячыстай сілы высвабадзілі". Згодна з меркаваннямі аб злачынстве, віне і пакаранню, уласцівымі беларускаму люду з другой палавінай мінулага стагоддзя, забойства чалавека западазронага ў вядзьмарстве можа быць палічана не як злачынства, але як праява геройства. Жыхары Сухой Даліны былі глыбока перакананы ў тым, што Пятруся з'яўляецца „вядзьмаркай" і па начах задаецца з д'яблам. Бо калі пад крыжам на растайных дарогах расклалі агонь з асінавых дрэвак, пры дапамозе якога мелі выкрыць, хто ў іх вёсцы „ведзьмаруе", хто іх каровам адабраў малако, першай на гэты агонь прышла менавіта Пятруся. Яна вярталася з поля, несла поўны фартух рознага зелля — якога лячэбныя ўласцівасці ведала найлепш у вёсцы. Ідучы дадому весела спявала:

„Ой пайду, пайду ў лес і лясочкі,
Дзе расцвітаюць дробныя лісточкі.
Там я хадзіла і гаварыла,
Судзя мяне, божа..."

І тады аднавяскоўцы гавораць ёй, што яна „ведзьма", калі першая прыйшла на агонь. Такі спосаб выяўлення „ведзьмы" занатаваў таксама Міхал Федароўскі ў першым томе свайго „Люду беларускага".

Пятруся не паверыла сялянскаму прыгавору, хаця сама сябе пытала, чаму менавіта яна першая з'явілася на гэты праклятый агонь. Адыходзячы ад яго, кавалёва жонка заводзіла вясёлую беларускую песню: „Гілі, гілі, шэры гусі", якую яшчэ і цяпер часам можна пачуць ад старэйшых жыхароў прынёманскіх вёсак. А пазней, па меры развіцця дзеяў аповесці „Дзюрдзі", песні Пятрусі і расказы яе маці, сляпой Аксены, спадарожнічаюць лёсу герояў да апошніх старонак кніжкі. Калі малады Дзюрдзя, сын багатага гаспадара, нахабна заляцаецца да беднай Пятрусі, яна ў

адказ спявае яму песню пра дзяўчыну, якая хоча мужа беднага, але каханага, бо багаты будзе біць і з хаты выганяць. Калі ў вёсцы ўсё больш варожа будуць адносіцца да „вядзьмаркі" Пятрусі, маці раскажа ёй гісторыю „ведзьмы" Марцысі, якая ані парабкаў, ані паніча за мужа не хацела, а толькі да д'ябла заляцалася, за што яе ў агонь кінулі. Урэшце без віны вінаватая Пятруся пачуе ад сваёй маці, як людзі затаўклі дубінкамі парабка Пракопка, якога западозрылі ў пакражы коней.

Усе гэтыя народныя песні і расказы з'яўляюцца адначасова рашаючымі драматычнымі вузламі ў лёсе беднай кавалёвай жонкі. Яны паясняюць і каменціруюць усё, што дзеецца ў аповесці, указваюць сувязь адзінкі з акружаючым асяроддзем.

Выдатная польская даследчыца творчай спадчыны Элізы Ажэшкі — Марыя Жмігродзкая піша, што расказы старой Аксены і песні Пятрусі з'яўляюцца не толькі дакументамі багатага фальклору беларускага люду, але пісьменніца выкарыстала іх да пабудовы своеасаблівага паэтычнага настрою, які характарызуе яе сялянскія аповесці.

Эліза Ажэшка не першая сягнула да беларускага фальклору, але яна першая выкарыстала яго так творча і шматбакова. Народная творчасць з'яўляецца неадменнай часткай яе шматлікіх твораў пра беларусаў.

Беларуская даследчыца літаратурнай спадчыны Элізы Ажэшка і аўтар першай беларускай манаграфіі пра яе — Валянціна Гапава, між іншым, сцвярджае, што мінулая Беларусь ажывае са старонак аповесці Элізы Ажэшка ў яркіх вобразах сялян-беларусаў, у малюнках прынёманскай прыроды, у жанравых сцэнах беларускага быту. Народ заўжды ў аўтара „Хама" маральна здаровы, чысты і працавіты.

Эліза Ажэшка вельмі станоўча адносілася на беларускага культурнага і нацыянальнага адраджэння. Вядома яе перапіска з Францішкам Багушэвічам, якога яна заахвочвала, каб пісаў свае творы менавіта на беларускай мове. Гэтую мову пісьменніца ведала даволі добра і часам сама ёю карысталася. Піша пра гэта ў лістах да варшаўскіх сяброў.

Дзіўна тады, што няма беларускіх перакладаў яе твораў. Апрача сцэнічных апрацовак „Дзюрдзяў" і навелы „У зімовы вечар", зробленых яшчэ ў першай чвэрці нашага стагоддзя, патомкі Ажэшкавых герояў-беларусаў не маюць магчымасці чытаць яе твораў на сваёй роднай мове. Сянкевіч, Прус, Канапніцкая — па-беларуску, калі ласка, даступныя, а вось Элізы Ажэшка, на жаль, няма. Чаму?

**Віктар Рудчык**

# Арганізацыя Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі на Беласточчыне

У канцы кастрычніка 1973 г. мінула 50 год з дня ўтварэння Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Рэалізуючы рашэнні II з'езду Камуністычнай партыі Польшчы ў кастрычніку 1923 года сабралася ў Вільні канферэнцыя прадстаўнікоў арганізацыі КПП з тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая паклікала да жыцця Камуністычную партыю Заходняй Беларусі і выбрала яе цэнтральныя ўлады.

КПЗБ была аўтанамічнай арганізацыяй КПП і, як яе секцыя, не мела самастойнай праграмы. Заданнем КПЗБ была камуністычная дзейнасць у спецыфічных умовах Заходняй Беларусі мабілізаваць працоўныя масы да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. КПЗБ паказвала, што вызваленне гэта магчыма толькі ў сумеснай барацьбе польскіх і беларускіх працоўных мас супраць капіталістычнага ладу і за ўстанаўленне ў Польшчы народнай улады. Толькі такая праграма была правільнай і таму карысталася вялікай сімпатыяй беларускага народа, якой ніколі не мелі беларускія буржуазна-нацыяналістычныя арганізацыі. У рэвалюцыйнай барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне КПЗБ выказала многа вытрымкі і ахвярнасці. Яна выхавала рад рэвалюцыйных партыйных дзеячоў, якія актыўна змагаліся з гітлераўскім акупантам, а таксама арганізавалі Польскую рабочую партыю і ўмацоўвалі народную ўладу.

Камуністычная партыя Заходняй Беларусі трывала ўвайшла да традыцыі польскага рабочага руху, таму пазнанне яе гісторыі і дасягненняў з'яўляецца абавязкам кожнага члена партыі.

Сваёй дзейнасцю КПЗБ ахоплівала значную частку Беласточчыны. У 1923—25 гады ў Беластоку знаходзіўся яе Цэнтральны камітэт, а беластоцкая арганізацыя КПЗБ мела найбольшую колькасць членаў і рабочага актыву; была „кузьняй" рабочых кадраў для цэлай КПЗБ.

Пра дзейнасць КПЗБ можна даведацца з многіх публікацый ВК ПАРП і артыкулаў, якія друкаваліся ў прэсе. Няма аднак публікацый на тэму арганізацыйнай структуры і асабовага саставу гэтай партыі.

Улічваючы гэта Ваяводскі камітэт ПАРП правёў вельмі карпатлівыя даследванні, у выніку якіх стала вядомым калі і дзе існавалі на Беласточчыне ячэйкі КПЗБ і Раённыя камітэты, які быў іх асабовы сацыяльны і нацыянальны састаў.

* * *

Сваёй дзейнасцю КПЗБ ахоплівала паўднёвую, усходнюю і паўночную частку Беластоцкага ваяводства з наступнымі паветамі: Сямяціцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Беластоцкім з горадам Беласток уключна, а таксама

Сакольскім, Дамброўскім, Сувальскім, Сейненскім і ўсходняй часткай Аўгустоўскага павету.

Сямяціцкі, Бельскі, Гайнаўскі, Беластоцкі паветы і горад Беласток уваходзілі ў састаў беластоцкай акругі КПЗБ. Сядзібай Акруговага камітэта быў Беласток.

Паветы Сакольскі, Дамброўскі, Сувальскі, Сейненскі і ўсходняя частка Аўгустоўскага — уваходзілі ў састаў гродзенскай акругі КПЗБ. Сядзібай Акруговага камітэта было Гродна. Беластоцкая акруга была падзелена на раёны, якіх у 30-ыя гады было пятнаццаць, а менавіта: горад Беласток, Белавежа, Гайнаўка, Кляшчэлі, Бельск, Мілейчыцы, Сямяцічы, Бранск, Заблудаў, Гарадок, Міхалова, Харошча, Чорна Беластоцкая, а таксама раёны: Свіслач і Ваўкавыск, якія ў міжваенны перыяд належалі да беластоцкай акругі (цяпер БССР). У гэтых раёнах дзейнічалі раённыя камітэты КПЗБ, якія былі падпарадкаваны Акруговаму камітэту ў Беластоку. У Беластоку, Супраслі, Васількове, а некаторы час і ў Ясяноўцы, Кнышыне і Гонёндзу дзейнічалі гарадскія камітэты КПЗБ. Яны падлягалі непасрэдна Акруговаму камітэту ў Беластоку.

Сядзібамі раённых камітэтаў былі наогул названыя гарады і мястэчкі. Аднак здараліся выпадкі, калі іх сядзібай бывалі вялікія вясковыя арганізацыі. І тут нп. у 1933—34 гады сядзібай бельскага раённага камітэта была вёска Крывая, з заблудаўскага, у 1934—37 гады, вёска Паўлы, бо ў тых вёсках жылі сакратары раённых камітэтаў і значная частка партыйнага актыву.

Арганізацыйны склад КПЗБ у паветах, што ўваходзілі ў Гродзенскую акругу даследваны слабей. Вядома толькі, што там дзейнічаў Раённы камітэт у Сувалках, у які ўключаны быў Сейненскі павет і частка Аўгустоўскага разам з горадам Аўгустуў, а таксама Раённы камітэт у Крынках. Ячэйкі КПЗБ у вёсках Хомановічы, Рдавкі, Лосыняны і Самнікі належалі да раёна Галынка (цяпер БССР), а ячэйкі ў вёсках Азеранкі Вялікія і Азеранкі Малыя — да раёна Берастовіца (цяпер БССР). Апрача гэтага існавалі ячэйкі КПЗБ у мястэчку Чаромха і ў вёсках Ставішча і Палічна, якія былі падпарадкаваны Раённаму камітэту ў Высокім Літоўску Брэсцкай акругі (БССР).

У павеце Дамброва Беластоцкая ячэйкі КПЗБ існавалі ў Дамброве, у Новым Двожэ і ў наступных вёсках: Астрове, Гарасімовічы, Ячна, Грабяні, але да якога раёна яны належалі і дзе знаходзіўся Раённы камітэт, устанавіць нельга таму, што актыў КПЗБ з гэтых мясцовасцей выехаў у СССР, а дакументы, якія адносяцца да гэтых арганізацый, знаходзяцца ў Гродне.

Устаноўлена таксама, што ўжо ў першай палавіне 30-х гадоў дзейнічала на Беласточчыне 184 ячэйкі КПЗБ (158 у беластоцкай акрузе і 26 у тых раёнах Беласточчыны, якія тады належалі да гродненскай акругі).

Усе гэтыя ячэйкі не існавалі адначасова. Большасць з іх, таксама як раённыя і гарадскія камітэты, паўсталі ў 30-ыя гады. Потым, у выніку

арыштаванняў, некаторыя з іх былі ліквідаваны. Пасля нейкага часу частка ячэек узнаўляла сваю дзейнасць.

Магчыма, што колькасць ячэек КПЗБ у беластоцкай акрузе была большай, аднак не ўдалося ўстанавіць, які быў іх асабовы састаў і таму нельга іх улічваць. Па гэтых жа прычынах не ўзята пад увагу ячэйкі, у якіх групаваліся таварышы яўрэйскай нацыянальнасці, хаця вядома, што такія ячэйкі існавалі ў Бельску, Бранску, Заблудаве і ў іншых мястэчках.

Размяшчэнне партыйных арганізацый было няроўнамерным. Найбольш іх было ў паўднёва-ўсходняй частцы акругі. Найбольшай была арганізацыя КПЗБ у раёне Бельск Падляшскі: 263 члены; партыйныя ячэйкі існавалі ў 32 вёсках.

Другой па велічыні была арганізацыя КПЗБ у раёне Гарадка: 175 членаў; 22 вясковыя ячэйкі. Беластоцкая гарадская арганізацыя налічвала 122 члены і 17 ячэек, а арганізацыя КПЗБ у раёне Гайнаўкі — 83 члены і 22 ячэйкі, у тым ліку 17 вясковых.

З арганізацый КПЗБ, якія ўваходзілі ў састаў гродненскай акругі найбольшай была сувальская арганізацыя: 55 членаў і 16 ячэек.

У выніку даследванняў устаноўлена, што ў радах КПЗБ на Беласточчыне было 1094 камуністы, у тым 905 у беластоцкай акрузе (не ўлічваючы свіслацкага і ваўкавыскага раёнаў) і 189 у тых раёнах гродненскай акругі, якія знаходзяцца ў граніцах ПНР.

Колькасць членаў КПЗБ нярэдка мянялася таму, што многія з іх часта прабывалі ў турмах, або ў выніку экспрэсій страчвалі сувязь з партыяй, а таксама адходзілі з яе радоў.

## САЦЫЯЛЬНА-ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫ І НАЦЫЯНАЛЬНЫ САСТАЎ АРГАНІЗАЦЫЙ КПЗБ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Першыя арганізацыі КПЗБ паўсталі ў 1919 г. у Беластоку, Бельску Падляшскім і Сувалках, а крыху пазней у Крынках, Гарадку, Заблудаве і Сямяцічах. У рады КПЗБ прыходзілі спачатку былыя члены СДКПіЛ, левага крыла і рабочага актыву. Пазней дайшлі ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія вярнуліся з Расіі і пачалі шукаць кантактаў з КПЗБ. Рабочы актыў і ўдзельнікі Кастрычніка ўтваралі ядро арганізацыі КПЗБ у Крынках, Заблудаве, Кляшчэлях, Мілейчыцах, Сямяцічах, Міхалове, а таксама былі арганізатарамі многіх партыйных арганізацый на вёсках.

Значныя змены адбыліся ў канцы 20-х гадоў, калі вялікая частка актыву Грамады і НПС прыйшла ў рады КПЗБ. У партыю тады ўступіла многа сялян, а выступіла, баючыся рэпрэсій, частка яўрэйскага актыву. У 30-я гады большая колькасць яўрэйскіх таварышаў засталася толькі ў арганізацыях КПЗБ Беластока, Сямяціч, Сувалкаў, Бранска, Ясяноўкі. У сувязі з гэтым змяніўся сацыяльна-прафесіянальны і нацыянальны састаў КПЗБ на Беласточчыне. У 1932 г., паводле справаздачы акругі

 

было 544 сялян, 121 рабочых з большых прамысловых прадпрыемстваў, 34 рабочых з малых прамысловых прадпрыемстваў (усяго 155 членаў), 40 рамеснікаў, 7 беспрацоўных і 13 інтэлігентаў. Сяляне састаўлялі 71% агульнага ліку членаў, а рабочыя (разам з безработнымі) 21%. Гэтыя цыфры не адносяцца да арганізацый, якія ўваходзілі ў састаў гродненскай акругі.

З названых дадзеных вынікае, што КПЗБ на Беласточчыне была, галоўным чынам арганізацыяй сялянскай і базіравала на вёсцы. Рабочыя арганізацыі групаваліся пераважна ў Беластоку, Гарадку, Міхалове і Гайнаўцы. Аднак працэнт прамысловых рабочых у беластоцкай камуністычнай арганізацыі быў намнога большы чым у іншых акругах КПЗБ.

Пра нацыянальны састаў беластоцкай арганізацыі КПЗБ у справаздачы Акруговага камітэта гаворыцца, што ў 1932 г. у ліку 761 членаў было 561 беларус, 90 палякаў, 106 яўрэяў і 4 немцы, а ў 1934 г. у ліку 700 членаў беларусаў было 534, палякаў 82, яўрэяў 84. Гэтыя звесткі пацвярджаюць тэзіс, што колькасць таварышаў яўрэйскай нацыянальнасці ў КПЗБ паніжылася. Аб гэтым сведчыць таксама факт паніжэння іх удзелу ў саставе раённых і гарадскіх партыйных улад.

Большы ўдзел яўрэйскіх таварышаў у Акруговым камітэце быў абумоўлены галоўным чынам фактам, што там маглі працаваць людзі, якія мелі ідэйна-палітычную падрыхтоўку і агульную адукацыю а польскай інтэлігенцыі ў радах КПП было тады вельмі мала, беларускай жа амаль не было.

Пераважаючая колькасць беларусаў у беластоцкай КПЗБ вынікала не толькі з нацыянальнай структуры беластоцкай акругі. Беларусы сімпатызавалі арганізацыі таму, што КПЗБ клікала да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне супольна з польскім пралетарыятам, які выступаў з лозунгамі змагання супраць капіталістычнага ладу і за ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту. Вялікі ўплыў на гэта мелі тут і сімпатыкі да Савецкага Саюза.

Апрача беларусаў і яўрэяў у радах КПЗБ было даволі многа палякаў. Польскія камуністы, якія, між іншым, змагаліся і за вызваленне беларускага народа, даказалі сваёй адданасці справе інтэрнацыяналізму і адданасці справе свабоды народаў. І хаця ў КПЗБ усе таварышы былі прасякнуты ідэяй інтэрнацыяналізму, інтэрнацыяналізм палякаў заслугоўвае асаблівай увагі.

Спалучэнне ў праграме КПЗБ рэвалюцыйных і нацыянальна-вызваленчых ідэй стварала небяспеку для кіруючых буржуазных кругоў Польшчы. Нічога дзіўнага, што супраць членаў КПЗБ прымяняліся асабліва жорсткія рэпрэсіі. Аб гэтым сведчыць факт, што толькі на працягу палавіны 1931 года ў горадзе Беластоку за камуністычную дзейнасць было арыштавана 42 асобы, з якіх 28 асуджана на турму. З сабраных няпоўных дадзеных відаць, што 340 чалавек, гэта значыць 31% агульнага ліку членаў КПЗБ на Беласточчыне мела судовыя справы і сядзела ў турме. Некаторыя пападалі ў турму па некалькі разоў і мала прабывалі на волі.

У часе следства і ў турмах камуністаў нялюдска катавалі. Многіх членаў КПЗБ саджалі ў астрогі на кароткі тэрмін, пераважна перад пралетарыяцкімі святамі. Апрача гэтага былі іншыя — адміністрацыйныя рэпрэсіі: камуністаў звальнялі з працы, у іх кватэрах часта адбываліся рэвізіі. Вакол камуністаў улады стараліся стварыць нездаровую атмасферу.

Ясна, што ў такіх умовах слабейшыя адыходзілі, але большасць камуністаў мужна змагалася да канца.

Якія былі далейшыя лёсы камуністаў Беласточчыны? З сабраных дадзеных вынікае, што 363 таварышы, у тым ліку 295 з беластоцкай акругі, перажыло вайну і гітлераўскую акупацыю і жыве да сёння. Большасць з іх прымала актыўны ўдзел у барацьбе з фашысцкім акупантам. Члены КПЗБ арганізавалі антыфашысцкія камітэты, партызанскія атрады, у значнай меры дапамагалі справе перамогі над гітлерызмам. Пасля вызвалення яны ўступілі ў рады ПРП і змагаліся за ўстанаўленне народнай улады, працавалі ў розных дзяржаўных установах Польшчы. Цяпер большасць з іх знаходзіцца на заслужаным адпачынку.

У часе рэпатрыяцыі беларускага насельніцтва ў 1944—48 гады 185 членаў КПЗБ выехала ў Савецкі Саюз. Большасць з іх жыве ў БССР.

У капіталістычныя краіны выехала 19 чалавек (большасць у міжваенны перыяд). Такі выезд быў пэўнай формай уцёкаў яўрэйскіх таварышаў перад рэпрэсіямі.

Многіх камуністаў Беласточчыны ўжо няма ў жывых: 3 загінула ў час антыфашысцкага змагання ў Іспаніі, 9 — у савецкіх партызанах, 25 чалавек — на франтах II сусветнай вайны, вялікая колькасць была расстраляна гітлераўцамі.

У барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне загінула 328 членаў КПЗБ Беласточчыны, гэта значыць 30 працэнт ліку ўсёй арганізацыі.

Такой вялікай ахвяры не склала да гэтага часу ні адна камуністычная партыя. Гэта таксама з'яўляецца доказам вялікай актыўнасці і ахвярнасці гэтай партыі ў барацьбе за вызваленне чалавека.

## ПРА ІХ ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ

Партыйны актыў гэта найбольш дзейсная і дынамічная група ў кожнай палітычнай партыі, а тым больш у партыі, якая дзейнічае нелегальна. Знаёміў ён партыйныя нізы з дырэктывамі партыйных улад, распазнаваў сітуацыю на месцы і настроі мас, актывізаваў дзейнасць партыі і вучыў партыйныя арганізацыі цяжкай канспірацыйнай дзейнасці.

Актыў КПЗБ, які дзейнічаў у вельмі цяжкіх умовах канспірацыі, трапляў усюды дзе ішла класавая барацьба. Характэрнай рысай актыву КПЗБ была яго цесная сувязь з масамі, што вельмі дапамагала ў дзейнасці.

 

Ва ўмовах масавага паліцэйскага тэрору часта здаралася, што ў выніку арыштаў ліквідаваліся цэлыя партыйныя арганізацыі. І калі такія арганізацыі ўдавалася адбудаваць, то заслуга ў тым належыць дзеячам КПЗБ. Партыйная кадра КПЗБ мае вялікія заслугі не толькі ў сваёй арганізацыі, але была таксама арганізатарам ПРП прадаўжаючы рэвалюцыйныя традыцыі польскага рабочага руху. За сваю актыўнасць дорага заплаціла: яе дзеячы часта траплялі ў санацыйныя казаматы, з імі жорстка распраўляўся гітлераўскі акупант, а потым рэакцыйнае падполле.

Беластоцкая арганізацыя КПЗБ выхавала вялікую колькасць, як на ўмовы канспірацыі, актывістаў, якія дзейнічалі і ў пасляваенны перыяд.

У выніку даследвання ўдалося бліжэй пазнаць частку гэтых людзей і іх заслугі для польскага рэвалюцыйнага руху. Так нп. удалося ўстанавіць прозвішчы 12 сакратароў і 30 членаў Акруговага камітэта КПЗБ у Беластоку, а таксама прозвішчы 42 сакратароў і 134 членаў раённых і гарадскіх камітэтаў як і 214 сакратароў ячэек КПЗБ.

Знаем таксама прозвішчы 52 таварышаў, якія ў міжваенны перыяд займалі кіруючыя пасты ў Камуністычным саюзе моладзі, у Міжнароднай арганізацыі дапамогі рэвалюцыянерам і ў прафсаюзах. Між імі сустракаем прозвішчы такіх амаль легендарных рэвалюцыянераў як Вацлаў Багуцкі — арганізатар і дзеяч беластоцкай камуністычнай арганізацыі, пазней І сакратар ЦК КП Беларусі і адзін з дзеячоў III Інтэрнацыянала прафесіянальных саюзаў; сакратароў Акруговага камітэта КПЗБ у Беластоку — С. Міллера і Адольфа Рахмана, а таксама камуністычных дзеячоў прафсаюзаў Казіміра Басінскага і Уладзіміра Свенбінскага. Беластоцкая гарадская арганізацыя павінна захаваць у памяці такіх дзеячоў гарадской арганізацыі КПЗБ, як Станіслаў Дзеніс, сакратароў Гарадскога камітэта КПЗБ Браніслава Яхімовіча і Карпа Кіндзюка, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі барацьбе ў радах КПЗБ.

Арганізатарам і душой камуністычнай арганізацыі ў раёне Белавежы была Ольга Габец. З маладых год звязаная з камуністычным рухам, яна два разы была сакратаром Раённага камітэта КПЗБ у Белавежы. Па яе ініцыятыве белавежская арганізацыя КПЗБ існавала яшчэ і пасля роспуску партыі.

З бельскай партыйнай арганізацыі выйшлі такія заслужаныя дзеячы як сакратары Раённага камітэта ў Бельску Павел Радзіцкі і Лідзія Бялецка, члены гэтага ж камітэта — Фёдар Савіцкі, Яфім Гіжэўскі, Назар Цімошук, Астроўскі і іншыя (жывуць да сёння). Найбольш папулярным аднак быў сакратар Раённага камітэта КПЗБ у Бельску Мікалай Остасевіч. Паходзіў ён з сям'і бельскага шаўца. Спачатку памагаў бацьку, а потым працаваў у алеярні. Быстры, адважны і таварыскі быў душой моладзі Бельска і ваколіц. У 1927 г. уступіў у рады Камуністычнага саюза моладзі, а потым да КПЗБ. У 1928 стаў сакратаром Раённага камітэта ў Бельску. У 1929 г. быў арыштаваны і асуджаны на 4 гады турмы, з якой выйшаў у 1934 г. Раённы камітэт у гэты час быў разбіты, а яго сакратар, Назар Цімошук, арыштаваны. У восень 1934 г. Остасевіч згуртаваў

вакол сябе групу актывістаў і адбудаваў Раённы камітэт. Выбраны сакратаром камітэта, распачаў актыўную дзейнасць. На жаль, у канцы 1935 г. усе члены гэтага камітэта, на чале з Остасевічам зноў трапілі ў турму. Акруговы суд у Беластоку прысудзіў Остасевіча да 10 год турмы, адкуль ён выйшаў толькі ў верасні 1939 года. У 1940—41 гады быў старшынёй Выканаўчага камітэта Гарадскога савета працоўных у Бельску і дэпутатам у Вярхоўны савет БССР. Загінуў на фронце ў 1941 г.

А вось другая постаць — Уладзімір Азябло сын малазямельнага селяніна з вёскі Пянькі, гміна Міхалова. З малых год ён быў вымушаны працаваць у багатых сялян. У 1925 г. уступіў у рады Камуністычнага саюза моладзі і незадоўга быў выбраны сакратаром Раённага камітэта КСМ. Арганізаваў ячэйкі КСМ, а затым КПЗБ, мабілізаваў моладзь да рэвалюцыйнай барацьбы. Дзякуючы дадатнім рысам характару хутка стаў папулярным. У восень 1925 г. быў арыштаваны і асуджаны ў агульнавядомай судовай справе „133".

У часе расследвання яго страшна катавалі, але ён нікога не выдаў. Стойка трымаўся і ў турме. З турмы выйшаў загартаваным камуністам і зараз быў выбраны сакратаром Раённага камітэта КПЗБ у Міхалове. У 1934 г. быў перакінуты ў СССР. Загінуў у час II сусветнай вайны.

Мы далі толькі два прыклады таго, як у рэвалюцыйнай барацьбе звычайныя маладыя рабочыя і сяляне рабіліся камуністамі здольнымі да вялікіх ахвяр у імя сацыяльнай справядлівасці. Такіх людзей было на Беласточчыне больш. Да іх належалі Фёдар Парфенюк, былы сакратар Раённага камітэта КПЗБ у Гарадку — арганізатар і камандзір партызанскага атрада „Бацькі", які загінуў у барацьбе з гітлераўцамі; Канстанцін Калішэвіч — член Раённага камітэта і Канстанцін Чабан з вёскі Лазні — член Акруговага камітэта ў Беластоку, Ян Фрэнкель з Гарадка і іншыя.

У Сямяціцкім павеце найбольш актыўнымі былі: Шымон Шчытніцкі — арганізатар сямяціцкай камуністычнай арганізацыі, Юзэф Далінскі — былы сакратар Раённага камітэта ў Сямяцічах, а таксама актывісты КПЗБ: Карпюк, Павел Хелмскі, Юзэф Балейка і іншыя.

Моладзь Гайнаўскага павету павінна шанаваць памяць, забітай гітлераўцамі, Мар'і Галёнка, якая з простай дзяўчыны з вёскі Дубіны зрабілася вядомай рэвалюцыянеркай і доўгі час была сакратаром Раённага камітэта Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі ў Гайнаўцы.

Усе гэтыя людзі добра заслужыліся працоўным масам. Большасць з іх аддала жыццё ў барацьбе за лепшую будучыню нашага народа. Яны павінны быць для нас узорам патрыятызму і адданасці справе сацыялізма ў Польшчы.

Думаю, што пра тых людзей і іх подзвігі павінны ведаць сёння шырокія кругі грамадства Беласточчыны, а перш за ўсё моладзь. Таму партыйныя інстанцыі і Саюз сацыялістычнай польскай моладзі павінны прадумаць справу папулярызацыі заслужаных Беласточчыне — рэвалюцыянераў.

 

Трэба было б таксама падумаць над тым, як увекавечыць памяць гэтых людзей. Вуліца, дом культуры, школа або спулдзельня названая імем О. Габец, М. Остасевіча, Азяблы, або Парфенюка ці іншых — будуць заўсёды напамінаць пра іх учынкі. Гэта будзе таксама доказам нашай ім пашаны. Некаторым з іх трэба паставіць памятнікі або памятныя дошкі. З ініцыятывай павінны выступіць тут партыйныя арганізацыі, на тэрыторыі якіх гэтыя людзі дзейнічалі.

**М. Насовіч**

# Ад родных хат ад родных ніў

# Хрэсбінны і дзіцячы фальклор

Цяжарнасць жанчыны, нараджэнне дзіцяці і дзяцінства знайшлі шырока адлюстраванне ў беларускім фальклоры. Якраз гэтымі справамі хочам заняцца ў гэтым артыкуле.

Дасканалы знаўца фальклору Е. Карскі і многія другія даследчыкі падкрэслівалі, што цяжарнасць жанчыны выклікала ў асяроддзі беларусаў пашану. Аднак у пашане гэтай праяўляліся і элементы страху. Страх вынікаў з перакanання, што цяжарная жанчына можа быць наведана „таемнымі сіламі", і што, ў сувязі з гэтым, яе пажаданні, у тым таксама пажаданні недобразычлівыя, могуць споўніцца. Дамінавала аднак перакананне, што цяжарнасць жанчыны, гэта праява ўплыву і на жанчыну, і на ўсю сям'ю добрых сіл і добрых духаў. Згэтуль вынікала пачуццё радасці, і з боку цяжарнай жанчыны, і з боку мужа, і з боку ўсіх хатніх.
У перакананні беларусаў не толькі цяжарная жанчына ўплывала на іншых, але і акружэнне магло ўплываць на яе і асабліва на дзіця, якое мела нарадзіцца. З гэтай прычыны цяжарная жанчына павінна была высцерагацца кантакту з дрэннымі людзьмі і павінна была пазбягаць адмоўных учынкаў, бо ўсё гэта магло перайсці на характар дзіцяці. І так цяжарнай жанчыне нельга было сварыцца, лгаць, красці, маніць, ленавацца.

Е. Карскі прыводзіць цэлы рад каларытных абрадаў, якія мелі месца падчас родаў. Вучоны гэты піша, што ў час родаў не выконваліся ніякія песні. Сітуацыя звязаная з родамі вымагала павагі і цішы. Гэтым тлумачыцца адсутнасць песеннага фальклору звязанага з родамі. Не значыць аднак, што не было тэкстаў, якія шапталіся ці ціха спяваліся жанчынамі, якія прысутнічалі пры родах.

Сярод абрадаў і забабонаў, якія прымяняліся ў час родаў да найбольш каларытных належала развязванне ўсіх у хаце вузлоў, разблытванне клубкоў, расплятанне кос. Усё гэта мела спрыяць удачнай развязцы. Гэтай мэце служыла таксама запаленая свечка, якую трымалі перад тварам цяжарнай. Выключнай паэтычнасцю адзначаўся абрад апісаны Е. Карскім. Вучоны гэты гаворыць, што ў некаторых раёнах Беларусі муж цяжарнай жанчыны, імкнучыся ўзяць на сябе частку цяжару звязанага з родамі, лягаў у ложак і страшна стагнаў і енчыў.

У беларусаў заўважаюцца розныя эмацыянальныя адносіны да патомкаў мужчынскага і жаночага полу. Амаль усе вершавана-песенныя тэксты, прысвечаныя гэтай праблеме, выразна фаварызуюць сына і гавораць аб непрыхільнасці бацькі да дачкі. У некаторых тэкстах бацька просіць жонку даць яму дзесяць сыноў і толькі адну дачку. Нямала ёсць песень, у якіх выяўляецца боль мужа, якому жонка нарадзіла дзяўчынку

 

і наадварот — вялікая радасць у выпадку нараджэння хлопца. Паводле сведчання фалькларыстаў, у некаторых раёнах Беларусі, замужнюю жанчыну так доўга акрэсліваюць ганаровай назвай маладзіца, як доўга яна родзіць сыноў. У выпадку нараджэння дачкі замужнюю жанчыну пачыналі называць бабай.



Сесія прысвечаная беларускаму фальклору Беласточчыны ў Варшаўскім універсітэце

Фота П. Гілеўскі

Другая фаза абрадаў звязаных з нараджэннем дзіцяці адносіцца да хрэсбін. Хрэсбіны пасля ўкаранення ў Беларусі хрысціянства набралі хрысціянскага характару. Аднак і ў гэтым абрадзе засталіся элементы язычаскай звычаёвасці. Да такіх элементаў трэба аднесці звычай кідаць у воду, у якой мылі дзіця, зярнят. Зярняты сімвалізавалі багацце і дабрабыт, якія мелі спадарожнічаць у жыцці нованароджанаму. Пазней да зёран дайшлі яшчэ манеты, якія мелі служыць тым самым мэтам — прадвяшчаць багацце. Матыў багацця, матыў будучага жыцця, матыў долі, праявіўся таксама ў хрэсбінах. Знайшоў ён цікавую характарыстыку з боку сучаснага беларускага дакладчыка Грынблата.

„Да найбольш ранніх хрэсбінных песень належаць песні, у якіх захаваліся рэшткі старадаўняй веры ў долю.

Само паняцце мае зусім жыццёвую глебу і звязана з гаспадарчай дзейнасцю народа і асновай яго існавання. Патрабаванні да долі зусім сціплыя, але ў той жа час самыя жыццёва неабходныя: каб доля была перш за



Хрысцінныя заклінанні з „Адвечнай песні” Я. Купалы ў пастаноўцы калектыву з Гарадка

Фота — архіў

ўсё „хлебавой”. Для чалавека працы, прыціснутага панскім свавольствам і нястачай „быць з хлебам” — найважнейшае дабро. Хлеба ў першую чаргу і зычылі чалавеку, які пачынаў свой нялёгкі жыццёвы шлях.

Кулачок ходзіць, дзіцяцю носіць
А ў бога долю просіць
А дай жа, божа еты дзіцяці
Усякую долю ўзяці
І хлебовую, і салевую,
Трэцюю — здаровенькую.

З развіццём таварна-грашавых адносін і павелічэннем грашовай часткі прыгонных павіннасцей — чыншу — ўсё большае значэнне набывала „грашавая доля, якую началі выпрашываць у бога разам з доляй хлебавой і здароўем”.[1])

---

[1]) М. Грынблат. Сямейна-абрадавая паэзія. Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць, Мінск, 1967 с. 78—79.

У беларускіх хрэсбінных урачыстасцях цэнтральнае месца займае нованароджанае дзіця, яго маці, бацька, бабка, кум і кума. Усе гэтыя асобы трактуюцца па-рознаму, для ўсіх іх адведзена ўвага і ў абрадзе, і ў песенных тэкстах. Некаторыя з даследчыкаў дзеляць хрэсбінныя песні на велічальныя і застольныя. Такі падзел несумненна знаходзіць пэўную матывацыю ў фальклорных тэкстах. Вернемся аднак да спектакля, якім з'яўляліся хрэсбіны. Галоўная рыса гэтага спектакля — узнёслы тон. Пафас быў тут поўнасцю матываваны. Вынікаў ён з удзячнасці кіраванай у адрас „вышэйшых сіл", якія прычыніліся да з'яўлення на свеце новага чалавека і ў адрас гэтага чалавека. Акадэмік Карскі ў хрэсбіннай, багатай патравамі ўрачыстасці бачыць перад усім праявы падзякі старым багам: „Умилостивительная жертва богам со стороны родителей новорожденного состояла из разных кушаний, которые сначала предназначались для пирования богов, а потом шли на крестинный пир людей. Все словяне приветствуют появление новорождённого особенно мальчика, весёлым пиром".[1])



Хрысціннья песні ў выкананні калектыву з Арэшкава
Фота — архіў

Аб'ектам асаблівага зацікаўлення і культу падчас хрэсбін было несумненна нованароджанае дзіця. Да яго звярталіся выказваючы пажаданні. За яго здароўе пілі і елі. У песенных тэкстах, утрыманых ва

[1]) Е. Карский, Белорусы, Москва 1916 т. III ч. I с. 220.



Песня аб юнацтве. Калектыў з Гарадка

Фота — архіў

ўзнёслым тоне, выразна ідэалізуюцца фізічны і разумовы стан дзіцяці. Дзіця заўсёды ў іх вялікае, прыгожае, здаровае, галасістае, а нават разумнае. Усе гэтыя рысы прыпісваліся дзіцяці „навырост". Справа ў тым, што хрэсбіны, як правіла адбываліся ўсяго некалькі дзён пасля нараджэння і таму цяжка было ў некалькідзённага дзіцяці заўважыць, якія-колечы дасканаласці. Але гэта няважна. Добрая песня ніколі не абмяжоўвалася рэчаіснасцю. Заўсёды выбягала і выбягае наперад. Добрая песня заўсёды „марыць". Вось гэтая стройнасць, летуценнасць якраз і характэрная для хрэсбінных песень, звязаных з постаццю дзіцяці. У песнях гэтых часта выступае схільнасць, імкненне заглянуць у будучыню дзіцяці. Прадбачыць яго лёс. Зразумела, што было б невыбачальнай грубасцю намякаць на цёмную будучыню. Таму ўсе песні ўтрыманы ў аптымістычным, радасным тоне. Усе яны рысуюць радаснае дзяцінства, прыгожае юнацтва, багатую сталасць.

Другая група хрэсбінных песень звязана з постацію маці. І ў гэтых тэкстах нямала ўзнёслага настрою. Тут падкрэсліваюцца заслугі маткі, узвелічаюцца высакародныя рысы яе характару, выяўляецца надзея, што гэтыя рысы пяройдуць на дзіця. Калі нованароджанае дзіця ёсць дзяўчынкай, дык гаворыцца, што яна будзе таксама прыгожай, працавітай і паслухмянай як маці. Некаторыя з песень прысвечаных матцы выконваюцца ад імя мужа. У іх тон розны. Мы ўжо гаварылі, што патомак мужскога роду выклікае з боку бацькі захапленне і з гэтуль вынікаюць матывы падзякі кіраваныя мужам у адрас жонкі. У выпадку патомка жаночага роду ў песнях мужчыны заўважваюцца крытычныя намёкі.

Гэта аднак дэталі. Трактуючы справу агульна трэба сказаць, што матка ў хрысціннным абрадзе займае месца не менш цэнтральнае, чым дзіця і яе постаць акружана не меншым арэолам славы. Некаторыя з песень выконваліся з боку маткі. Цікава адзначыць, што сустракаюцца сярод іх тэксты гумарыстычныя. Маці выяўляе ў іх іранічную прэтэнзію да мужа за тое, што прычыніўся да нараджэння дзіцяці.

Прыкладам можа быць песня запісаная студэнткай Ольгай Гарустовіч.

„Чы я табе не казала,
Чы не гаварыла
Ні лягай разам спаці,
Бо будзе Гаўрыла.
А ты мэне не пытаў,
Каля мэне клаўся,
А цяпер пытаешся
Скуль Гаўрыла ўзяўся.
А ты мэне не пытаў,
Біжы за кумамі,
Бо Гаўрыла на печы
Совае ногамі".[1])

Песня выразна спяваецца ад імя маткі дзіцяці. Гэта аднак не значыць, што сапраўды такую песню спявала маці. Быць можа, што спявалася яна прысутнымі на хрэсбінах з мэтай дакучыць бацьку нованароджанага дзіцяці.

Песні прысвечаны бацьку маюць вельмі разнародны характар і цяжка прыпісаць ім нейкую адну тыповую характэрную рысу. У песнях гэтых выступаюць таксама пахвальныя тэндэнцыі, аднак не маюць яны так вялікай інтэнсіўнасці як у песнях прысвечаных дзіцяці ці матцы. Апрача таго, нярэдка ў іх паяўляюцца гумарыстычныя намёкі на тое, што бацька добры „майстар", „каваль", „кравец" і ўдачна змайстраваў, выкаваў або скроіў дзіця.

---

[1]) Марыя Нічыпарук, Нараўка, Гайнаўскі павет, Беластоцкае ваяводства, 1972 г.

Даволі аднародныя па сваёй эмоцыі песні прысвечаны бабцы-акушэрцы. Амаль ва ўсіх тэкстах падкрэсліваецца роля ў прыёме нованароджанага дзіцяці і ў завязванні пупа. Бабка-паложніца карыстаецца выразнай сімпатыяй з боку прысутных. Але і тут паяўляюцца ў тэкстах элементы насычаны лёгкай іроніяй.

Бадай, што найбольш іранічных, гумарыстычных і кпярскіх матываў выступае ў песнях прысвечаных куму і куме. Галоўным іх абавязкам было завезці дзіцё ў царкву і ахрысціць. У вёсцы Клейнікі Гайнаўскага павету кум і кума вяртаючыся з ахрышчаным дзіцём дахаты бацькоў, на ўсе пытанні суседзяў як ахрысцілі, маюць абавязак адказваць: Ціхонам. У перакананні мясцовых жыхароў такі адказ прычыніцца да таго, што дзіця не будзе крыклівым, будзе ціхім. У беларускай звычаёвасці і традыцыі кум і кума не карыстаюцца асаблівай павагай. Знайшло гэта выраз, між іншым, у прыказцы „сыр не закуска — кум не сваяк".

У фальклорных тэкстах знаходзім многа доказаў на тое, што кум і кума трактуюцца сатырычна. Прыпісваюцца ім розныя грахі, абыякавасць да дзіцяці, схільнасць да п'янства і абжорства, надмерную ахвоту да танцаў, а нават да палавой распусты.

У мінулым у хрэсбінным абрадзе маглі прымаць удзел толькі асобы замужнія і жанатыя. Гэта стварала атмасферу значнай свабоды. У такой сітуацыі не трэба было саромецца, ні баяцца дрэннага, амаральнага ўплыву на моладзь. Дазвалялася ўсякая смеласць. Можна было не толькі намякаць на палавыя справы, але і гаварыць аб іх у досыць адкрытай форме. На гэта звяртае ўвагу Карскі, прыводзячы характарыстыку хрэсбін даную вядомым этнографам Шэйным: „Пискливыми, безобразными голосами жонки поют песни, им подтягивают мужчины и начинаются самые неприличные шутки не только словом но и делом — в чем не может быть стеснения, так как на „хресбины" собираются только женатые: холостые мужчины и девушки на „хресбины" не допускались".[1])

Быць можа, што прыведзеная характарыстыка хрэсбін занадта крайняя, але няма сумненняў, што гэты абрад да сёння адзначаецца значнай свабодай выказванняў — нягледзячы на тое, што сёння могуць прымаць у ім удзел асобы не сямейныя.

* * *

Дзіцячы фальклор дзеліцца на дзве групы: на першую складаюцца песні для дзяцей, на другую — дзіцячыя песні. Розніца паміж гэтымі двумя катэгорыямі песень вельмі вялікая. Першыя былі твораны дарослымі, другія самімі дзяцьмі. Гэты фактар акрэсліў і эмацыянальныя, і зместавыя і фармальна-стылістычныя вартасці адных і другіх.

Пяройдзем да характарыстыкі песень для дзяцей. Стварыліся яны, як правіла, маткай малога дзіцяці, часам бабкай, або старэйшай сястрой.

---

[1]) Е. Карский, Белорусы, Москва 1916 с. III, ч. I с. 220—221.

 

Досыць часта гэты від народнай песні называецца калыханкамі. Калыханкі і песні для дзяцей вогуле мелі дзве мэты: а) закалыхаць дзіця, давесці яго да сну, б) развіць дзіця разумова, пазнаёміць з навакольным светам, прывіць яму элементарныя маральныя прынцыпы. Якраз імкненне да гэтых мэт і акрэсліла характар беларускай песні для дзяцей. Беласточчына ведае вялікую колькасць песень прызначаных для дзяцей. Іх тон, форма і змест сугучны агульнабеларускаму фальклору. Вельмі папулярная і распаўсюджаная ва ўсіх раёнах песня: „Люлі, люлі, люлі прыляцелі куры", „Сарока варона кашку варыла". Не менш папулярная песня „Кую, кую ножку, паедзем у дарожку". Першая з іх гэта тыповая калыханка, дзве другія — забаўлянкі.

Дзіцячы фальклор Беласточчыны пацвярджае думку Карскага аб тым, што ў песнях для дзяцей вельмі часта выступае кот, і што яму прыпісваецца і дабрата, і псотніцтва. У некаторых тэкстах звязаных з катом паяўляецца таксама гумарыстычны элемент. Цікавым прыкладам дзіцячай песні пра ката можа быць тэкст запісаны студэнтам беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандрам Артымовічам. Прывядзем яго ў цэласці:

„Люлі, люлі, люлі,
Пойшоў куот на гулі,
Адмарозіў лапкі,
Прышоў грэцца ў хатку.
У хатку погрэцца —
Нема куды дзецца —
Узлез бы на палаткі,
Но баіцца бабкі.
Палез бы на вышкі,
Но баіцца мышкі.
Там мышы дурэлі,
Коту хвуост об'елі.
Пойшоў котік у лісок
І знайшоў поясок,
А матэчка забрала
І дітяті оддала.
Пойшоў куот под мосток,
Злапаў рыбу за хвосток:
Чы самому з'есці,
Чы дітяті нэсці?
Думаў котік, думаў,
Думаў і прыдумаў:
Я сам разік укушу
І дітяті занэсу".[1])

[1]) Тэкля Аўсейчык 77 год. Вёска Плюцічы, Бельска-Падляшскі павет. Запісана 10.IX.1972 г.

Досыць часта ў песнях для дзяцей паяўляецца курка, гуска, бусел і голуб, які ў беларусаў, таксама як і ў многіх іншых народаў, з'яўляецца сімвалам чысціні і дабраты.

Песні для дзяцей маюць выразны маралізатарскі характар. Стараюцца яны зашчапіць дзіцяці прывязанасць да бацькоў і іншых членаў сям'і, да хаты, да растучага за акном дрэва, да птушак, да жывёл. З другога боку заўважваецца ў іх імкненне да адгараджэння дзіцяці ад такіх адмоўных схільнасцей як мана, непаслухмянасць, лянота. Гэта якраз і акрэслівае дыдактычны характар песні для дзяцей.

Іншы характар маюць бытавыя дзіцячыя песні — гэта значыць тэксты, якія складаліся і выконваліся самымі дзяцьмі. Зразумела, што для стварэння тэкстаў такіх песень неабходны быў акрэслены ўзрост дзіцяці. Дзіцячая творчасць была падыктавана „канкрэтнымі патрэбамі" забаў і гульняў. Як чалавек у ранняй стадыі свайго развіцця паслугоўваўся простымі гукамі, рытмічнымі словамі, ці ўрэшце песняй пры розных калектыўных занятках, так і дзіця ў сваіх першых чыннасцях патрабуе слоўна-меладыйнага акампанементу. Змест у гэтым акампанеменце не адыгрывае істотнай ролі. Галоўнае ў іх — рытміка, сугучнасці крокам, ударам рукі, ці тыканню пальцам пры пералічванні сабраных.

Дзіцячыя песні і куплеты ў залежнасці ад функцыі, якую выпаўняюць яны, называюцца ў Беларусі вельмі па-рознаму. Да найбольш распаўсюджаных належаць: забаўлянкі, заклічкі, перагаворы, дражнілкі. Канчаючы, варта адзначыць, што ў дзіцячых песнях, нягледзячы на іх спрошчаную форму і змест, сустракаюцца вельмі цікавыя слоўныя знаходкі, параўнанні і метафары.

**Алесь Барскі**

# Фальклор з Баброўнік

### ЗОСЯ ЦАЦЭРКА. 36 ГОД. ВЁСКА БАБРОЎНІКІ БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

Было гэта так. Бацюшка быў багаты, зямлі многа меў. Трэба каб хтось рабіў. І думае, што ж, трэба якогось слугу ўзяць. Ды ні штука каб плаціць. Думае, — ну халера, як каб ашукаць. А адзін бацька меў чатырох сыноў і кажа да найстаршага:

— Ідзі ты, сынку, ішчы работы. Як жа ж мы пражывем?

Падумаў, падумаў, пачухаў патыліцу і пайшоў. Есці хочацца. Яшчэ назбіраў такіх. Ідуць, ідуць, прышлі да бацюшкі на двор, а бацюшцы таго і трэба. Пытае сын:



Зося Цацэрка

— Можа ў вас, бацюшка, можна ў работу наняцца?

— Ну, аднаго вазьму.

Астаўся гэты адзін, што чытырох братоў было.

— Я астануся, — кажа, — бо ў нас вялікая сям'я.

— Аставайся.

— Ну а як ужо дагаворымся, як з платаю?

— Плата такая будзе. Як ты прарабіш рок і мяне з цярпення вывядзеш, то я табе плачу вельмі многа, а калі не вывядзеш, то ні плачу нічога.

А ты, такі хітры, — падумаў хлапец, — але згадзіўся і астаўся.

Прыйшло жніво, пажалі жыто, малоцяць, прыходзіць абед. Усе есці пасядалі, а слугу не дае бацюшка есці.

А, — думае хлапец, — ты такі, пачакай. Бацюшка дахаты, а ён гайда на плечы мэтар пшаніцы і павалок да карчмы. Вядомо, калісь у карчме і за пшаніцу можна было выпіць. Папіў, паеў хлопец. Прыйшоў з пустым мяшком і спявае на таку. Прыходзіць бацюшка і кажа:

— Ты што надзелаў, жулік?

— А што вы, бацюшка, сердзіцесь?

— А не, не, я так сабе.

Ну і што ж. Выспаўся хлопец да вечара, жджэ другога дня.

Пачалі капаць картофлю. Капае бедны гэты, дый мяшкі адцягае. Зноў падыходзіць абед і зноў не дае яму бацюшка есці. Ляжаў хлопец, ляжаў і думае. — Ну за картошку хіба я нідзе не паем, — але што ж, голад дакучае. Пашоў хлопец у хлеў, узяў авечку і павалок да карчмара і кажа:

— І шкура будзе і мяса будзе, дай паесці.

Даў карчмар есці хлопцу удоваль.

Лічыць бацюшка авечкі і бачыць, што не хватае.

— Гэта ты, — кажа, — авечку пакраў?

— Можа, бацюшка, і я.

— Я табе пакажу як авечкі красці!

— А што вы, бацюшка, гневаецеся?

— Не, я толькі так, я не злую.

Думае сабе хлапец, — а ўсе ж такі я цябе з нерваў вывяду.

Ну акурат дзесь такі одпуст быў. Паехаў бацюшка маліцца, а парабку беднаму загадаў працаваць. Вярнуўшыся, бацюшка кажа:

— Я табе загану тры загадкі, як ты адганеш, я табе заплачу тры разы больш як трэба, а як не адганеш ні атрымаеш нічога!

— Загадвай! — а сам думае, якія гэто загадкі?

Паказаў бацюшка на лямпу і пытае:

— Ты скажы; што гэта такое?

— Гэта ж лямпа!

— Эх ты дурны мужык. Якая ж гэта лямпа? Гэта ж, — гаворыць, — высота і чыстота.

— Ах, бацюшка, я праграў.

— А гэта што? — паказаў бацюшка на ката.

— Гэта кот, бацюшка!
— Няпраўда, гэта красата!
— Зноў праграў.
— Ну а гэта што? — паказаў бацюшка на ваду ў кружку.
— Гэта вада!
— Дурны ты, гэта благадаць. Прайграў ты і мусіш яшчэ рок служыць задарма.

Бяда чалавеку. Прышла нядзеля. Бацюшка з матушкай выбраўся на баль. Думаў, думаў парабак і прыдумаў. Злавіў ката, ушчапіў яму у хвост шчэпку, запаліў яе і пусціў ката. Кот пайшоў па будынках і пачало гарэць усё бацюшкаво гаспадарства.

Парабак тым часам на каня і паехаў да бацюшкі.

— Бацюшка, я вам загану адну загадку. Адгадаеце? Буду вам сем лет за дарма служыць. Скажыце, што гэта такое — красата чыстату панесла ды высату, як не будзе благадаці, вам маёнтку не відаці.

Кінуўся бацюшка да каня. Прыехаў дахаты, а там толькі галавешкі тырчаць.

* * *

Ой месяча, месячыку
Выдзі за гару,
Я з сваею міленькаю
Шчэ раз пастаю. } (два разы)

— Слухай міла, слухай міла,
Што буду казаць:
Ні гаворыць бацька й маці
Цібе бедную браць. } (два разы)

— Ні гаворыць бацька й маці
Міне беднае браць.
Пойду сабе на край света
Багача шукаць. } (два разы)

— А як будзеш ты жаніцца,
То я не тужу,
Прыду стану на вяселлі,
З боку пагляджу. } (два разы)

А ў нядзелю ранюсенька
Усе звоны б'юць,
Маладую дзяўчыненьку
Хараніць несуць. } (два разы)

Як занеслі на магілкі —
Дрогнула зямля.
Стаіць мілы перад ёю
Чорны як зямля. } (два разы)

Ах бадай ты бацька й маці,
Каб ты не дажыў.
Як нас двое маладзенькіх
З пары разлучыў. } (два разы)

* * *

Ой зязюленька,
Чаму у лесе не кула? (два разы)
Ой ты Надзенька,
Чаму у людзях не была (два разы)
І не выбрала
Харашога малайца, (два разы)
Толькі выбрала
Пяныччэньку гультая! (два разы)
А пяныччэнька
Ён не сее й ні арэ, (два разы)
А як зайдзе ён да гасподы,
Водку п'е, (два разы)
А як прыдзе да дамэньку,
Жонку б'е! (два разы)

* * *

Явар пад вадою
На бераг схіліўся,
З Украіны да дзяўчыны
Казак прыхіліўся. } (два разы)

Казак прыхіліўсе,
На каня сядае,
А дзяўчына чорнабрыва
Слёзы пралівае. } (два разы)

— Казачаньку мілы
Вазьмі мяне з сабою,
Я дзяўчына маладая
Паеду з табою. } (два разы)

— Дзяўчынанько міла,
Што будзеш рабіці?
— Над ракою шырокою
Каліну садзіці. } (два разы)

Птушкі прылятлі,
Каліну клявалі,
А для мене маладое
Праўды не сказалі.

Запісаў у 1972 годзе А. Баршчэўскі

# Песні з Баброўнік

### ГАЛЕНА ПРЫШЧЭПКО, 43 ГАДЫ
### ВЁСКА БАБРОЎНІКІ, БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

* * *

На каліні жоўты цвет,
Завязаў ты мне свет.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Завязаў ты мне свет.
Селі самі вячэраць,
Мяне шлюць па воду.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Мяне шлюць па воду.
Пакуль вады прынесла,
Уся вячэрэнька прайшла,
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Уся вячэрэнька прайшла.
— Чаму міла надулась,
Чаму ложак не мыеш,
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Чаму ложак не мыеш?
Ложкі, міскі памыла,
Пасцель белу паслала,
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Пасцель белу паслала.
Пасцель белу паслала,
Сама на ёй не спала.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Сама на ёй не спала.

Пад аконцам стаяла,
Пад аконцам стаяла.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Пад аконцам стаяла,
Да ўсё гэта слухала.
Да ўсё гэта слухала.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Да ўсё гэта слухала.
Маці сына навучала,
Чаму жонку не б'еш.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Чаму жонку не б'еш.
А як жэ ж мне яе біць,
Калі сэрцо баліць.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Калі сэрцо баліць.
Не так сэрцо, як душа,
Мая жонка хароша.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Мая жонка хароша!
Пашла маці гарою,
Сустрэлася з дачкою.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Сустрэлася з дачкою.
Куды мамачка ідзеш,
Каму грошыкі нясеш,
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Каму грошыкі нясеш?
Гэты грошы заберуць,
Мяне млоду пражэнуць.
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Мяне млоду пражэнуць.
— Ідзі мама да дому,
Беры грошы з сабою,
Ох, ха,
Ох, ха, ха,
Беры грошы з сабою.

* * *

Пашоў Сямён, пашоў Сямён
У поле гараці,
Усе жонкі нясуць есці,
А маёй не відаці. } (два разы)

Пашоў Сямён, пашоў Сямён
Да да новай хаты.
Пытаецца сваіх дзяцей,
— А дзе ж вашая маці? } (два разы)

— Пашла маці, пашла маці.
Да у лес па маліны.
Забажылась, заклялася:
Дальбог дзеці пакіну } (два разы)

Пашоў Сямён, пашоў Сямён
Да да новай скрыні —
Німа срэбра, німа злота,
Німа ў дома Кацярыны. } (два разы)

Кацярына дай не дурна
Новы чоботы обула,
У жоўты кожух акруцілась,
Дай у свет паплялася } (два разы)

Нашлі божа, нашлі божа
Вялікія марозы,
Змарозь, змарозь Кацярыну
За Сямёнавыя слёзы. } (два разы)

* * *

Ажаніўся стары дзед,
Жонка ні такая,
Сеў, сеў, думаў, думаў,
Жонка не такая.

А хоць і такая,
Рабіці не ўмее.
Сеў, сеў, думаў, думаў,
Рабіці не ўмее.

Пасцельку паслала,
Да і не мягкую,

Сеў, сеў, думаў, думаў,
Да і не мягкую.

А хоць не мягкую,
То сама не ляжа,
Сеў, сеў, думаў, думаў,
То сама не ляжа.

А хоць да і ляжа,
То не обыме,
Сеў, сеў, думаў, думаў,
То не обыме.

А хоць і обыме,
То не поцалуе,
Сеў, сеў, думаў, думаў,
То не поцалуе.

А хоць поцалуе,
То на землю плюне,
Сеў, сеў, думаў, думаў,
То на землю плюне.

* * *

Адзевайсе бабка
У белае белье,
Цяпер мое саколачка
Пойдзем на вяселле.

Узяў дзед бабку
За правую ручку,
Павёў дзед бабку
Проста з мосту ў рэчку.

Цяпер баба кайся,
Трохі пакупайся.
Потуль баба балбатала,
Покуль на дно не папала.

Стаіць дзед на масту
І пачаў бажыцца
— А ейбогу, дальбог
Не буду жаніцца.

Стаіць дзед на масту

І ў кацюты плешча.
— А ей богу, дальбог
Аджанюсе ешчэ.

* * *

А у полі верба калесістая,
Мая свекруха наравістая, (два разы)
Пакуль я яе дай правела,
То сем абедаў ні абедала. (два разы)
Пакуль я яе гонар пазнала,
То сем вячэраў ні вячэрала. (два разы)
У матулі была, то кур не чула,
Курэй не чула, зор не бачыла, (два разы)
Пачула куры рано устаючы,
Зоры бачыла по воду йдучы. (два разы)
Па воду йдучы, ды ўсё плачучы.
Услыхаў Ясё каня пасучы. (два разы)
Мілае сэрце, пастаў вядзерцо,
Каня папасу, вады прынесу. (два разы)
Ні маці ваду з поўнага вядра,
Шануй нявестку, яна ў це адна (два разы)
Будзе другая, дай ні такая,
Будзе трэйцяя, яшчэ горшая, (два разы)
Будзе чвартая ніц не вартая,
Будзе пятая ні багатая. (два разы)

* * *

Ой вішанькі — чарэшанькі,
Ягодкі дробненькі,
Пакахаліcь, пазналісе
Такі маладзенькі. } (два разы)

Пакахаліcь, пазналісе
З вялікага жалю.
Ты будзеш у вёсачцы
А я уежджаю. } (два разы)
Ты будзеш у вёсачцы
Хлопчыкаў любіці,
А я сяду дай паеду
У Варшаву служыці. } (два разы)

Як выехаў мой міленькі
За новы вароты,
Тай ні бярэ дзеўчынаньку
Ні сон, ні работа. } (два разы)

Той паехаў мой міленькі
На залёны лугі,
Аглянуўся назад сабе
Бяжыць брацец другі. } (два разы)

— Ой брацiку, ой брацiку
Мілая ўмірае!
Буду біці, каня гнаці,
Каб жыву застаці. } (два разы)

Як выехаў моў міленькі
На зялёны пінскі,
Аглянуўся назад сабе,
Бяжыць брацец Мішка. } (два разы)

— Ой брацiку, ой брацiку
Мамаша ўмірае!
— Хай умірае, хай умірае
Няхай бог прымае! } (два разы)

* * *

Ой настало лето
А я ні жанаты,
Засеяў я жыто,
Німа каму жаці. } (два разы)

Засеяў я жыто
Німа кому жаці,
А мне маладому
Не с кім размаўляці. } (два разы)

Ой на табе сынку
Рубля залатога,
Паедзь на Украіну,
Выбірай дзяўчыну. } (два разы)

А на што мне маці
Чужая Украіна,
Калі у суседа
Да душы дзяўчына. } (два разы)

Ой на табе сынку
Рубля залатога,
Купі сабе коня,
Коня варанога. } (два разы)

Купі сабе коня,
Купі варанога,
Заведзь да стаенкі, } (два разы)
Размаўляй як з дзеўкай.

А каб табе маці,
Цяжка уміраці,
Як мне маладому } (два разы)
З конем размаўляці.

Конь вады нап'ецца,
На саломі ляжа,
А мне маладому } (два разы)
Праўданькі не скажа.

Не ўзірайся сынку
На чорныя бровы,
А ўзірайся сынку } (два разы)
На сівыя волы,

А сівыя волы
Возьмуць паздыхаюць,
А чорныя бровы } (два разы)
Нігды не зліняюць.

* * *

Красна дзеўка
Па грыбы хадзіла,
У зялёном гаю заблудзіла.
Прыблудзіла к зялёнаму дубу,
З кім я ночку начаваці буду?
З кім я ночку начаваці буду?
Я думала, што дуб зелененькі,
Аднак Ясё. Ясё маладзенькі.
— Ой, ты Ясю малады гультаю,
Выведзь мене на дарожку з гаю.
— Як здаешся на маю падмогу,
То выведу з гаю на дарогу,
То выведу з гаю на дарогу.
Пайду вып'ю зноў кварту гарэлкі,
Папрабую, што за розум дзеўкі,
Папрабую, што за розум дзеўкі.
— Пойдзі, выпі адну і другую,
То пазнаеш мяне маладую.

* * *

Баліць, баліць галованька,
Дай ні больна,
Любіў хлопец дзяўчыначку,
Дай ні доўга,
Оох любіў хлопец дзяўчыначку
Дай ні доўга.
Забіраюць парнішачку
Ой у салдаты,
Оох забылася дзяўчоначка
Папытаці,
Ці мне замуж выхадзіці,
Ой ці гуляці,
Оох ці мне замуж выхадзіці,
Ці гуляці.
Гуляй, гуляй дзяўчыначка,
Ох як гуляла,
Оох тапчы, тапчы чаравічкі,
Як таптала,
Оох тапчы, тапчы чаравічкі,
Як таптала.
Не сцелі ты пасцель белу,
Ох як ты слала,
Оох, не кажы ты хлопцам праўды,
Як казала.
Оох не кажы ты хлопцам праўды,
Як казала.
Яны тваю пасцель белу перакінуць,
Яны цебе любіць будуць.
Дай пакінуць,
Оох, яны цябе любіць будуць
Дай пакінуць.

* * *

А ў полі вярба
Пад ёю вада,
Там стаяла, воду брала } (два разы)
Кася малада.

Кася ад вады,
Ясё да вады,
— Зажджы, пажджы Касюленька } (два разы)
Дай каню вады.

— Я ні буду ждаць
Коню вады даць,

Я скочу да шэўчыка
Чаравічкі куплю. } (два разы)

Купляй, ні купляй,
Хадзіць ні буду,
Бо я млода, млодзюсенька
Рабіць не ўмею. } (два разы)

— Ёсць на полі біч,
Научыць рабіць,
Бярозава мецелэчка
Рана абудзіць. } (два разы)

— А шчэ німа ніц
А хочаш ты біць,
Няхай мене бог бароніць
За табою быць. } (два разы)

* * *

Сохне лісце,
Сохне трава,
Што я пасадзіла,
Німа маго мілёначка,
Што я верно любіла. } (два разы)
Німа маго мілёначка,
Паехаў ў Адэсу,
Сказаў расці дзяўчыначка
Аж на трэцюю весну.
Расла, расла дзяўчонанька
Расці перастала,
Ждала, ждала мілёначка
Да і плакаці стала. } (два разы)

* * *

Ой каліна-маліна,
Ты усю весну красіла,
Маладая да дзяўчыначка
Сваё сэрцо сушыла.
Як пайду я да броду
Та халодную воду,
Ой я стану, да падумаю,
Ці я слаўнага роду. } (два разы)
Ой я роду хароша,
Дай на лічко прэкрасна,
Аддала ж мяне дай матуленька,
Дзе дружынка няшчасна. } (два разы)
Дзе я жыць ні прывычна,

Прывыкаці я мушу,
І старэнькаму і маленькаму
Дагаджаці мушу.

* * *

Там каля рэчкі,
Там каля броду,
Дзе вада цячэ,
Там сабралася
Бедна галота
Да і гарэлку п'е. } (два разы)

Ой п'е гарэлку,
Ой п'е вішнеўку,
Яшчэ будзем піць,
А як хто прыдзе,
Дай пасмяецца,
Таго будзем біць. } (два разы)

Прыходзіць дзядзька,
Дзядзька багаты,
Насмехаецца,
А за што гэта
Бедна галота
Напіваецца. } (два разы)

— Ой жа ты дзядзько,
Дзядзько багаты,
Сядзь ты каля нас,
Выпі ты чарку,
Выпі другую
Гарэлкі ад нас. } (два разы)

— Ой рад бы хлопцы
Сесці я з вамі,
Сто рублей у мяне,
Сто рублей
У кішэні маю,
Разменіць шкада. } (два разы)

Адзін бярэ яго за полы,
Другі у морду б'е, —
Ні нарывайся,
Дзядзька багаты,
Дзе галота п'е. } (два разы)

**Запісаў у 1972 годзе**
**Алесь Барскі**

# Песні з Плюціч



Тэкля Аўсейчык

## ТЭКЛЯ АЎСЕЙЧЫК 77 ГОД, ВЁСКА ПЛЮЦІЧЫ БЕЛЬСКАГА ПАВЕТУ

### ПРЫДІ, ПРЫДІ ВЭСНА!...

Прыді, прыді вэсна,
Прыді, прыді красна,
До нас у точок,
Прынесі нам збожжа,
Прынесі цветочок,
Штоб увіть віночок!
Едэ, вэсна, едэ
На золотом коню,
У зэлёнум кафтане,
У брычцці седячы.
Вызэ, вызэ вэсна
Ясные дэнёчкі,
Частые дожджочкі,
Зэлёные травы,
Гожанькія кветочкі,
Нам на віночкі.

### ЗАЗЮЛЯ КУЕ, ЛЕТОЧКО ЧУЕ...

Зазюля куе, леточко чуе,
Ой рано-рано леточко чуе,
Деўчына плачэ, замуж нэ хочэ,

Ой рано-рано замуж нэ хочэ.
Ее матуля тешыт — не утешыт,
Ой рано-рано тешыт — не утешыт.
Нэ плач діетятко, мое родное,
Ой рано-рано мое родное,
Нэ оддам тэбе далеко от сэбэ,
Ой рано-рано далеко от сэбэ.
Оддам блізэнько, чэрэз поле вузеньке,
Ой рано-рано чэрэз поле вузеньке,
Будэш ходіті што дэнь до мэнэ,
Ой рано-рано што дэнь до мэнэ,
Будэш чэсаті косу у мэнэ,
Ой рано-рано косу у мэнэ.

## ОЙ, ВЭСНА МОЯ ВЭСЁЛАЯ...

Ой вэсна моя вэсёлая
Розвэсэліла ўсе горочкі,
Усе горочкі, усе доліночкі,
Доліночкі, дэ збіралісе паробочкі.
Збіралісе на мед-горэлочку складалісе.
Складалісе, штоб помсціть пану змоўлялісе.

## ТЫ ДУБРОВА, ТЫ ДУБРОВА...

Ты дуброва, ты дуброва,
Ты зэлёная была,
Ты зэлёная была.
По тобе жэ я ходіла,
Заблуділася была,
Заблуділася была.
Я думала, што дуброва,
То лісок нэвысок,
То лісок нэвысок,
Нэ доходіт, нэ доносіт
До матулі голосок,
До матулі голосок.

## КУПАЛЬНА НОЧКА НЭВЭЛІЧКА

Купальна ночка нэвэлічка
І нэвыспалася дэвічка.
Ягодкі рвала — дрымала,
Пырыбірала — заснула.
Встань моя девко, будэ спать,
Ужэ твое сватікі на дворэ стоят,

Пора тобе порадок даваті.
Ныхай жэ стоят здоровы,
Ужэ мое порадочкі готовы.
Хлопэць девку уподобаў,
Пэрсцёнок ёй дароваў.
Деўка хлопца уподобала,
Хусточку ёму даровала.

## ТЭМНА НУЧКА, КУПАЛОЧКА

Тэмна нучка Купалочка,
У рэчці гусі купалісе,
На бэрэжку пушылісе.
Наша Марысенька зажурылася,
Што ее дары нэ прадяные,
Хоть прадяные, нэ звіваные,
Хоть звіваные, нэ снованые,
Хоть снованые, нэ вытканые,
Хоть вытканые, нэ белёные,
Хоть белёные, нэ делёные
Тому-сёму локтіку.

## ОЙ РАНО НА ІВАНА...

Ой рано на Івана,
Проті Івана нучка мала,
Дэ Купалка ночовала?
Ночовала у чыстум полю,
У чыстум полі, сэрод жыта.
Чым Купалка вэчэрала?
Варэнічкі вэчэрала.
Чым Купалка попівала?
Горэлочку запівала.
Ой рано на Івана,
Ой рано на Івана.

## ОЙ ТАМ ЗА ГОРОЮ...

Ой там за горою буйны ветер вее,
Ой там удовонька пшэнічэньку сее,
А як посеяла, стала волочыті,
А поволочыўшы стала Бога просіті:
Роді Божэ пшэнічэньку яру
Для удовіны деток і ўдову саму.
Шчэ вдова до дому нэ прышла,

А ўжэ людэ кажут пшэнічка ўзышла,
Шчэ ўдова на порог ны села,
А ўжэ людэ кажут — пшэнічэнька доспела.
У ныделю ждала, у поныделок ждала
А ў уторок снопуў сорок
Пшынічкі нажала.
У сэрэду возіла, у чэтвэр молотіла,
У пятніцу веяла, у суботу мерала,
А ў ныделю продала,
З хлопцямі пропіла,
Слава тобе Господі,
Што до дела довэла.

## ДОЖАЛІ ЖЫТЫЧКО...

Дожалі жытычко, до колосочычка,
Но і нажылісе то і нэ маленько,
Хутко мы жалі, сэрпом крывэнькім,
Спіны мы гнулі, цэлымі днямі,
Ручкі томілісе, очкі зліплялісе
Од поту горкого, на сонцю пражоны,
Але тэпэрочка мы барзо радэнькі,
Што маем жыточка
На целы годочок, на целу зімочку,
Зімку морозную,
Мы будэм тешытся
З достатку поўного,
У збожэ засобные.

## ШТО Я Ў ПОЛЮ НЭ ЖНЕЕЧКА

Што я ў полю нэ жнеечка,
Што за мною нэ жмэнечка?
Дайтэ мне повозного,
Ны старого, ны малого —
Харошого, молодого.
Вун за мною снопкі звяжэ,
Усю праўду вон мне скажэ,
Снопкі звяжэ і подышэ —
Спаті ляжэ і обымэ,
Снопкі звяжэ, помоцуе,
Спаті ляжэ, поцілуе.

## ОЙ НАША МАРЫСЯ...

Ой наша Марыся
Породіла сына,
Сына як дубочок —
Подобна до мужа.
    Рості мой сыночку,
    Набірай ты сілы,
    Штоб мог заступіті
    На старые годы.
Рості наш сыночок,
Будь жэ ты розумны,
Штоб мог полічыті.
Усе ў вёсці гумны.

## ВЫПІ КУМО, ВЫПІ...

Выпі кумо, выпі
За здорове сына,
Коб жэ его доля
Была як каліна.
    Ой выпіла, выхіліла,
    Сама сэбэ похваліла —
    А я доброго роду,
    П'ю горэлку як воду.
Захіліўшысе ў куток —
По две румочкі ў роток,
По две румочкі ў роток,
Коб нэ болеў жывоток.

## ЛЮЛІ, ЛЮЛІ, ЛЮЛІ...

Люлі, люлі, люлі,
Пошоў кут на гулі,
Одморозіў лапкі,
Пгышоў грэцца ў хатку.
    У хатку погрэцца,
    Нема куды дзецца.
    Улез бы на палаткі,
    Но боіце бабкі.
Полез бы на вышкі,
Но боіце мышкі.
Там мышы дурэлі,
Коту хвуст об'елі.

Пойшоў котік у лісок
І знайшоў поясок,
А кошэчка забрала
І дітяті оддала.
Пойшоў кут под мосток,
Злапаў рыбу за хвосток,
Чы самому з'есці,
Чы дітяті нэсці?
Думаў котік, думаў,
Думаў і прыдумаў:
І сам разік укушу,
І дітяті занэсу.

## КУЮ, КУЮ НУЖКУ...

Кую, кую нужку,
Поеду ў доружку,
Дорожка крывая,
Кобылка сліпая.
Еду, еду, еду,
Ніяк ны доеду,
Прыпрагу сороку,
Поеду далеко,
У новуй кошулі
До мого дідулі!
Хутэнько поеду,
Коб поспеть к обеду.
Дед даст пірожка,
І тобакі з рожка.

## ТОЦІ, ТОЦІ ЛАПКІ

Тоці, тоці лапкі,
Поедэм до бабкі.
Бабка даст пірожка
І тобакі з рожка.
Бабулька казала,
Як нас частовала
Прыходьтэ часцей,
Почастую лепей:
Дам вам сыроквашкі
І з молоком кашкі,
Пірожкоў у маку
І всяків прысмакуў.

Запісаў у 1972 годзе
**Аляксандр Артэмовіч**

# Паэты БГКТ

Арганізаваныя формы беларускага літаратурнага руху ў Народнай Польшчы звязаныя арганічна з заснаваннем у 1956 годзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства і пакліканнем да жыцця яго органа „Нівы". Аднак ўжо ў другой палове 40-х гадоў выступілі спробы творчасці ў роднай мове. Праяўляліся яны асабліва часта ў асяроддзі школьнай моладзі. Паспрабавалі сваіх творчых сіл таксама некаторыя прадстаўнікі дарослага пакалення, якія прымалі ўдзел у аматарскай літаратурнай дзейнасці яшчэ ў часы савецкай улады на Беласточчыне ў 1939—41 гадах.

Творчасцю гэтай у другой палове 40-х гадоў ніхто не цікавіўся і ні аднаму з аўтараў не ўдалося выступіць у друку. Многія з іх яшчэ з тых часоў перахоўваюць да сёння свае творы. Гэтыя творы прасякнуты нянавісцю да гітлерызму і верай у шчаслівую будучыню. Мастацкая вартасць гэтай паэзіі вельмі мізэрная. Выступае ў ёй перавага зместу над формай. Уся паэзія гэтага перыяду з'яўляецца характэрным дакументам пераломнай эпохі, але цяжка залічыць яе да вартаснага літаратурнага матэрыялу. З гэтай прычыны не будзе яна прадметам нашай характарыстыкі.

Варта адзначыць, што літаратурная рэчаіснасць з першага перыяду існавання БГКТ і „Нівы", у меншай ці большай ступені, заставалася ў палове аматарскай творчасцю з першых пасляваенных год. Толькі ў 1959 годзе наступіла заўважальная крышталізацыя літаратурных талентаў, якая дазволіла на арганізацыю беларускай літаратурнай групы. У гэтай групе побач з сялянамі паявіліся людзі з вышэйшай філалагічнай або журналісцкай адукацыяй. Аднак нават творчасць у першы перыяд мела вельмі простую форму і недакладную метафорыку. З'яву гэтую трэба тлумачыць перад усім імкненнем аўтараў да набліжэння сваёй паэзіі да сялянскага, наогул слаба адукаванага чытача.

Такая схільнасць праявілася ў творчасці аднаго з пачынальнікаў паэзіі ў Польшчы Віктара Шведа, а таксама ў вершах Андрэя Сошкі і Дзмітрыя Шатыловіча. Бадай што адзіным паэтам, у якога не выступілі ўпрошчаныя паэтычныя схільнасці быў выпускнік вышэйшай школы мастацтваў Янка Анісеровіч.

І так „Ніва" стала цэнтрам, вакол якога згрунтаваліся ўсе беларускія літаратурныя сілы ў Польшчы. Добразычлівыя адносіны гэтага часопіса да маладых літаратурных талентаў праявіліся ўжо ў яго першым нумары, у якім паявіўся верш Міколы Матэйчука „Першы з'езд". Аўтар верша ў пазнейшы перыяд не праявіў творчай актыўнасці і адышоў з радоў беларускіх паэтаў.

Вялікую творчую актыўнасць праявіў Станіслаў Вагурка (Дзядзька Лявон) аўтар літаратурнага фельетона „Дзень добры, чытачы", змешчанага таксама ў першым нумары „Нівы". Аўтар гэты на працягу многіх год

змяшчаў у „Ніве" фельетоны, якія цешыліся значнай папулярнасцю сярод чытачоў. Фельетоны дзядзькі Лявона выйшлі ў 1961 годзе асобнай кніжкай і былі падставай прыняцця іх аўтара ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў. Станіслаў Вагурка быў несумненна надзелены здольнасцю гумарыстычнага назіральніцтва. Умеў ён убачыць усё тое, што ў чалавеку і ў адносінах паміж людзьмі з'яўляецца смешным. Галоўнай заганай фельетонаў Вагуркі была іх адарванасць ад спецыфікі жыцця селяніна з Беласточчыны. Вагурка паходзіў з-паза Беласточчыны і гэтым тлумачацца слабыя тэматычныя сувязі яго творчасці з жыццём беларусаў у Польшчы.

У сёмым нумары „Нівы" з 1956 года быў апублікаваны першы паэтычны цыкл Вацлава Асіповіча (Андрэя Сошкі). Паэт гэты ў першыя гады існавання часопіса праяўляў вялікую творчую актыўнасць. Вершы яго аднак не выказвалі творчай эвалюцыі і праз доўгі час заставаліся ў палоне традыцыйнай паэтыкі. Іх аўтар карыстаўся вельмі ўпрошчанай метафорыкай і нярэдка прымітыўнай вобразнасцю, з цягам часу быў выцеснены з літаратурнага руху актыўнымі аўтарамі.

У першы перыяд існавання „Нівы" значную ролю ў развіцці малых празаічных форм адыграў журналіст гэтага часопіса Васіль Баршчэўскі. Апублікаваў ён рад апавяданняў, у якіх паказаў розныя аспекты вясковай рэчаіснасці. З-пад яго пяра выйшла першая ў дзейнасці беларускага руху ў Народнай Польшчы аповесць „Мішкавае вяселле".

На пачатку 1958 года паэт Янка Анісеровіч (Яша Бурш) апублікаваў у „Ніве" артыкул „Беларускім пісьменнікам і паэтам у Польшчы патрэбна свая арганізацыя". У чэрвені гэтага ж года быў скліканы арганізацыйны з'езд „Беларускага літаратурнага аб'яднання". Старшынёй аб'яднання быў выбраны Юрка Валкавыцкі — галоўны рэдактар „Нівы", які праявіў многа добрай волі і энергіі ў канцэнтрацыі беларускіх літаратурных сіл. Пасля паклікання да жыцця аб'яднання Валкавыцкі склікаў рэгулярна семінары, змяшчаў у „Ніве" творы членаў аб'яднання і падрыхтаваў да друку першы калектыўны зборнік паэзіі „Рунь".

У 26 нумары „Нівы" за 1958 год паявіўся першы нумар літаратурнай старонкі, якая сталася пастаянным месячным дадаткам — органам літаратурнага аб'яднання.

У ліпені гэтага ж года быў скліканы першы семінар аб'яднання. З крытычнай ацэнкай творчасці беларускіх аўтараў у Польшчы выступілі савецкія выкладчыкі: літаратуразнаўца Васіль Тарасаў і мовазнаўца Мікалай Бірыла, якія выкладалі на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Падобныя семінары, хаця ўжо без удзелу савецкіх вучоных адбыліся і адбываюцца ў аб'яднанні кожны год. Характар гэтых семінараў — рабочы. На іх чытаюцца даклады, прысвечаныя тэмам з галіны гісторыі, тэорыі літаратуры, а таксама аналізуецца творчасць членаў аб'яднання. Да важнейшых тэм з галіны гісторыі і тэорыі літаратуры, якія былі прадстаўлены на семінарах, трэба залічыць наступныя:

— Жыццё і творчасць Цішкі Гартнага;
— Малыя празаічныя формы ў творчасці Міхася Зарэцкага;
— Галоўныя напрамкі сучаснай савецкай літаратуры;
— Жыццё і творчасць Максіма Горкага;
— Паэтычныя гатункі, жанры і віды;
— Паэзія Заходняй Беларусі;
— Творчасць Якуба Коласа і Янкі Купалы;
— Нашы літаратурныя заданні.

Вяртаючыся яшчэ раз да храналогіі фактаў з жыцця беларускага літаратурнага руху, варта адзначыць другі з'езд аб'яднання з 1960 года. На гэтым з'ездзе быў выбраны новы старшыня аб'яднання. Два гады пазней, падчас трэцяга з'езду, беларускія аўтары пастанавілі прыняць новую назву для арганізацыі — „Літаратурна-мастацкае аб'яднанне „Белавежа". Пастаноўлена таксама было адлучыцца ад „Нівы" і дзейнічаць як адзін з органаў Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Крок гэты быў падрыхтаваны перад усім фінансавымі меркаваннямі.

У гадах 1961—63 аб'яднанне „Белавежа" аб'явіла два конкурсы: першы — на твор для дзяцей, другі — на твор прысвечаны тэме сучаснага вясковага жыцця. У першым конкурсе галоўнай узнагародай была адзначана



Літаратурны семінар „Белавежы"

Фота — архіў

паэма А. Барскага „Мікола", у другім — п'еса таго ж аўтара „Гарадскія госці".

Варта ў сваю чаргу затрымацца над выдавецкай дзейнасцю „Белавежы". Першым кніжным выданнем „белавежцаў" быў калектыўны зборнічак „Рунь", які паявіўся ў 1959 годзе. На старонках гэтага зборніка выступіла нямала выпадковых аўтараў. З 17 паэтаў, змясціўшых у зборніку свае творы, дзесяць бясследна знікла з літаратурнага руху.

Намнога вышэйшы ўзровень меў наступны калектыўны зборнік „Мой родны кут". Выданы ў 1963 годзе зборнік быў вынікам конкурсу на творчасць для дзяцей. Увайшло ў яго 68 твораў, якія сваім зместам і формай адказвалі разумоваму ўзроўню і дыдактычным патрэбам дзяцей і школьнай моладзі.

Трэці калектыўны зборнік — альманах „Белавежа" выйшаў у 1965 годзе. Змешчана ў ім дзвесце паэтычных і празаічных твораў. Многія з іх прадстаўляюць высокі мастацкі ўзровень Доказам вялікіх творчых магчымасцей з'яўляецца апошні зборнік „Белавежа" нр. 2, які выйшаў ў 1972 годзе.

Апрача калектыўных зборнікаў члены „Белавежа" выдалі значную колькасць зборнікаў індывідуальных. Дагэтуль выйшлі ў свет зборнікі Алеся Барскага „Белавежскія матывы" і „Жнівень слоў", зборнік Яшы Бурша „Прамень думкі", зборнік Віктара Шведа „Жыццёвыя сцежкі", зборнік Сакрата Яновіча „Загоны", зборнікі Янкі Чыквіна „Святая студня", „Іду", зборнік Уладзіміра Гайдука „Ракіта".

Прадметам гордасці могуць быць тыражы нашых выданняў, некаторыя з іх даходзяць да 5 тысяч экземпляраў і не ўступаюць, а нават перавышаюць агульнапольскія тыражы сучаснай паэзіі.

Апрача зборнікаў нашы паэты змясцілі значную колькасць твораў у „Літаратурных старонках", якіх ужо выйшла больш чым 150, а таксама ў „Беларускіх календарах".

Варта ўспомніць, што аб'яднанне „Белавежа" падрыхтавала зборнік „Літаратурная Беласточчына", які выйшаў у БССР у 1973 годзе.

Не можам абысці таксама таго факту, што творы „белавежцаў" не раз друкавалі часопісы Савецкай Беларусі „Полымя", „Літаратура і мастацтва", а таксама такія польскія часопісы, як „Камэна", „Жыце літэрацке", „Аргументы", „Кантрасты".

Аб'яднанне „Белавежа" звяртае таксама ўвагу на аўтарскія сустрэчы. Дагэтуль члены „Белавежы" правялі іх больш чым 1500: Атмасфера гэтых сустрэч, пытанні і дыскусіі, сведчаць, што гэтая форма нашай дзейнасці мае вельмі істотнае значэнне.

Варта зараз прадставіць некаторых найбольш папулярных паэтаў „Белавежы". Сярод іх асаблівай увагі заслугоўвае Віктар Швед. Нарадзіўся ён у 1925 годзе ў вёсцы Мора Гайнаўскага павету. Скончыў акадэмію палітычных навук і беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Зараз ён працуе ў выдавецтве „Кніга і веды". Першыя вершы напісаў у перыяд савецкай улады на Беласточчыне, у 1939 годзе. Зараз з'яўляецца актыў-



Віктар Швед, Алесь Барскі і Янка Зенюк на літаратурнай сустрэчы
Фота — архіў

ным паэтам у аб'яднанні. Швед з'яўляецца староннікам традыцыйнай плыні ў нашым літаратурным руху. Адклікаецца ён да ўзораў беларускай паэзіі з пачатку XX стагоддзя. Рыфма і рытм з'яўляюцца асноўным фундаментам яго вершаў. Змест яго паэзіі пачэрпнуты заўсёды з канкрэтных гістарычных ці сучасных падзей. Элемент фікцыі амаль што не выступае ў яго творчасці. Вялікая колькасць вершаў Шведа звязана з Беласточчынай. Шурокую папулярнасць здабыў верш Шведа „Родная мова". Варта прывесці тут гэты твор:

Мова ты родная, мова прыгожая,
Як жа мы можам цябе не любіць.
Ты пратрывала атакі варожыя,
Не здолеў цябе ніхто пакарыць.

Ты пад страхою знайшла саламянаю,
Прытулак ад цяжкай навалы, нягод,
Цябе, мова, носіць з вялікай пашанаю
У сэрцы сваім беларускі народ.

Паднятая сілаю Купалы і Коласа,
Змагла ты правы ўсе адстаяць.

Змагла ты дайсці да магутнага голасу
І месца пачэснае ў свеце заняць.

Калі нехта скажа: ёсць мова мілейшая
Яму адказаць я заўсёды гатоў:
Найпрыгажэйшая, найдаражэйшая
Мова зямлі роднай, мова бацькоў.

У творчасці Віктара Шведа знаходзім нямала вершаў сатырычных, а таксама добрых вершаў для дзяцей.

Другім паэтам, творчасць якога выказвае многа супольных рыс з паэзіяй Віктара Шведа з'яўляецца Дзмітрый Шатыловіч. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў Чаромсе на Гайнаўшчыне. У час акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію. Пасля вызвалення ўступіў у рады Чырвонай Арміі і быў цяжка паранены ў адным з баёў. Пасля дэмабілізацыі вучыўся ў беларускім ліцэі ў Бельску. Скончыўшы ліцэй паступіў у Ленінградскі электратэхнічны інстытут. Зараз працуе ў Міністэрстве энергетыкі. Як паэт Шатыловіч дэбютаваў у першыя гады дзейнасці „Нівы". Амаль усе вершы Шатыловіча навеяны ўспамінамі і перажываннямі часоў вайны. Для яго стылю, бадай што найбольш характэрны верш „Кашмар". Вось яго фрагмент.

Блакітнае неба, без хмар і без птушак,
Звініць і грукоча жалезам матораў,
І гукам гармат, кулямётаў, кацюшаў
І гэтыя гукі ўрываюцца ў вушы
І цісн|уць, і глушаць
Пякельным напорам.

Па роўнаму полю паўзем мы па снегу,
То з крыкам „ура" падбягаем кар'ерам,
То вузкі акоп пераскочым з разбегу
І гонім наперад
Мы дзікага звера —
Разбітыя рэшткі фашысцкай абверы.

Наступны наш паэт Алесь Свісёк (Алесь Батура) таксама як Шатыловіч з'яўляецца чалавекам з багатай біяграфіяй. Нарадзіўся на Навагрудчыне ў вёсцы Крывічы. У 1942 годзе быў вывезены ў Германію, адтуль уцёк і ўступіў у партызанскі атрад імя Жданава, які дзейнічаў на Піншчыне і Гродзеншчыне. З 1944 года да канца вайны быў разведчыкам II Беларускага фронту. У Польшчу прыехаў у 1945 годзе. Скончыў рускую філалогію ў Кракаўскім універсітэце і зараз працуе настаўнікам у Познанскім ваяводстве. У фармальным сэнсе паэзія Свіська займае пераходную пазіцыю паміж паэзіяй традыцыйнай і наватарскай. Што датычыцца зместу, дык Свісёк найчасцей піша пра настаўнікаў і моладзь. Адзін з яго вершаў „Маладым" хочацца мне тут прадставіць.

Не шкадуючы
ні горла
ні паперы
пракоркі розных узростаў і масцей
аблаялі ваш розум і манеры
плакалі...
аб браку веры і ідэй.
І, „прыстойнае" надзьмуўшы бруха,
на вас,
на школу
і на час грымяць
у небе
усё шукаюць злога духа —
антыхрыста,
што прыйдзе вас караць.
А вам не страшны
буры і трывогі
і хай шалее стары свет,
у небе бачыце вы
новыя дарогі,
што сцелюцца для вас паміж планет!
І вам агідны
усе філістаты-мяшчане.
Іх крывадушныя манеры,
вера іх.
А верце вы
у край свой і людзей жывых,
і ў веды,
і ў сяброўства,
і ў ... каханне.

Паэтам, які выклікае да сёння найбольш нязгодных дыскусій з'яўляецца Яша Бурш (Янка Анісеровіч). Нарадзіўся ён у 1929 годзе. Жыве ў Варшаве. Закончыў Мастацкую акадэмію. З'яўляецца прафесіянальным мастаком. Пры гэтым піша вершы. У яго мастацтве сільныя элементы абстракцыі, у паэзіі таксама. Бурш вельмі рэдка карыстае з вялікіх літар і амаль ніколі з знакаў прыпынку. Нярэдка адсутнічае ў яго паэзіі лагічная сувязь паміж славамі. Калі чытаеш яго вершы першы раз, раздражняешся, калі аднак прачытаеш іх некалькі разоў, пачынаеш у іх знаходзіць пэўныя вартасці. Прынясу тут зараз верш Бурша на суд чытачам.

### ЖАДАННЕ

Струны праўды
у звоях мазгоў
звіняць
іх глушыць

грукат дзён
Я лаўлю ў цемнаце
сваё прызначэнне
пакуль надзеі ў душы
як у люстэрку
трымцяць.
Я хацеў бы
сабе даказаць
да вечнага панавання.

Цікавай манерай адзначаецца творчасць Янкі Чыквіна. Выдаў ён ужо два зборнікі вершаў: „Святая студня" і „Іду". У яго паэзіі праяўляецца сужыццё традыцыі з наватарствам. Чыквін закранае жыццё сучаснага, заблытанага ў праблемах і канфліктах чалавека. Героі Чыквіна адзначаюцца скамплікаванай псіхікай, складанымі адносінамі да свету. Чыквін, як паэт не шукае лёгкіх адказаў на цяжкія пытанні. Паэзія яго больш пытае чым адказвае. У гэтым якраз і заключаецца яе спецыфіка.



Чытае вершы Янка Чыквін

Фота — архіў

Апрача прадстаўленых паэтаў сярод „Белавежцаў" знаходзіцца многа празаікаў, аднак з увагі на недахоп месца не знойдзе іх творчасць характарыстыкі.

**Андрэй Баравы**

# Магчымасці прафесіянальнага і агульнага навучання для працуючай моладзі

Моладзь, якая не прыступіла да далейшай навукі пасля заканчэння падставовай школы, ці перарвала з розных прычын навуку ў сярэдняй школе і распачала зарабковую працу, мае шырокія магчымасці здабыцця прафесіі ці заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя не адрываючыся ад працы.

У кожным ваяводстве нашай краіны існуе даволі вялікая колькасць рознага роду вячэрніх і завочных (карэспандэнцыйных) прафесіянальных і агульнаадукацыйных школ для працуючых дарослых.

Залічваюцца да іх:

- Тэхнікумы і раўназначныя прафесіянальныя школы,
- Засаднічыя прафесіянальныя школы для працуючых дарослых,
- Чатырохгадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі для працуючых,
- Трохгадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі для працуючых (пасля заканчэння двухгадовай засаднічай школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі).

## ВЯЧЭРНІЯ ШКОЛЫ

У тэхнікумах і раўназначных прафесіянальных школах для працуючых навука працягваецца 4 або 5 год (залежна ад спецыяльнасці). Да першага класа могуць быць прыняты кандыдаты, якія:

- прадстаўляць пасведчанне заканчэння сямі- ці васьмігадовай школы падставовай,
- прадстаўляць пісьмовую згоду з месца працы на навуку ў школе.

У засаднічых прафесіянальных школах для працуючых дарослых навука працягваецца 2 гады.

Умовы прыняцця ў першы клас ідэнтычныя, як і да тэхнікумаў.

Падставай прыняцця ў чатырохгадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі для прыцуючых з'яўляецца:

- прадставіць пасведчанне заканчэння сямі- або васьмігадовай падставовай школы,
- прадставіць накіраванне з месца працы.

Падставай прыняцця ў трохгадовыя агульнаадукацыйныя ліцэі для працуючых з'яўляецца:

- прадставіць пасведчанне заканчэння двухгадовай засаднічай школы завадовай ці двухгадовай школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі,
- прадставіць накіраванне з месца працы.

## ЗАВОЧНЫЯ ШКОЛЫ (КАРЭСПАНДЭНЦЫЙНЫЯ)

Моладзь працуючая на розныя змены, якой цяжка вучыцца ў вячэрніх школах, можа вучыцца завочна, карэспандэнцыйным спосабам.

Навука ў тэхнікумах і засаднічых завочных прафесіянальных школах (карэспандэнцыйных) працягваецца аналагічна як і ў вячэрніх школах гэтага тыпу (5, 4 і 2 гады).

Да завочных школ (карэспандэнцыйных) прымаюцца ахвотныя без абавязку прад'яўлення накіравання з месца працы.

У агульнаадукацыйных школах для працуючых (вячэрніх і карэспандэнцыйных) можна таксама атрымаць атэстат сталасці навучаючыся ў комплексах (зэсполах). Абавязвае тады трохгадовы цыкл навучання падзелены на тры прадметныя комплексы (зэсполы):

- комплекс прыродазнаўчы (хімія, геаграфія і біялогія),
- комплекс матэматычна-фізічны (матэматыка і фізіка),
- комплекс гуманістычны (польская мова, прапэдэўтыка, навукі аб грамадстве).

Навука ў комплексах (зэсполах) працягваецца 1 год. Усе прадметы ў комплексе абвязковыя, аднак вучань здае экзамены толькі з аднаго прадмета. Трэба заўважыць, што асноўнымі абавязваючымі на атэстат сталасці прадметамі, ва ўсіх трох комплексах, з'яўляецца польская мова і матэматыка, трэці прадмет — залежыць ад выбару вучня.

Асобы зацікаўленыя заканчэннем сярэдняй прафесіянальнай і агульнай адукацыі могуць самастойна рыхтавацца да экзаменаў як экстэрны з прадметаў унятых у праграме навучання, згодна з выбраным напрамкам школы.

Бліжэйшых інфармацый у справах прыняцця ў прафесіянальныя і агульнаадукацыйныя школы для працуючых — вячэрнія і завочныя (карэспандэнцыйныя), а таксама адносна экзаменаў экстэрністычных — удзяляюць дырэкцыі адпаведных школ, аддзелы асветы і культуры, а таксама куратарыі школьных акруг, а ў адносінах да сельскагаспадарчых школ — дырэкцыі школ і аддзелы сельскагаспадарчай асветы ў аддзелах ральніцтва і лясніцтва прэзідыумаў ваяводскіх рад нарадовых.

**Віктар Швед**

# Справы да афармлення ў ПЗУ

Дзяржаўнае прадпрыемства страхавання (ПЗУ) вядзе каля 90 розных відаў страхавання для насельніцтва.

**Страхаванне дабраахвотнае** заключаюць аддзелы ПЗУ або пасрэднікі страхавання, якія афармляюць усе справы ў месцы жыхарства кліента.

Падаем ніжэй некалькі інфармацый аб найважнейшых родах страхавання, што вядзе ПЗУ.

## I. ЖЫЦЦЁВАЕ СТРАХАВАННЕ

Страхаванне гэтае забяспечвае выплату павіннасці ў выпадку смерці застрахаванага або членаў яго сям'і. Род павіннасці, якую выплачвае ПЗУ, залежыць ад характару страхавання. Працаўнікам дзяржаўных

устаноў ПЗУ афармляе так званае **груповае сямейнае страхаванне.** Страхаванне гэтае апрача самога працаўніка абымае членаў яго сям'і, а менавіта: жонку (мужа), дзяцей, бацькоў, іншых блізкіх і дальніх сваякоў, супольна з ім пражываючых. Асобы, якія не карыстаюць з груповага сямейнага страхавання або не хочуць быць застрахаванымі на вышэйшую суму ад тае, якую прадбачвае груповае страхаванне, могуць заключыць адзінкавае страхаванне на жыццё.

2. **СТРАХАВОЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ДЗЯЦЕЙ** (званае інакш пасажным страхаваннем).

Страхаванне гэтае могуць заключыць бацькі ці апекуны дзіцяці. У рамках гэтага страхавання ПЗУ забавязваецца выплаціць дзіцяці пасля акрэсленага ўзросту поўную страхавую суму, якую акрэслівае асоба заключаючая страхаванне. Страхавая складчына залежыць ад вышыні страхавой сумы, перыяду, на які дзіця засталося застрахавана і ўзросту асобы заключаючай умову. Павіннасць ПЗУ можа быць выплачана аднаразова або ў форме стыпендыяльнай рэнты на перыяд вучобы.

3. **СТРАХАВАННЕ КВАТЭРЫ**

У рамках гэтага страхавання ПЗУ нясе адказнасць за шкоды выкліканыя пажарам, кражай з узломам, а таксама з повады шкоды вадаправоднай. Прадметам гэтага страхавання з'яўляецца рухомая дамашняя маёмасць, што знаходзіцца ў кватэры, на гары, у склепе. За ўнясенне дадатковай складчыны страхаваннем можа быць абнята рухомая дамашняя маёмасць і прадметы, якія знаходзяцца ў курортных доміках. Да страхавання кватэр уключана без узносу дадатковай складчыны страхаванне цывільнай адказнасці за шкоды выкліканыя застрахаванай асобай або членамі бліжэйшай сям'і — трэцім асобам.

4. **РЭНТАВАЕ СТРАХАВАННЕ**

Рэнтавае страхаванне прызначана асобам, якія не карыстаюць з усеагульнага забеспячэння, як і асобам, якія хочуць запэўніць сабе вышэйшае забеспячэнне ад прыслугоўваючага ім на падставе пенсіі. Дагавор забеспячэння рэнты можа заключыць кожная дарослая асоба, нягледзячы на стан здароўя і выконваемую прафесію. Спецыяльная форма гэтага страхавання прадбачана таксама для шлюбных пар. Вышыню складчыны дэкларуе асоба прымаючая страхаванне, таму што вышыня складчыны залежыць ад выбранага варыянта страхавання, вышыні рэнты, тэрміну яе плацяжу, а таксама полу і веку страхаванай асобы заключаючай з ПЗУ умову. ПЗУ пераводзіць рэнту ў тэрмінах узгодненых з зацікаўленымі асобамі.

## 5. СТРАХАВАННЕ ВЫНІКАЎ НЯШЧАСНЫХ ВЫПАДКАЎ

Гэтае страхаванне запэўнівае асобам, якія заключылі з ПЗУ страхавую ўмову, забеспячэнне ў выніку выпадковай смерці, ці тады, калі выпадак выкліча трывалы ўрон здароўя. ПЗУ вядзе рознага роду страхаванне вынікаў няшчасных выпадкаў. Працаўнікам дзяржаўных устаноў арганізуюцца так званыя груповыя страхаванні вынікаў няшчасных выпадкаў з месячнай складчынай, якую вылічваецца з зарплаты. Апрача таго ПЗУ вядзе страхаванне на перыяд выезду на курорт, лагер для дзяцей, у падарожжа і гд. Для моладзі вядзецца школьнае страхаванне, абымаючае выпадкі, якія могуць здарыцца ў школе, а таксама ў прыватным жыцці дзіцяці.

## 6. СТРАХАВАННЕ АЎТА-КАСКА МАТАЦЫКЛАЎ І АЎТАМАШЫН

Страхаванне абымае шкоды ўзнікшыя з поваду сутыкнення сродка транспарту з іншым прадметам, кражы або рабунку, злаclівага пашкоджання праз іншыя асобы, пажару, выбуху і гд.

Вышыня складчыны залежыць ад роду сродка транспарту, варыянта страхавання, а таксама краіны, у якой сродак транспарту астаўся выпрадукаваны. Добрым шафёрам, якія не мелі выпадку ў застрахаваным сродку транспарту, прадбачваецца зніжэнне складчыны нават да 50%. ПЗУ адказвае за шкоды ўзнікшыя на тэрыторыі Польшчы і краін Савета гаспадарчай узаемадапамогі.

* * *

Незалежна ад дабраахвотнага страхавання ПЗУ вядзе страхаванне абавязковае, а менавіта: абавязковыя страхаванні камунікацыйныя і абавязковыя страхаванні зямельныя.

Усе асобы абнятыя гэтым страхаваннем ПЗУ штогод інфармуе аб вышыні складчыны і тэрмінах іх плацяжу.

**Віктар Швед**

# Замежная турыстыка

З года ў год узрастае ў нашай краіне зацікаўленне замежнай турыстыкай і колькасць асоб карыстаючых з паслуг польскіх турыстычных прадпрыемстваў.

Прыкладна можам падаць, што ў 1971 годзе выехала з Польшчы, за пасрэдніцтвам турыстычных прадпрыемстваў, 906 тысяч турыстаў у сацыялістычныя краіны і 150 тысяч — у краіны капіталістычныя.

У перспектыўных планах прадбачваецца, што ў 1975 годзе скарыстае з турыстычных выездаў у сацыялістычныя краіны каля 2 мільёнаў асоб, а ў капіталістычныя краіны — каля 200 тысяч асоб.

Для параўнання — у 1938 годзе выехала з Польшчы за мяжу толькі 83 900 турыстаў.

Індывідуальныя і груповыя турыстычныя замежныя выезды афармляюць на тэрыторыі ўсяе краіны наступныя турыстычныя прадпрыемствы:

- Польскае бюро падарожжа „Орбіс",
- Дзяржаўнае прадпрыемства спартыўных і турыстычных мерапрыемстваў „Спорт-Турыст",
- Бюро замежнай турыстыкі Агульнапольскай турыстычнай спулдзельні „Грамада",
- Бюро замежнай турыстыкі турыстычнай спулдзельні „Турыст",
- Бюро замежнай турыстыкі Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства,
- Бюро замежнай турыстыкі Польскага маторнага саюза,
- Бюро замежнай турыстыкі моладзі „Ювентур",
- Бюро падарожжа і турыстыкі Сацыялістычнага саюза польскіх студэнтаў „Альматур".

Найбольшым турыстычным прадпрыемствам у нашай краіне з'яўляецца Польскае бюро падарожжа „Орбіс". Мае яно звыш 100 тэрытарыяльных аддзелаў.

Замежнай груповай турыстыкай займаюцца ўсе турыстычныя прадпрыемствы.

Па даручэнню розных прадпрыемстваў і ўстаноў „Орбіс" арганізуе спецыяльныя экскурсіі паводле розных прафесій. Груповыя выезды да сацыялістычных краін па даручэнню прадпрыемстваў і устаноў маюць гэты дадатковы атракцыён, што пры колькасці найменш 29 асоб, адно месца (трыццатае) атрымлівае бясплатна вызначаны прадпрыемствам ці ўстановай прадстаўнік.

У галіне індывідуальнай турыстыкі „Орбіс" праводзіць у першую чаргу выезды ў Дэмакратычную Рэспубліку Германіі, Венгрыю, Чэхаславакію, Балгарыю і СССР.

Бюро замежнай турыстыкі ПТТК спецыялізуецца ў галіне так званай кваліфікаванай турыстыкі, напрыклад: байдаркавай, горнай.

Бюро замежнай турыстыкі Польскага маторнага саюза праводзіць экскурсіі для ўладальнікаў аўтамашын.

Бюро „Альматур" абслугоўвае студэнцкія групы.

Бюро „Ювентур" арганізуе экскурсіі для моладзі да трыццаці гадоў.

Варта ўспомніць, што па запатрабаванню сваіх кліентаў польскія турыстычныя прадпрыемствы папулярызуюць ратальную плату за ўдзел у замежных экскурсіях. Крэдытуюцца экскурсіі, каторых цана перавышае адну тысячу злотых (з выключэннем кішэнных грошай) арганізаваныя ў сацыялістычныя краіны (з выняткам Югаславіі), аравійскія краіны, а таксама экскурсіі давераныя прадпрыемствамі, установамі, грамадскімі ці пра-

фесіянальнымі арганізацыямі і экскурсіі арганізаваныя для школьнай моладзі.

Крэдыт не можа быць вышэйшы чым 80% цаны замежнай экскурсіі з выключэннем кішэнных грошай.

Правілы загаду Савета Міністраў ПНР (Дзённік устаў нр 18 з дня 11 мая 1973 г.) робяць аднароднай плату за замежныя выезды.

Аднароднымі сталіся правілы, якія рэгулірують плату пры выездах у еўрапейскія сацыялістычныя краіны на аснове пашпартнай укладкі. Укладку выдаецца на 5 год і яна дае магчымасць выезду ў любы тэрмін без афармлення спраў у пашпартных органах. Перад кожным чарговым выездам хопіць купіць у аддзяленні бюро падарожжа, ці ў касе абмену валюты марку пашпартнай платы і наклеіць яе ў адпаведным месцы ва ўкладку, а апрача таго пры пакупцы маркі ўзяць і выпаўніць улікавую карту пераходу граніцы. Плата складае 300 злотых.

Пры выездах у еўрапейскія сацыялістычныя краіны на даўжэйшую пабыўку вырабляюцца пашпарты. Плата за пашпарт да гэтых краін выносіць 600 злотых.

Зроблена таксама аднароднай пашпартную плату падчас выезду ў іншыя краіны. Незалежна ад геаграфічнага раёну і ад спосабу аплачвання коштаў падарожжа, а таксама незалежна ад гэтага, ці плата датычыць выдачы пашпарту, ці толькі яго аднаўлення, плата за пашпарт, які дае права да новай паездкі за мяжу, выносіць 2 тысячы злотых. Плата за пашпарт таксама даконваецца ў выглядзе выкупу адпаведных марак, якія наклейваецца ў пашпарце, ці іншым дакуменце на падарожжа.

З іншых устанаўленняў новага распараджэння варта падкрэсліць факт знясення розніцы ў вышыні платы паміж асобамі выязджаючымі калектыўна, напрыклад, на экскурсію з „Орбісам", і асобамі, якія выязджаюць індывідуальна па запрашэнню, ці на падставе надзелу дэвіз.

Падчас афармлення замежных выездаў на аснове пашпартнай укладкі прыслугоўвае 50% ільготы пенсіянерам, а таксама асобам, якія карыстаюцца сацыяльнай дапамогай, асобам выязджаючым на лячэнне, жанчынам пасля заканчэння 60 год і мужчынам ва ўзросце 65 гадоў, вучням і студэнцкай моладзі выязджаючай за граніцу на летнія канікулы. Варта таксама ўспомніць аб тым, што моладзь выязджаючая на летнія канікулы ў капіталістычныя краіны, паводле новага распараджэння, за пашпарт плаціць 600 злотых.

Падрабязныя інфармацыі адносна турыстычных замежных выездаў можна атрымаць ва ўсіх турыстычных прадпрыемствах, а таксама ў аддзелах турыстычнай інфармацыі.

**Віктар Швед**

## ГАДОЎЛЯ КАРОЎ

Цяпер у Польшчы гадуецца чатыры асноўныя расы кароў:

1. Раса нізінная чорна-белая. Каровы гэтай расы вялікія (450—650 кг). Сярэдняя гадавая 3000 літраў малака пры 3,4% тлушчу. Гэтая раса складае звыш 70% пагалоўя кароў у Польшчы.

2. Раса чырвоная польская. Вага гэтых кароў 350—550 кг. Малочнасць каля 2700 літраў пры 3,8% тлушчу. Раса гэтая складае 18% пагалоўя у краіне.

3. Раса нізінная чырвона-белая. У гэтых кароў многа супольных рыс з расай чорна-белай. Вага 550—650 кг, малочнасць крыху ніжэйшая, чым у расы чорна-белай.

Гэта расы малочна-мясныя. Апрача параўнальна вялікай малочнасці, у добрых умовах кармлення маладняк іх характарызуецца добрай прыдатнасцю да адкормлівання.

Для прадукцыі цялят, добрых для адкормлівання, вядзецца таксама крыжаванне кароў краёвых рас з быкамі расы шаралез.

Добрая карова ў перыядзе лактацыі дае каля 3500—4000 літраў малака, у якім 3,5—3,8% тлушчу. Такую прадукцыю атрымліваем ад каровы, якая ў перыядзе першых трох месяцаў пасля выцялення дае ў сярэднім у дзень каля 15 літраў малака, а пад канец лактацыі (8—10 месяцаў) яшчэ каля 8 літраў малака ў дзень. Кожны год карова павінна выцеліцца. Карова павінна быць зацелена ў перыядзе паміж 70—120 дзён пасля выцялення.

Каровы ад бацькоў, якія вызначаюцца высокай малочнасцю і высокім змесцівам тлушчу, наследуюць па продках гэтыя ж якасці. Найбольшую прадукцыю даюць каровы пасля трэцяга і чацвертага выцялення. Найбольш вартасныя каровы тыя, у якіх раўнамерная прадукцыя малака ў перыяд усёй лактацыі, і ў якіх не выступае раптоўнае абніжэнне прадукцыі малака пасля некалькіх месяцаў доpackages. Карова пасля выцялення павінна даваць малако перыядам каля 300 дзён. Высакацельныя каровы трэба засушваць на 8—10 тыдняў перад родамі. Найбольш карысным момантам выцялення каровы з'яўляецца перыяд, у якім гаспадар мае многа корму. У гаспадарках, якія маюць добрую кармавую базу, трэба вызначаць выцяленне на асенне-зімовы перыяд. Гэта гарантуе найвышэйшую малочнасць кароў.

## КАРМЛЕННЕ МАЛОЧНЫХ КАРОЎ

Кармленне малочных кароў залежыць ад вагі цела, ад колькасці прадукаванага малака і змяшчальнасці ў ім тлушчу. Карова патрабуе, у залежнасці ад яе вагі, 0,8—1,3 аўсяных адзінак і 60 грамаў бялка на 100 кг жывой вагі. Расход корму на прадукцыю 1 кг малака, у залежнасці ад змяшчальнасці ў ім тлушчу, вагаецца ад 0,43 да 0,56 аўсяных адзінак і ад

45 да 85 грамаў бялка. Запатрабаванне мінеральных соляў на 1 кг малака выносіць 3 грамы вапна, 2 грамы фосфару і 5 грамаў кухоннай солі.

Дзённая доза для каровы павінна мець адпаведную колькасць сухой масы, каб запоўніць стрававальны канал і выклікаць адчуванне сытасці. Занадта вялікая колькасць сухой масы і баласту, ці зноў занадта малая, вядзе за сабою слабейшае выкарыстанне корму і расстройства ў стравaванні.

## ЯК ПРЫМЯНЯЦЬ КОРМ

1. Корм сухі (сена, матыльковыя расліны, салома) — дзённая доза 6—12 кг, у залежнасці ад прадукцыйнасці.

2. Корм сочны (зялёны і кішонкі) — дзённая доза 30—60 кг.

3. Буракі, бульба, бручка — дзённая доза 5—20 кг.

4. У выпадку прадукцыйнасці звыш 3000 літраў малака, даецца таксама змястоўны корм (мяшанку В, пшанічныя вотруб'і, ільняную макуху або ільняную мучку, соевую мучку, рапаковую макуху, сладовыя келкі).

5. Вялікае значэнне ў паніжэнні коштаў кармлення малочных кароў мае мочнік. Трэба яго даваць заўсёды з іншым кармам. Да кармоў сочных, нізкабялковых дадаем кармавы мочнік у колькасці 0,5 кг на 100 кг.

Пры ўкладанні кармовых дозаў на 100 кг жывой вагі можна прымяняць:

сухіх кармоў 2 кг (1,5—2,5), у тым ліку 50% сена,

сочных кармоў зімою 8 кг (6—10), у тым ліку 3—8 кг кішонкі,

сочных кармоў летам 12 кг (8—20), мяшанкі ММ 20 г, для высакацельных кароў 30 г, кухоннай солі 5 г на кожны літр малака.

## КАРМЛЕННЕ ЦЯЛЯТ

Найбольшыя страты сярод цялят узнікаюць на працягу двух першых тыдняў іх жыцця, у асноўным па прычыне паносаў, выкліканых неадпаведным кармленнем.

Упершыню цяля паіць трэба ў гадзіну пасля нараджэння. На працягу першых 5 дзён цяля трэба паіць 4—5 разоў у дзень малодзівам, якое з'яўляецца неабходным для нармальнага развіцця цяляці. Дзённая доза малодзіва каля 5—6 літраў.

Цялят трэба паіць малаком маці да 15 дня жыцця. Перыяд паення малаком цялят трывае пераважна 2—3 месяцы. Найбольшыя дзённыя дозы малака не павінны перавышаць 7—9 літраў.

Ва ўзросце каля двух тыдняў трэба пачынаць даваць цялятам сена. Ад трох тыдняў пачынаем даваць змястоўны корм (пшанічныя вотруб'і, мяты авёс, ільняную макуху, мяшанку С).

Ад найранейшага ўзросту трэба прызвычаіць цялят да кармоў сухіх і сочных.

## НАЙЧАСЦЕЙШЫЯ ПАМЫЛКІ Ў КАРМЛЕННІ ЦЯЛЯТ:

1) цяляты атрымліваюць недастатковую колькасць малака;

2) даюцца надта малыя дозы малодзіва;

3) кормяцца малаком халодным або нясвежым;

4) цяляты атрымліваюць малако ад хворых кароў (туберкулёз);

5) малако, прызначанае для цялят, бруднае, поящь іх з брудных вёдраў;

6) неадпаведныя для цялят памяшканні (халодныя, вільготныя, са скразнякамі, зацемненыя), што выклікае прастуду;

7) пры паенні цялят абястлушчаным малаком даецца малако кіславатае (найлепш даваць абястлушчанае малако зусім кіслае).

## КАЛЯНДАР ЦЯЖАРНАСЦІ (ПАЛІЧАНЫ НА ШТОДЗЕСЯТЫ ДЗЕНЬ ЦЭЛЫ ГОД)

| Пачатак цяжарнасці | Народзіць каля: | | | |
|---|---|---|---|---|
| | карова | кабыла | свіння | авечка |
| 1 студзеня | 12 кастрыч. | 6 снежня | 30 красавіка | 3 чэрвеня |
| 11 студзеня | 22 кастрыч. | 16 снежня | 10 мая | 13 чэрвеня |
| 21 студзеня | 1 лістапада | 26 снежня | 20 мая | 23 чэрвеня |
| 31 студзеня | 11 лістапада | 5 студзеня | 30 мая | 3 ліпеня |
| 10 лютага | 21 лістапада | 15 студзеня | 9 чэрвеня | 13 ліпеня |
| 20 лютага | 1 снежня | 25 студзеня | 19 чэрвеня | 23 ліпеня |
| 2 сакавіка | 11 снежня | 4 лютага | 29 чэрвеня | 2 жніўня |
| 12 сакавіка | 21 снежня | 14 лютага | 9 ліпеня | 12 жніўня |
| 22 сакавіка | 31 снежня | 24 лютага | 19 ліпеня | 22 жніўня |
| 1 красавіка | 10 студзеня | 6 сакавіка | 29 ліпеня | 1 верасня |
| 11 красавіка | 20 студзеня | 16 сакавіка | 8 жніўня | 11 верасня |
| 21 красавіка | 30 студзеня | 26 сакавіка | 18 жніўня | 21 верасня |
| 1 мая | 9 лютага | 5 красавіка | 28 жніўня | 1 кастрыч. |
| 11 мая | 19 лютага | 15 красавіка | 7 верасня | 11 кастрыч. |
| 21 мая | 1 сакавіка | 25 красавіка | 17 верасня | 21 кастрыч. |
| 31 мая | 11 сакавіка | 5 мая | 27 верасня | 31 кастрыч. |
| 10 чэрвеня | 21 сакавіка | 15 мая | 7 кастрыч. | 10 лістапада |
| 20 чэрвеня | 31 сакавіка | 25 мая | 17 кастрыч. | 20 лістапада |
| 30 чэрвеня | 10 красавіка | 4 чэрвеня | 27 кастрыч. | 30 лістапада |
| 10 ліпеня | 20 красавіка | 14 чэрвеня | 6 лістапада | 10 снежня |
| 20 ліпеня | 30 красавіка | 24 чэрвеня | 16 лістапада | 20 снежня |
| 30 ліпеня | 10 мая | 4 ліпеня | 26 лістапада | 30 снежня |
| 9 жніўня | 20 мая | 14 ліпеня | 6 снежня | 9 студзеня |
| 19 жніўня | 30 мая | 24 ліпеня | 16 снежня | 19 студзеня |
| 29 жніўня | 9 чэрвеня | 3 жніўня | 26 снежня | 29 студзеня |
| 8 верасня | 19 чэрвеня | 13 жніўня | 5 студзеня | 8 лютага |
| 18 верасня | 29 чэрвеня | 23 жніўня | 15 студзеня | 18 лютага |
| 28 верасня | 9 ліпеня | 2 верасня | 25 студзеня | 28 лютага |
| 8 кастрыч. | 19 ліпеня | 12 верасня | 4 лютага | 10 сакавіка |
| 18 кастрыч. | 29 ліпеня | 22 верасня | 14 лютага | 20 сакавіка |
| 28 кастрыч. | 8 жніўня | 2 кастрыч. | 24 лютага | 30 сакавіка |
| 7 лістапада | 18 жніўня | 12 кастрыч. | 6 сакавіка | 9 красавіка |
| 17 лістапада | 28 жніўня | 22 кастрыч. | 16 сакавіка | 19 красавіка |
| 27 лістапада | 7 верасня | 1 лістапада | 26 сакавіка | 29 красавіка |
| 7 снежня | 17 верасня | 11 лістапада | 5 красавіка | 9 мая |
| 17 снежня | 27 верасня | 22 лістапада | 15 красавіка | 19 мая |
| 27 снежня | 7 кастрыч. | 1 снежня | 25 красавіка | 29 мая |

## ВЫВАД ХАТНЯЙ ПТУШКІ

| Птушка | Час выседжвання яек | Колькасць яек | Колькасць саміц на аднаго самца |
|---|---|---|---|
| Курыца | 20—22 дні | 15—19 яек | 12—15 саміц |
| Індычка | 27—30 дзён | 15—19 яек | 10—15 саміц |
| Гуска | 28—32 дні | 13—14 яек | 4—6 саміц |
| Качка | 26—31 дзень | 13—15 яек | 4—6 саміц |
| Галубіха | 17—19 дзён | 2—3 яйкі | 1 саміца |

Колькасць яек, якія патрэбна падкласці пад адну квактуху залежыць ад яе размераў (велічыні). Напрыклад, пад індычку можам падкласці 21—25 курыных яек, 9—11 гусіных або 21 качыных; пад курыцу — ад 3 да 5 гусіных яек, або 11 качыных.

## ВЫРОШЧВАННЕ КУКУРУЗЫ НА КОРМ

Кукуруза з'яўляецца шырока распаўсюджанай культурай у свеце. Яна мае вялікія якасці як кармавая расліна, м. інш. мае вялікую кармавую вартасць пры скормліванні, як зялёнкі летам і ў якасці сіласа — зімою. Кукуруза найлепш расце на ўраджайных і чыстых ад пустазелля глебах. Але і на лёгкіх глебах таксама ўдаецца пры ўмове адпаведнага і належнага ўгнаення.

Найлепшым месцам пад кукурузу з'яўляюцца палеткі пасля прапашных, інакш — поле з натуральным угнаеннем, заараным на зіму.

Угнаенне. Кукуруза патрабуе перад усім азоту і калія (патасу). Аднак асноўным угнаеннем глебы пад кукурузу павінна быць натуральнае ўгнаенне, г.зн. гной (абарняк), вывезены восенню, у колькасці ад 200 да 300 цэнтнераў на 1 гектар.

Калі сеем кукурузу на натуральным угнаенні (гной), дык трэба апрача гэтага даць вясною на 1 гектар ад 150 да 250 кг азотавых штучных угнаенняў (азотняк, салетшак ці салетра), ад 150 да 200 кг фосфаравых (суперфасфат) і ад 150 да 200 кг калійных (40% патасовая соль).

Пасля стручковых, якіх папулярна завуць матыльковымі і пасля азімых паплёнаў, або, калі кукурузу сеем у далейшыя гады пасля натуральных угнаенняў, колькасць унесеных у глебу штучных угнаенняў трэба павялічыць.

Тэрмін сяўбы кукурузы прыпадае ў нас паміж 25.IV. і 10.V. Найлепшыя вынікі дае сяўба квадратна-гнездавым метадам, як на насенне, так і на сілас. Незалежна ад формы пасеваў пры дапамозе сеялкі ці матычкі, высяваем ад 35 да 45 кг насення кукурузы на 1 гектар.

## КАРМАВЫ ЛУБІН

Кармавы лубін, як і іншыя матылькоовыя расліны, мае вялікі працэнт бялка, як у зялёнай масе, так і ў зярнятах. Гэтая яго характэрная рыса дае падвойную карысць: добры корм з зялёнкі ці сіласу, і якаснае высокабялковае вотруб'е з зерня.

Другой, таксама важнай рысай (кожнага лубіну!) з'яўляецца здольнасць угнойваць глебу, асабліва азотам.

Кармавы лубін залічваецца да ліку раслін, якія, як кукуруза і люцэрна, дазваляюць павялічваць пагалоўе хатняй жывёлы, забяспечваючы кармавыя рэсурсы.

Найбольш папулярнымі і ўраджайнымі на нашай глебе з'яўляюцца наступныя гатункі кармавога лубіну: жоўты, белы і вузкалісцевы. Найбольш практычным у вырошчванні — жоўты лубін. Мае ён найлепш развіты корань у параўнанні да іншых гатункаў кармавога лубіну і таму расце нават на лёгкіх пяшчаных глебах. Кветкі яго жоўтыя, а зярняты шэрыя або белыя.

Умовай для добрага ўраджаю лубіну з'яўляецца выбар адпаведнага месца для сяўбы. Нельга сеяць лубін на запушчаным полі. Перш за ўсё таму, што, напрыклад, жоўты лубін пачаткова расце павольна, і ў першыя тыдні пасля ўсходу ўтварае над зямлёй толькі невялікія разеткі і таму хутка „паддаецца" пустазеллю.

Лубін любіць глебу слаба кіслую. На глебе багатай вапнай хварэе і не дае добрага насення. Не родзіць таксама на празмерна вільготных, сапавых і цяжкіх глебах. Не раім сеяць лубіну за часта на тым жа самым месцы, не дасць ён тады належных плёнаў. На зялёнку можна сеяць часцей на адным палетку. Месца пад кармавы насенны лубін найлепш выбраць пасля прапашных (акаповых) культур.

## ЛУБІН — ДАСКАНАЛЫ ПАПЯРЭДНІК АСНОЎНАЙ СЕЛЬГАСКУЛЬТУРЫ

Лубін з'яўляецца дасканалым папярэднікам перад асноўнай сельскагаспадарчай культурай. Пасеяны на зялёнку пакідае пасля сябе глебу ў найлепшым стане. Доўгі корань лубіну цягне ваду і кармавыя сокі з глыбейшых слаёў глебы ўгору, дзякуючы чаму ўзбагачвае яе верхні слой. На карэннях узнікаюць „бародаўкі", якія прысвойваюць азот з паветра. Такім чынам пасля прагнівання карнявых астаткаў і наглебавай пожні глеба атрымлівае шмат розных арганічных мінеральных рэчываў.

Нельга згаджацца са сцвярджэннямі, што пад лубін прыгодная нават дрэнна дагледжаная глеба. Калі сеем яго пасля збожжавых культур, тады поле патрабуе падарыўкі, спружынавання і баранавання з мэтай ачысткі ад пустазелля і затрымання сырасці ў глебе.

Пасля прапашных на зіму поле трэба заараць і пакінуць у вострай глебе. Вясною пускаем культыватар і борану, ці толькі борану і сеем лубін.

Умовай для добрага ўраджаю лубіну з'яўляецца ўгнаенне поля каліем (патасовая соль) і фосфарам (суперфасфат).

Неабходна памятаць, што пры сяўбе важным з'яўляецца якасць і гатунак насення. Насенне кармавога лубіну павінна быць чыстае, без прымешак зярнят чорнага лубіну. Сеяць трэба як найраней. Лубін адпорны на лёгкія прымаразкі. Позняя сяўба не забяспечыць расліне дастатковай колькасці вільгаці. Сеяць трэба густа, асабліва на зялёнку. На насенне высяваем 120—150 кг лубіну на 1 га, а на зялёнку — 180—190 кг на 1 га.

На пашу касіць трэба, калі лубін цвіце і на галоўным сцябле ўжо вялікія струкі. Зялёнку можна сушыць на пашу, а таксама злажыць у сіласную яму.

Уборку жоўтага лубіну на насенне трэба праводзіць тады, калі на галоўным сцябле даспее палова струкоў. Запозненая ўборка прычыняе страты.

На зялёнку лубін можна сеяць у перамежку з іншымі матылькововымі, як сэрадэля, пялюшка, віка, а таксама з аўсом і яравым жытам.

## ЛЁН

Беластоцкае ваяводства з'яўляецца першым пастаўшчыком ільну для нашай тэкстыльнай прамысловасці ва ўсёй краіне. Гэта гонар усім нашым земляробам. Але многія гаспадары, нават тыя, хто займаецца вырошчваннем ільну ў шырэйшым маштабе на сваіх гаспадарках — плантатары, сеюць лён, неаднойчы не ведаючы, што рабіць, каб атрымаць добры ўраджай. Пагэтаму прапануем ніжэй некалькі парад.

В ы б а р  м е с ц а. Выбар поля пад лён — справа надта важная, бо вырашае ў асноўным лёс ураджайнасці гэтай прамысловай расліны.

Найлепшым папярэднікам ільну з'яўляецца канюшына, а таксама сумесь канюшыны з цімафееўкай.

Нядрэннымі прадпасяўнымі культурамі могуць быць і струкавыя, такія як: віка, пялюшка і гарох. Гэтыя расліны, як канюшына, так і цімафееўка, даюць многа азоту і перашкаджаюць распаўсюджванню сарнякоў. Але сеючы лён пасля струкавых на ўраджайных глебах неаднойчы можна спадзявацца яго буйнасці і вылягання. Каб пазбегнуць вылягання ільну, трэба даць глебе больш калійных (патасовых) угнаенняў.

Добрымі папярэднікамі пад лён з'яўляюцца таксама прапашныя культуры (бульба, буракі), калі глеба пад іх была ўгноеная і дагледжаная.

Добрыя вынікі дае лён на цалінах і залежах.

Не раім сеяць лён пасля лубіну. Паўторны пасеў ільну таксама дае дрэнныя вынікі.

В о р ы в а. Падрыхтоўку глебы трэба пачаць яшчэ ранняй восенню, адразу пасля ўборкі раслін, якія папярэджваюць лён. Калі імі не будуць канюшына і прапашныя, перш за ўсё праводзіцца плыткая падворка пожні. Чым хутчэй яе трэба забаранаваць. Пасля ўсходу зелля забаранаваць цяжкай бараной. Калі зелле яшчэ раз узыйдзе і прарасце, лепш за ўсё пусціць спружынавы культыватар.

На полі з пырнікам (пірэйкаю) робіцца глыбокая падворыўка, затым, калі пырнік прасохне, пусціць спружыноўку (драпак), потым звычайнай бараной пасцягваць пырнік.

На зіму поле пад лён трэба глыбока заараць, незалежна ад папярэдняй культуры і пакінуць у вострай скібе.

Вясной поля пад лён араць нельга. На аснове вопыту, калі нават глеба пасля зімы моцна зляжалася, дык найлепш узрыхліць яе спружыноўкай, затым забаранаваць, каб утрымаць на палетку больш вільгаці. Калі поле надта мяккае, праводзім валаванне гладкім валам. Чым хутчэй сеяць лён.

Угнаенне. Сеяць лён непасрэдна пасля гною (абарняка) не раім. Найлепшыя вынікі дае лён, пасеяны на другі год пасля ўгнойвання абарняком. Некаторыя земляробы даюць гной пры асенняй ворцы поля пад лён. Нельга, аднак, даваць яго многа.

Калі хочам атрымаць добры ўраджай ільну, нельга абыйсціся без штучных угнаенняў. Аднолькава патрэбныя тут азот, калій (потас) і фосфар.

Калій дадатна ўплывае на якасць валакна, забяспечвае расліну ад вылягання.

Азот мае ўплыў на ўзрост расліны, што для ільну надта важнае. Фосфар садзейнічае лепшаму фармаванню насення, прыспяшае даспяванне і аказвае ўплыў на колер ільняной саломы.

Сярэдняя норма гэтых угнаенняў пад лён складзе ў нас на 1 га:

1) азотавых — 150—200 кг сернакіслага амонія (сярчан амону) або азотнакіслай солі (салетшак);

2) калійных (патасовых) каля 150 кг (калійнай патасовай солі);

3) фосфарных каля 200 кг (суперфасфату).

Лён не любіць кіслай глебы. Некарысна аднак жа вапнаваць поле непасрэдна перад пасевам ільну. Добра, калі глеба была вапнавана гады 2 назад. На кіслых глебах лепш прымяняць азотнакіслую соль (салетшак), чымсьці сернакіслы амоній (сярчан амону).

Сернакіслы амоній сеецца некалькі дзён перад пасевам, а азотнакіслая соль — перад сяўбой як і пагалоўна, але неабходна чым хутчэй перамяшаць яе з зямлёю.

Як калійнае ўгнаенне можна прымяняць у перамежку з калійнай соллю звычайны драўляны попел.

Лён трэба сеяць магчыма як найраней, але ў глебу няклейкую і ўжо цёплую.

Ранейшаму ільну менш пагражае шкоднік — блошка, бо ўмацаваўшаяся ўжо раслінка больш адпорная на яе.

## АСНОЎНЫЯ І ПАСЦЕРНЯВЫЯ КУЛЬТУРЫ

Многія земляробы ведаюць, што ў адным годзе можна атрымаць два разы ўраджай з таго самага поля. Штораз часцей сеецца ў нас па пожнях пасцернявыя культуры, так званыя паплёны.

Але два ўраджаі можна атрымаць і іншым чынам, магчыма нават менш клапатлівым і выгаднейшым. Дасягаецца гэта шляхам падсеву ў жыта кармавой морквы. Сеяць трэба ранняй вясной калі яшчэ зямля мае многа вільгаці.

Кармавую моркву сеем у жыце сеўнікам пры ўстаноўцы радкоў ад 25 да 30 см. Найлепш сеяць упоперак радкоў жыта, высяваючы 5—6 кг насення на 1 гектар.

Пасля ўборкі жыта моркве даем штучныя ўгнаенні (перш за ўсё азотавыя) і найхутчэй узрыхляем зямлю паміж радкамі. Кармавая морква не баіцца прымаразкаў і таму да яе ўборкі можна прыступіць ужо пасля ўборкі бульбы і буракоў.

## ВЫРОШЧВАННЕ ТАПОЛЯЎ

Нашыя лясы робяцца ўсё больш рэдкімі, а запатрабаванне на драўляны матэрыял не памяншаецца. Таму мы павінны старацца хаця часткова падмяняць натуральны лес гадаваным, так сказаць, хатнім лесам. Найлепш аплачваецца вырошчванне таполяў. Вельмі добра расце ў нашых умовах нягляянская ці французская таполя, якая на працягу двух год дасягае неаднойчы 3-х метраў вышыні. Праз некалькі гадоў з яе можна мець свой уласны будаўнічы матэрыял у кожнай гаспадарцы.

Расце такая таполя на кожнай глебе, нават пясчанай. Разводзіцца як і вярба — з адросткаў і галінак. Можна яе садзіць нават густа. У першыя гады пасля пасадкі карысна вапнаванне глебы ў такім „таполевым лесе".

Каму давядзецца праязджаць праз веску Маліннікі ў Бельскім павеце, раім агледзець палетак таполяў пры мясцовай пачатковай школе. Напэўна спадабаецца і можа заахвоціць Вас да гэтай справы.

## ГОД У ГАСПАДАРЦЫ

СТУДЗЕНЬ. Зімовы час трэба выкарыстаць на чытанне кніжак і часопісаў з галіны сельскай гаспадаркі. Падрабязна, з алоўкам у руцэ, прадумаць і запісаць план гаспадарання на ўсё лета. Праверыць памылкі, якія былі зроблены ў гаспадарцы перш за ўсё ў расплянаванні на паасобных палетках сельскагаспадарчых культур, каб пазбегнуць у бягучым годзе падобных памылак. Малаціць збожжа, а ў марозныя дні — канюшыну. Дбаць аб цеплыні ў хлявах. У мароз жывёлу паіць падагрэтай вадой.

ЛЮТЫ. Праверыць запас корму і адпаведна да гэтага карміць жывёлу. Вывозіць ізлішак гною ў поле і ўкладваць яго ў вялікія кучы. Чысціць кару фруктовых дрэў і бяліць вапнай. Прагледзець сельскагаспадарчыя

машыны, як уласныя так і супольныя. Адрамантаваць іх. Даглядаць хатнюю птушку, якая ў гэты час пачынае ўжо нясціся. Неадкладна закупіць штучныя ўгнаенні ў бліжэйшай ГС. У вольны час рубаць дровы, чысціць насенне.

САКАВІК. Рыхтавацца да сяўбы. Агледзець поле. На азіміне зрабіць праход вадзе ў вадаадводцы. Прагледзець бульбу. Адабраць насенную. З кармавой зрываць расткі, таму што яны шкодныя для жывёлы. У корм жывёле дадаваць соль. Пасадзіць квактуху — раннія кураняты добра развіваюцца і ўжо восенню нясуцца. Кураняты можна таксама заказаць у інкубатары ў бліжэйшым павятовым горадзе. Наводзіць парадкі ў садзе і на панадворку.

КРАСАВІК. Калі толькі зямля падсохне і нагрэецца, сеяць. Сеяць трэба сеўнікам — гэта гарантуе большы ўраджай і ашчаднасць насення. Угнойваць сенажаці і пастбішчы. Баранаваць азіміну, перш за ўсё пшаніцу і канюшыну. Вазіць гной пад бульбу. Трэба садзіць бульбу раннюю. У агародзе сеяць буракі, садзіць цыбулю. У садзе садзіць саджанцы фруктовых дрэў, кусты парэчак і агрэсту. Зашчапіць маладыя дрэўцы. У пасецы ачысціць дно вулляў. Падкормліваць слабыя роі. Утрымліваць у чысціні жывёлу. Рамантаваць дарогі.

МАЙ. Садзіць бульбу, сеяць проса, грэчку і кукурузу. Садзіць капусту і памідоры. Выпускаць жывёлу на пастбішча. Купіць парасяты. Законтрактаваць свінні. Стрыгчы авечкі. Даглядаць пчолы — павялічыць колькасць сот, знішчыць матачнікі.

ЧЭРВЕНЬ. Абгортваць бульбу. Многа працы ў агародзе — падсыпаць угнаенні, абгортваць, палоць. Касіць траву і канюшыну. Мачыць каноплі. Хатнюю птушку карміць дробнасечанай зелянінай. Жывёле даваць зялёны корм. Рыхтаваць пчолы да галоўнага ўзятку — даваць рамкі з вашчынаю на складванне мёду. Касіць і сушыць на корм рознае зелле. Другі раз пасеяць рэдзьку. Шукаць і знішчаць каларадскага жука (бульбяную стонку). Варыць варэнне з клубнікі, ягад — кансерваваць.

ЛІПЕНЬ. Рыхтавацца да жніва. Ладзіць вазы, жняяркі, косы. Чысціць стадолы. Адразу рабіць падворыўку і баранаваць. Сеяць пасцернявыя культуры (паплёны) на корм жывёле. У садзе даглядаць фрукты, падпіраць галінкі. Тычыць фасолю і агародні гарох. У засуху на пасецы ставіць ваду. Збіраць і сушыць крапіву курам на зіму. Падскубваць гусей і качак, каб не гублялі пер'я. Зашчапіць свіней ад ружыцы (чырвонкі).

ЖНІВЕНЬ. Канчаць жніва і брацца за обмалот. Чысціць насенне для асенняй сяўбы. Рваць лён, раннюю цыбулю, мак, фасолю, фрукты, варыць варэнне і кансерваваць. Выбіраць мёд з вулляў, павялічваць пасеку.

Рыхтаваць пчолы да зімы, звужваць гнёзды. Касіць траву. Араць поле пад азіміну.

ВЕРАСЕНЬ. Капаць бульбу, буракі і моркву. Сеяць жыта і пшаніцу. Збіраць фрукты і памідоры. Збіраць насенне. Упарадкаваць збожжа, аддаць пастаўкі дзяржаве. Надалей рыхтаваць розныя вырабы з фруктаў і гародніны на зіму. Выпасаць канюшыну на пожні. Рыхтаваць пчолы да зімы. Папоўніць ім корм.

КАСТРЫЧНІК. Ворка. Закончыць капанне бульбы і буракоў. Закончыць сяўбу жыта і пшаніцы. Зрэзаць капусту. Капцаваць бульбу і буракі. Маладыя дрэўцы ў садзе абкласці саломай. Рассадзіць кусты парэчак і агрэсту. Перасаджваць дрэвы. Выкапаць ямы пад пасадку дрэў на вясну. Даглядаць сіласныя ямы, каб там не было высокай тэмпературы.

ЛІСТАПАД. Закончыць асеннія працы. Калі яшчэ няма марозу, араць пад ярыну (гэта на многа лепш чым вясной). Запасціся на зіму топлівам. Адвезці буракі ў цукроўню. Забяспечыць сельскагаспадарчыя машыны ад знішчэння і ржавення.

У сельгасгуртку зрабіць усе падлікі і разлікі. Забяспечыць на зіму хлявы і куратнікі (пабяліць вапнаю). Перабраць фрукты і незакапцаваную яшчэ бульбу, буракі. Купіць цікавыя кніжкі на зіму і зрабіць падпіску на журналы і часопісы з галіны сельскай гаспадаркі.

СНЕЖАНЬ. Вывозіць гной і кампост на поле, укладваць у вялікія кучы, каб вясною выкарыстаць пад прапашныя і бульбу. Забяспечыць копцы з агароднінай ад марозу. Адкормліваць свіней і бычкоў. Дбаць аб цеплыні ў куратніках. Даглядаць жывёлу, чытаць кніжкі. Прасці і вышываць.

# У садзе і агародзе

## БАРАЦЬБА СА ШКОДНІКАМІ І ХВАРОБАМІ САДУ

Ужо санкавік і садаводы поўныя клопатаў за лёс будучага ўраджаю. Для паспяховай абароны пладовых насаджэнняў ад шкоднікаў і хвароб трэба прымяняць не асобныя спосабы барацьбы, а сістэму прафілактычных і знішчальных мерапрыемстваў.

На прадвесні, за 7—10 дзён да распускання пупышак, праводзяць выкараняючае апырскванне нітрафенам (300 гр на 10 л вады) супраць яек тлі, яблыневай медзяніцы, пладовых кляшчоў, зімовай пядзеніцы, коскападобнай шчытоўкі, вусеняў яблыневай молі, ліставёртак, паршы і інш. Апырскваюць як само дрэва, так і прыствольныя кругі. Расход вадкасці 5—10 л на дрэва.

Калі ў мінулым годзе дрэвы былі вельмі пашкоджаны паршой, акрамя выкараняючага праводзяць і „глыбокае" апырскванне ў час набрыняння пупышак 3% бардоскай вадкасцю (300 гр меднага купаросу і 400 гр свежапагашанай вапны на 10 л вады). Пры нязначным паражэнні апырскванне можна і не праводзіць. У гэты ж тэрмін атрасаюць з пладаносных дрэў яблыневага кветкаеда і іншых даўганосікаў на посцілку, а пасля знішчаюць іх.

Адразу пасля цвіцення для барацьбы з паршой дрэвы апырскваюць 1-працэнтнай бадроскай вадкасцю (100 гр меднага купаросу, 150 гр свежапагашанай вапны на 10 л вады) або адным з яе замяняльнікаў: суспензіяй хлорвокісу медзі (30 гр 90% прэпарату), калоіднай серай (100 гр), каптанам (50 гр), фталанам (50 гр на 10 л вады). У гэты ж час праводзяць перыядычны агляд дрэў, знішчаюць гнёзды з вусенямі кольчатага шаўкапрада, яблыневай молі і іншых шкоднікаў.

Праз 15—20 дзён пасля цвіцення яблыні гатунку антонаўка праводзіцца камбінаванае апырскванне супраць яблыневай пладажоркі і іншых грызучых і смокчучых шкоднікаў, а таксама супраць паршы растворам хларафосу (20 гр на 10 л вады) з дадаткам аднаго з замяняльнікаў бардоскай вадкасці, за выключэннем хлорвокісу медзі.

Пасля ўборкі ўраджаю неабходна правесці лячэнне ран і заштукаваць дуплы, выявіць норы мышэй і знішчыць іх прынадай з крысідам (5 гр крысіду на 1 кг прынады). Трэба зняць лоўчыя супрацьпладажоркавыя паясы. Восенню, пасля лістападу, зняць і спаліць зімуючыя гнёзды баярышніцы і муміфіцыраваныя плады. Згрэбсці і спаліць пашкоджаную паршой лістоту або закапаць яе ў зямлю.

У зімовы перыяд трэба падкормліваць сініц і іншых насякомаядных птушак (асабліва пры моцных снегападах і галалёдах). Для аховы маладых дрэў ад пашкоджання грызунамі правесці абтаптванне снегу вакол дрэў у дні адліг, пры гэтым трэба падкідаць снег з міжраддзяў да дрэў, каб не агаляць штамбы.

## ФАРМІРАВАННЕ КРОНЫ

Абрэзку дрэў у маладым узросце праводзяць для ўтварэння кампактнай і трывалай кроны. Вельмі важна дабіцца такога размяшчэння галін, каб яны, займаючы пэўнае месца ў кроне, добра асвятляліся і не перашкаджалі адна адной. На ствале закладаюць 6—7 бакавых галін, размяшчаючы іх на адлегласці 12—15 см адна ад адной. Можна размяшчаць іх і групамі з 3—4 галін, з адлегласцю паміж групамі 60—70 см. Бакавыя галіны павінны быць раўнамерна размеркаваны таксама і па акружнасці ствала. Вугал разыходжання паміж суседнімі галінамі павінен быць не менш 70°.

Пры фарміраванні трэба супадпарадкаваць бакавыя галіны ствалу, верхнія — ніжнім. Яны не павінны перавышаць 0,6 таўшчыні ствала.

Галіны, якія адыходзяць ад ствала пад вуглом менш за 45°, няварта пакідаць на кроне, бо зрастанне іх са ствалом нетрывалае і ў далейшым прыводзіць да разлому дрэва. Гарызантальныя і паніклыя галіны таксама непрыгодныя, — яны звычайна слабыя і з іх не ўтвараецца разгалінаванне.

На бакавых галінах закладваюць разгалінаванні другога парадку. Першае такое разгалінаванне закладаюць на адлегласці 40—60 см ад аснавання, наступнае — праз 30—40 см адно ад аднаго, веерападобна. Усе галіны, што ідуць у сярэдзіне кроны і загушчваюць яе — выразаюць або ператвараюць у абрастаючыя галінкі, на якіх ідзе пладанашэнне.

Для таго, каб з моцнага аднагадовага парастка сфарміраваць пладовую галінку, яго абразаюць, пакідаючы толькі 4—5 пупышак. З верхніх пупышак укарочанага парастка ўтвараюцца моцныя парасткі, а з ніжніх — больш слабыя. На наступны год галіну абразаюць над ніжнім, моцным парасткам, а сам парастак зноў укарочваюць, пакідаючы 3—4 пупышкі. На трэці год такую абрэзку паўтараюць і ў выніку ўтвараецца пладовая галінка.

Рост галін кроны рэгулюецца абрэзкай. Галіну, якую трэба паслабіць, рэжуць больш, слабую менш. Калі гэты прыём не дае эфекту і галіна расце актыўней, чым гэта трэба, праводзяць абрэзку на бакавое разгалінаванне, г.зн. зразаюць галіну над бакавым разгалінаваннем.

Абрэзку дрэў пачынаюць у першы год пасля пасадкі, вясной. Пры гэтым бакавыя парасткі пакарочваюць на 1/3—1/4 даўжыні. Слабыя галінкі абразаюць менш, а моцныя — больш. Верхні, бакавы парастак, які звычайна расце пад вострым вуглом і канкурыруе з праваднікам, выразаюць цалкам. Пасля абрэзкі праваднік павінен быць на 15—20 см вышэй за канцы бакавых галін. На наступны год абрэзкі не праводзяць за выключэннем выразання паламаных і пашкоджаных галін. У далейшым абрэзку праводзяць штогод, таму што ў маладога дрэва парастак за 2—3 гады ператвараецца ў магутную галіну і выразка такой паслабляе расліну.

Маладыя дрэвы, якія ўступілі ў пладанашэнне і добра сфарміраваліся, рэжуць слаба, выдаляюць толькі галіны, што загушчаюць крону.

## ЦЫБУЛЯ

Цыбуля культывуецца вельмі даўно — больш як 4 тысячы год да н.э. Яна прыйшла да нас з паўднёвых краін, са сваёй радзімы — Сярэдняй Азіі і Афганістана. Усе мы так прызвычаіліся да цыбулі, што не ўяўляем стол без яе. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца цыбуля рэпчатая, зялёная. Але не ўсе ведаюць, што існуе шмат разнавіднасцей цыбулі — багун, парэй, ускун, шматярусная, цыбуля жалезістая (слізун). Цыбуля — вельмі карысны прадукт.

У цыбулінах утрымліваецца цукар, эфірнае цыбульнае масла, якое надае вастрыню смаку, вітамін С, у лісці — вітамін С і правітамін А. Коль-

касць гэтых рэчываў вагаецца ў залежнасці ад гатунку. Так, у цыбулінах цукраў можа быць ад 2,4 да 14 мг %, эфірнага масла — 12—16,2 мг %, вітаміна С 2—13,9 мг %, а ў пер'і — 25—47,7 мг % і ад 1,3 да 5,9 мг % правітаміна А.

І калі ў нас шырока карыстаюцца рэпчатай цыбуляй, то, на жаль, не вельмі ўжываюць іншыя гатункі. А шкада. Так, цыбуля-парэй больш далікатная, чым звычайная. Выкарыстоўваецца ў парэя цыбуліна і белая частка сцябла, маладое пер'е. Асабліва каштоўны парэй зімою і вясною, калі ўжо мала свежай гародніны — вітаміну С у ім удвая больш, чым у рэпчатай, шмат солей, калія.

Цыбуля не толькі ўжываецца ў ежу, але і мае лекавае значэнне, бо валодае бактэрыцыднымі і антыцынговымі ўласцівасцямі, утрымлівае шмат фітанцыдаў. Лушпінне цыбулі мае шмат фарбавальнага рэчыва — кверыцыціну (1,3%), які ўжываюць для афарбоўкі шоўку, шэрсці, ільну, бавоўны. У Сярэдняй Азіі вараныя цыбуліны з цукрам і міндальным маслам ужываюць як слабіцельны сродак, пры тыфуснай гарачцы, у Індыі — як стымулюючы сродак, пры гарачцы, катарах, вушных хваробах і інш.

Вельмі добра пры нарывах, карбункулах і фурункулах прыкладваць печаную цыбулю. Яе парамі ў бальніцах лечаць гнойныя раны і язвы. Кашыцу цыбулі (пацёртую на дробнай тарцы або прапушчаную праз мясарубку) карысна ўжываць пры насмарку (асабліва ў час грыпу), пры трыхамандных захворваннях. Сок цыбулі, змешаны ў роўных частках з мёдам, у народзе прымаюць пры атэрасклерозе, склератычнай форме гіпертаніі — па чайнай лыжцы нашча. Кашыцу цыбулі прымаюць пры атаніі кішэчніка. Свежае лісце — пры авітамінозах.

Свежым лісцем лечаць парэпаную скуру, выводзяць мазалі. Пры выпадзенні валасоў карысна ўціраць сок цыбулі, змешаны (1:1) з рыцынай. Супраць глістоў ужываюць экстракт цыбулі. Для гэтага трэба здробненую ў кашыцу буйную цыбулю заліць шклянкай вады, вытрымаць на працягу ночы і піць нашча на працягу 3—4 дзён. Для лячэння гіпертаніі прадстацельнай залозы рэкамендуецца вечарам з'ядаць невялікую цыбуліну.

Фармацэўтычная прамысловасць выпускае гатовыя прэпараты са свежай цыбулі — настойку алілчэп і экстракт алілгліцэр.

## ПЕРАПРЫШЧЭПКА ПЛАДОВЫХ ДРЭЎ

Садаводу-аматару нярэдка даводзіцца думаць пра лёс некаторых насаджэнняў у садзе. Часам па нявопытнасці пры закладцы саду было высаджана замнога дрэў аднаго гатунку, і пры тым не заўсёды самага лепшага. Бывае, што дрэвы не задавальняюць садавода. У такіх выпадках рэкамендуецца праводзіць перапрышчэпку няўдалых дрэў.

Для перапрышчэпкі прыгодныя толькі здаровыя, з непашкоджаным ствалом дрэвы. Расліны — з 5—7-гадовым узростам можна перапрышча-

піць у адзін год. Больш старыя дрэвы, якія маюць моцную, добраразгалінаваную крону, перапрышчэпваюць па частках, за 2—3 гады. Варта заўсёды помніць, што чым маладзей дрэва, тым лепшы эфект. Пачынаючы перапрышчэпку з вяршыні кроны і верхніх сукоў, паступова пераходзячы да ніжніх галін. Перад тым, як праводзіць перапрышчэпку, трэба старанна абразаць дрэвы, выразаючы ўсе непатрэбныя галіны. Абразаюць іх як мага бліжэй да аснавання, у гэтым выпадку будзе значна менш ваўчковых парасткаў.

Для веснавой перапрышчэпкі выкарыстоўваюцца аднагадовыя парасткі (чаранкі). Іх нарыхтоўваць трэба з восені або рана зімой і захоўваць у пограбе на ледніку пры тэмпературы 0—2° марозу або пад снегам. Да часу прышчэпкі пупышкі на чаранках не павінны кранацца ў рост. Перапрышчэпку праводзяць да пачатку росту парасткаў, калі кара добра адстане ад драўніцы — у нашых умовах лепш на працягу мая. Найлепшы спосаб прышчэпкі тоўстых галін з'яўляецца прышчэпка за кару. Садовы нож павінен быць востры, каб атрымліваліся гладкія парэзы. Чаранок прышчэпкі павінен мець 2—3 добра развітыя роставыя пупышкі. Адразу ж пасля закладкі чаранка пад кару трэба абвязаць яго лубам, плёнкай (лепш прымяняць поліхлорвінілавую) або ліпкай ізаляцыйнай стужкай і вельмі старанна замазаць садовым варам. Абмазваць абавязкова і верхні зрэз чаранка.

Рэцэптаў садовай замазкі існуе шмат. Прасцейшая з іх: узяць I частку каніфолі, 1 частку воску або парафіну, 1 частку алею і зварыць. Замазка павінна быць ліпкая, добра размазвацца, не засыхаць, не расцякацца ў любое надвор'е.

Адкрыты грунт. У красавіку высяваюць насенне аднагадовых і шматгадовых раслін. Адкрываюць ружы ад зімовага ўкрыцця, абразаюць і прарэджваюць парасткі. Падкормліваюць іх перагноем з мінеральнымі ўгнаеннямі. У канцы месяца робяць перасадку руж.

Раскрываюць гіяцэнты і нарцысы, глебу разрыхляюць і ўносяць мінеральныя ўгнаенні.

У канцы месяца пачынаюць пасадку гладыёлусаў.

Клубні вяргінь высаджваюць у гаршкі — гэтым спосабам можна дабіцца больш ранняга цвіцення.

Высаджваюць дрэвы і кустарнікі.

Закрыты грунт. Робяць другую пікіроўку цыкламенаў. Пікіруюць у скрынкі па 28—32 штукі. Вельмі важна, каб клубень на 1/4 выступаў з зямлі і быў прысыпаны торфам. Паліваюць асцярожна, каб вада не трапіла ў сярэдзіну куста, бо могуць загніць ліставыя і кветкавыя пупышкі.

Заканчваецца чаранкаванне і прышчэпка гартэнзіі.

У пакоях. Заканчваюць перасадку большасці пакаёвых раслін. Самы добры час для пасеву кактусаў. Плошчу з пасевам трэба трымаць у цёплым месцы і накрыць яе шклом.

## ПРАЦА Ў АГАРОДЗЕ

Высяваюць памідоры для расады ў парніках і расадных цяпліцах.

Прарослым насеннем высяваюць гуркі і спажыўныя кубікі, гаршчочкі. У канцы красавіка высаджваюць у парнікі з сонечным абагрэвам і ў адкрыты грунт.

У сярэдзіне красавіка сеюць холадалюбівую агародніну: моркаўку, цыбулю, пятрушку, летнія гатункі рэдзькі.

У красавіку высаджваюць насеннікі капусты, морквы, буракоў і іншых культур.

У пачатку мая высяваюць у грунт цеплалюбівыя летнікі: іпамею, настурцыю, карэопсіс, дзімарфатэку. У канцы месяца можна высаджваць расаду, якую папярэдне трэба загартаваць — узмоцніць праветрываннем, прывучыць да свежага паветра. Можна высаджваць расаду гваздзік Шабо, летняга леўкоя, астр, душыстага гарошку. У гэты ж час высаджваюць двухлетнікі: віолу, маргарытку, незабудку.

Праводзяць падкормку мнагалетнікаў — півоняў, прымулы, флоксаў, аквілегіі.

У час цвіцення цыбульных асаблівая ўвага аддаецца паліўцы.

Пры зрэзе цюльпанаў трэба пакідаць не менш двух лістоў.

Праводзяць чаранкаванне флоксаў — з іх у наступным годзе разаўюцца самыя моцныя экземпляры.

У сярэдзіне месяца высаджваюць вяргіні.

Пасля перасадкі пакаёвых раслін паліўку праводзяць па меры высыхання глебы. Збыткоўная вільгаць будзе перашкаджаць нармальнаму развіццю карэнняў. Паліваць лепш увечары. Вельмі добрая дажджавая вада. Праз месяц расліны можна падкарміць мінеральнымі ўгнаеннямі.

У балконныя скрынкі можна высяваць бабы, настурцыю, нагаткі. Вельмі прыгожыя ў балконных скрынках розныя пеларгоніі.

У пачатку ліпеня трэба падкарміць півоні мінеральнымі ўгнаеннямі — 20—25 гр пад дарослы куст, папярэдне добра паліўшы вадой. У канцы месяца патрэбна даць толькі фосфарныя і калійныя ўгнаенні (у той жа дозе), падкормліваць трэба так, каб угнаенне не трапіла на зялёную частку расліны.

Пачатак ліпеня — добрая пара для чаранкавання руж, флоксаў і іншых раслін. Другая палова месяца — для перасадкі і дзялення садовага ірысу. Дзяліце акуратна, каб на кожнай частцы заставаліся маладыя карэнні.

У гэты ж час можна пачынаць акуліроўку бэзу. У сярэдзіне месяца выкопвайце цюльпаны, гіяцэнты і нарцысы. Калі нарцысы пасаджаны толькі мінулай восенню, іх можна пакінуць на тым жа месцы яшчэ на 2—3 гады, а калі трэба хутчэй размножыць, то выкопвайце іх асобна. Не забывайцеся пасынкаваць вяргіні. Па меры неабходнасці палівайце ўсе расліны, рыхліце глебу, выдаляйце пустазелле.

У канцы ліпеня праводзяць акуліроўку руж, прышчэпліваюць на пад-

вой ружы кашэна. На падвоі робіцца Т-падобны надрэз, у які ўстаўляюць пупышку з парастка гатунковай ружы. Пупышкі трэба выбіраць добра развітыя з сярэдняй часткі адцвілага парастка.

Рэгулярна даглядаць ружы і гваздзікі ў закрытым грунце. Асаблівую ўвагу звярніце на паліўку, яна павінна быць не частай, але багатай. Вышчыпвайце бакавыя бутоны ў руж і гваздзік, каб кветкі былі буйныя. Аранжарэйным ружам, якія прызначаюцца для цвіцення зімой, трэба даць кароткачасовы адпачынак.

Высяваюць прымулу абаконіка для цвіцення ў сакавіку-красавіку і цыкламен — для цвіцення восенню і зімой наступнага года.

У пакоях на кактусах і іншых пакаёвых раслінах асабліва развіваецца мучністы чарвяк. Апрацоўвайце расліны 0,1% растворам тэафосу. Выкарыстайце для падкормкі мінеральныя ўгнаенні.

Калі парасткі алеандраў выцягнуліся з-за недахопу святла ў пакоях і цвіценне значна паменшылася, падрэжце іх сцябло напалову. За лета яны выганяць маладыя парасткі, здольныя цвісці ў наступным годзе.

У ліпені збіраюць ураджай чырвоных і чорных парэчак, агрэсту, маліны. Сістэматычна выдаляюць вусы на маладых плантацыях клубнікі, што павялічвае ўраджай удвая. Падкормліваюць яе перагноем кампостам (20—30 тон на гектар) або аміячнай салетрай і калійнай соллю (па 1 цэнтнеру на гектар). Угнаенні задзелваюць пры рыхленні глебы.

Збіраюць ураджай чарніц, вішні. Не забывайцеся на паліўку пладовых дрэў, гэта трэба рабіць па меры неабходнасці і багата.

Са з'яўленнем першых чарвівых пладоў штамбы яблынь і груш густа апырскваюць аднапрацэнтным растворам хларафосу. Затым на штамбы накладваюць лоўчыя паясы. Паданкі падбіраюць штодзённа.

* * *

У адкрытым і закрытым грунце. Пасля першых пастаянных марозаў (да $-5°$) прыступайце да прыкрыцця руж. Калі яны былі заражаны мучнічтай расой або чорнай плямістасцю, ачысціце ад лісця, пашкоджаныя парасткі зрэжце і апрыскайце 1% растворам ДНОК. Лісце вымятайце і спальвайце. Лепшы матэрыял для ўкрыцця руж — рыхлая зямля, сухі выветраны торф, яловы лапнік, лісце дрэў, плёнка. У вытворчых умовах ружы ўсіх груп на зіму акучваюць зямлёй на вышыню 25—30 см. Пасля гэтага, перад наступленнем марозаў іх яшчэ прыкрываюць лапнікам або лісцем. Пажадана кусты не акучваць, а засыпаць торфам або зямлёй.

Штамбавыя ружы ўкрываюць яловымі лапкамі і плёнкай, пры гэтым карнявую сістэму злёгка падкопваюць з аднаго боку, штамб прыцiскаюць да зямлі і замацоўваюць шпількамі. Пад крону падсцілаюць лапнік. Зверху прыкрываюць лапкамі і плёнкай. Плёнку па баках засыпаюць невялікім пластом торфу або зямлі.

Пляцістыя ружы ўкрываюць так, як і штамбавыя, але стараюцца захаваць парасткі мінулых гадоў. Асцярожна звяжыце іх і, прыгнуўшы на падрыхтаваную падсцілку з лапніка, замацуйце ў некалькіх месцах шпількамі.

Для поўнай гарантыі перазімоўкі акулянты (шыпшына летняй акуліроўкі) лепш выкапаць і трымаць у падвале або зацішным месцы.

Кусты бэзу, прызначаныя для зімовай выганкі, выкапайце і змясціце іх у адкрытыя парнікі, прыкрыўшы камяк зямлёй і ўцяпліўшы яго зверху сухім лісцем. К новаму году вы будзеце мець цудоўны матэрыял для выганкі.

У пачатку месяца прыступайце да пасадкі цыбулін цюльпанаў, нарцысаў, гіяцынтаў у скрынкі або гаршкі, запоўненыя лёгкай спажыўнай глебай для зімовай выганкі. Скрынкі або гаршкі з цыбулінамі занясіце ў халодныя цяпліцы або падвал, добра палійце і засыпце пяском.

У цяпліцах перыядычна ачышчаюць ад сухога лісця і апрацоўваюць хрызантэмы, цыкламены і прымулы.

Прасейваюць і завозяць у землясховішчы дзярновую, ліставую і перагнойную глебу. Перад тым, як занесці гаршчочныя расліны з парнікоў і адкрытага грунту ў аранжарэі, усе гаршкі мыюць слаба-ружовым растворам марганцавага кіслага калія або мыльным растворам.

Клубні вяргінь перад закладкай у сховішчы старанна прасушваюць, усе гніючыя часткі выразаюць з часткай здаровай тканкі і зрэзы прыпудрываюць прэпаратам ТМТД або тоўчаным вугалем з серай (1:1).

У флоксаў, хворых на сцеблавую нематоду, зразаюць сцябло. У іншых мнагалетнікаў таксама зразаюць адміраючыя сцябло і лісце. Зрэзаныя рэшткі раслін спальваюць.

На вокнах у прахалодных пакоях цвітуць карэйскія хрызантэмы, выкапаныя з грунта з бутонамі, туберозы, пасаджаныя ў красавіку і іншыя расліны. Не забывайцеся на іх, старайцеся даць ім па больш святла і вады. Апырсквайце лісце, адкрывайце форткі ў цёплае надвор'е.

У зімовых цяпліцах працягвайце догляд агуркоў і памідораў, высаджаных у ліпені і жніўні. Памідоры добра захоўваюцца, калі іх зняць недаспелымі, пакласці ў скрынкі, паставіць у сухое цёмнае месца і забяспечыць тэмпературу +2—3°. За некалькі дзён да спажывання памідоры ўносяць у цёплае памяшканне для даспявання. Калі ў скрынку з недаспелымі пакласці некалькі спелых памідораў, гэта паскарае даспяванне астатніх.

Кастрычнік — месяц падзімовых пасеваў і пасадак. Рэвень і шчаўе можна размнажаць не толькі насеннем, але і дзяленнем кустоў са старых плантацый. У пачатку месяца пасадзіце карэнні рэвеня і шчаўя на пастаяннае месца і вясной вы атрымаеце ранні ўраджай зяляніны.

Рэпчатую цыбулю можна атрымаць на месяц раней звычайнага, калі сявок (цыбуліны дыяметрам не менш 1 см) высадзіць з восені: да зімы ён паспее ўкараніцца. Адначасова высаджваюць цыбулю — выбарак, каб ранняй вясной атрымаць пяро.

## ПЕРАД НАДЫХОДАМ ХАЛАДОЎ

Кастрычнік — месяц падрыхтоўчых работ у садзе на зіму. Заканчваецца ўборка зімовых гатункаў яблыкаў, груш, прыбіраюцца падпоры. Першачарговая задача — апрацоўка глебы і яе ўгнаенне. Неабходна перакапаць прыствольныя кругі, прычым асцярожна, каб не пашкодзіць карэнні. Лепш перакопваць не рыдлёўкай, а садовымі віламі. Глыбіня апрацоўкі не павінна перавышаць 10—12 см. Калі будзеце штогод перакопваць глебу глыбока, то найбольш урадлівы перагнойны пласт застанецца на паверхні і тым самым пазбавіць карэнні спажыўнасці, што шкодна для дрэва.

Перад перакопкай уносяцца ўгнаенні з разліку 30—60 гр суперфасфату, 10—15 гр калійнай солі і 5—6 кг арганічных угнаенняў на квадратны метр прыствольнага круга. Карысна, асабліва на лёгкіх пясчаных глебах, уносіць угнаенні ў канаўкі глыбінёй 40—50 см і шырынёй 50 см. Нормы ўгнаенняў 4—8 вёдзер перагною або 10—20 торфу, 1 кг суперфасфату і 200 гр калійнай солі. На пясчаных глебах ствараюць праслойкі з гліны таўшчынёй каля 10 см. Хоць такі спосаб патрабуе вялікай затраты ручной працы, але добра ўплывае на рост і пладанашэнне дрэў.

У кастрычніку трэба правесці падрыхтоўчыя работы для пасадкі маладых дрэў. Для гэтага выкопваюць ямы 100—120 см шырыні і каля 70 см глыбіні. Верхні цёмны пласт глебы складаюць з аднаго боку і выкарыстоўваюць для засыпкі ям. Ніжні пласт, менш урадлівы, раскідаюць на плошчы міжраддзяў. У кожную яму ўносяць 3—5 вёдзер добра перапрэлага кампосту або перагною і 50—100 гр калійнай солі. Пры адсутнасці кампостнай сумесі можна ўнесці 5—10 вёдзер торфу.

У першую зіму пасля пасадкі дрэвы дрэнна пераносяць маразы. Таму пасадку яблынь, вішні і слівы лепш праводзіць вясной. Саджанцы, падрыхтаваныя для пасадкі, прыкопваюць. Пры гэтым трэба сачыць, каб паміж карэннямі не было пустот. Маладыя саджанцы трэба аберагаць ад грызуноў. Агрэст і парэчкі, якія рана пачынаюць расці вясной, лепш высаджваць восенню.

У пладовых дрэў выразаюць сухія галіны, у кустарніках — усе галінкі старэй за 6—7 год, а ў маліны — адпладаношаныя парасткі. Штамбы і асноўныя галіны дрэў ачышчаюць ад амярцвелай кары і абмазваюць растворам свежапагашанай вапны, што дапаможа зберагчы іх ад лютаўскіх і сакавіцкіх сонечных апёкаў, растрэсквання кары і марозабоін. Тады ж замазваюць і дупліны. Для гэтага вострым нажом зразаюць амярцвелую драўніну, дэзінфіцыруюць сценкі дупла 3-працэнтным медным купаросам, запаўняюць шчэбнем і заліваюць цэментам.

У садзе трэба прыбраць лісце, паданкі, рэшткі гароднінных культур і пустазелля, выкарыстаўшы ўсё гэта для закладкі кампостнай горкі.

## АГАРОД НА ПАДАКОННІКУ

За акном — снег, мароз, завея. Лютуе зіма. Але вы можаце „абсталяваць" лета ў сябе дома — на падаконніку. І зрабіць гэта адносна лёгка.

Для гэтага ўстанаўліваюць стэлаж або скрынку з дрэва ці пластмасы глыбінёй 15—20 см і засыпаюць лёгкай урадлівай зямлёй. Сумесь глебы лепш за ўсё рабіць з роўных частак дзярновай і перагнойнай зямлі. На вядро такой сумесі добра дадаць 2/3 шклянкі пяску і 1 шклянку попелу з печы. У такіх скрынках на падаконніку можна вырошчваць цыбулю на пяро, зеляніну пятрушкі, сельдэрэй, шчаўе, гуркі, памідоры і іншую гародніну.

Цыбуля. Для выганкі яе на пяро лепш за ўсё ўжываць цыбуліны дыяметрам 3—4 см шматзачаткавых гатункаў. Перад пасадкай для хутчэйшага прарастання неабходна верхнюю частку цыбуліны абрэзаць на адну чвэрць вышыні. Іх высаджваюць або маставым спосабам (упрытык), або на адлегласці 1 см. Паліваюць цыбулю цёплай вадой шчодра. У пачатку прарастання можна падкарміць салетрай (30 гр на 10 л вады).

Пятрушка. Для выганкі зеляніны ўжываюць пятрушку корневых гатункаў — карнявая цукровая, цукровая, ураджайная. Высаджваюць караняплоды таўшчынёй 2—4 см назільна радамі. Караціць або абразаць іх нельга. Закопваюць караняплоды ў барозначкі глыбінёй 10—12 см, добра змочаныя вадой, на адлегласці 5—6 см адзін ад аднаго. Галоўку і шыйку караняплода засыпаць зямлёй і паліваць вадой зверху не трэба. Ваду льюць асцярожна ў міжраддзі з дзіцячай лейкі без сіта або з бутэлькі.

Сельдэрэй. Лепшымі гатункамі для выганкі з'яўляюцца — яблычны, карнявы грыбоўскі. Караняплоды вагой 60—80 гр саджаюць проста, без нахілу, неглыбока ў радкі, добра палітыя вадой. Адлегласць — 12—14 см, паміж радамі — 6—8 см. Вярхушкі засыпаць зямлёй не рэкамендуецца Паліваць трэба гэтак жа, як пятрушку.

Шчаўе. Для выганкі выкарыстоўваюць старыя карнявішчы шчаўя з адкрытага грунту. Перад пасадкай карэнне абразаюць, пакідаючы даўжыню не больш 10—12 см, высаджваюць на адлегласці 3—5 см адзін ад аднаго. Лепшая тэмпература для шчаўя — 16—18°. Лісце зразаюць асцярожна, каб не пашкодзіць кропкі росту.

## ПРЫЗНАКІ ГАЛАДАННЯ ПЛАДОВЫХ ДРЭЎ

Важнейшым элементам, якога часцей за ўсё не хапае ў садах, з'яўляецца азот. Пры азотным галаданні лісце робіцца светла-зялёнае, паслабляецца рост парасткаў, змяншаецца ўраджайнасць.

На лёгкіх жа глебах часцей можна сустрэць недахоп калія. Пры гэтым лістота таксама набывае светла-зялёную афарбоўку, затым з'яўляецца як бы апёк — па краю лістоў з'яўляецца барвовая паласа, якая затым адмірае.

Недахоп фосфару ў садах назіраецца намнога радзей.

На пясчаных глебах можа быць хлароз лістоты — з-за недахопу магнія. Паміж жылкамі ліста зялёная афарбоўка знікае, адбываецца абясколерванне, а затым і адміранне. Хвароба гэтая размнажаецца з ніжніх лістоў парастка.

Пры недахопе бора ўзнікае хвароба акоркавання пладоў. У яблыках і грушах утвараюцца сухія акоркаваныя ўчасткі мякаці. Плады пакрываюцца трэшчынамі і ападаюць.

Калі ўносіць мінеральныя і арганічныя ўгнаенні, расліны не хварэюць, добра растуць і пладаносяць. Аднак трэба памятаць, што залішняе ўнясенне ўгнаенняў таксама можа прынесці шкоду. Так, пры шчодрай падкормцы азотам дрэвы пазней уступаюць у пару пладанашэння, зімаўстойлівасць зніжаецца. А пры лішняй колькасці калійных угнаенняў на пясчаных у супясчаных глебах можа развівацца хлароз з-за недахопу магнія. Пры лішняй дозе фосфарных угнаенняў можа назірацца недахоп цынка, што прыводзіць да разетачнасці, г.зн. утварэння дробных цёмна--зялёных лісцяў на ўкарочаных парастках. Пры лішнім вапнаванні можа назірацца недахоп цынка, бора і жалеза. Недахоп жалеза развівае хлароз лістоў. Пры недахопе жалеза хлароз з'яўляецца спачатку на лістах вярхушкі парасткаў. Гэтым ён адрозніваецца ад хлароза пры магніевым галаданні.

## У ДНІ ПЕРАДЗІМОВЫЯ

У маладым садзе пладовыя дрэвы не асвойваюць усёй плошчы, таму ў міжраддзях звычайна вырошчваюць іншыя культуры. Угнаенні для дрэў уносяць на прыствольныя кругі, дзе размяшчаецца асноўная маса карэнняў. Пасля пасадкі пладовага дрэва прыствольны круг займае плошчу ў два разы большую за крону. Ва ўзросце да 4-х год шырыня прыствольнага круга роўная прыкладна 2—2,5 м і ў 4—6-гадовым узросце — 2,5—4 м. У пладаносных дрэвах шырыня прыствольнага круга крыху больш за крону. З ростам дрэў павялічваецца і патрэба ў іх угнаенні.

Нормы ўгнаенняў вызначаюцца ў залежнасці ад велічыні прыствольнага круга.

Звычайна на квадратны метр прысвольнага круга ўносяць па 25—30 гр аміячнай салетры, 30—60 гр суперфасфату, 20—40 гр калійнай солі і па 5—6 кг арганічных угнаенняў.

Спосабы ўнясення ўгнаенняў залежаць ад глебы. Фосфар і калій слабарузомыя, яны добра замацоўваюцца ў глебе і не вымываюцца вадой. Калі іх уносіць на паверхню, то яны застаюцца ў тым пласце, дзе карэнняў вельмі мала. А пры ўнясенні іх глыбей, у час перакопкі знішчаюцца карэнні. Такія ж цяжкасці сустракаюцца і пры ўнясенні арганічных угнаенняў.

У маладым садзе больш правільна ўносіць фосфарныя і калійныя ўгнаенні ў напрамку разрастання карнявой сістэмы з тым, каб асвойваліся акультыраваныя пласты.

Вельмі добрыя вынікі дае ўгнаенне, унесенае ў канаўкі. Іх капаюць з двух бакоў дрэва, глыбінёй 40—50 см і шырынёй каля 50 см і кладуць

туды гной, фосфар і калій. Колькасць угнаенняў прыкладна такая ж, як і пры пасадцы дрэў. На кубічны метр канаўкі ўносяць каля 4—5 вёдзер кампосту або торфу, 1 кг суперфасфату і 20 гр калійнай солі. Шчолачны торф класці не варта. Праз год угнаенні кладуць з двух бакоў яблыні, а ў наступныя гады — на ўсёй плошчы прыствольных кругоў. Пры гэтым спосабе некаторая колькасць карэнняў пашкоджваецца, але яны хутка адрастаюць і ўсвойваюць угноены пласт глебы. Можна ўнесці ўгнаенні і ў адзін год у кругавую канаўку па перыферыі кроны. Праз 4—5 год такое ўнясенне ўгнаенняў паўтараюць. З ростам дрэва яны размяшчаюцца далей ад ствала і бліжэй да міжраддзяў. На пясчаных глебах на дно канаўкі карысна пакласці пласт сугліністай глебы таўшчынёй 10—12 см.

Пры ўнясенні ўгнаенняў у час перакопкі прыствольных кругоў апрацоўку праводзяць бліжэй да ствала на глыбіню 8—10 см, а на перыферыі кроны — на глыбіню 20—25 см. Каб даць магчымасць карэнням засвоіць угноены пласт глебы, у наступныя гады праводзяць толькі паверхневую апрацоўку для барацьбы з пустазеллем. Праз 2—3 гады ўнясенне ўгнаенняў паўтараюць, і пры гэтым глебу на перыферыі кроны зноў апрацоўваюць на глыбіню 20—25 см, а пад кронай — паверхнева.

Садаводамі асвоен таксама спосаб унясення ўгнаенняў у ачагі пад кронай. Для гэтага капаюць лункі глыбінёй 25—30 см, прычым крыху далей ад ствала, каб не пашкодзіць буйныя карэнні.

Азотныя ўгнаенні лёгка рухомыя ў глебе. Таму ўносіць іх восенню не варта, бо яны, асабліва на лёгкіх глебах, могуць вымывацца ападкамі і талай вадой. Забяспечыць кантакт азотных угнаенняў з карэннямі лёгка пры ўнясенні іх ранняй вясной, калі яны прамываюцца аж да карэнняў і паглынаюцца раслінамі.

У дарослым садзе фосфарныя, калійныя і арганічныя ўгнаенні ўносяць поўнай дозай адзін раз у некалькі год у час асенняй апрацоўкі саду.

## ЛЕКІ НА АКНЕ

Багаты і разнастайны свет раслін. У невялікіх вазонах на вокнах у нас стаяць жыхары пустынь і лясоў амаль усіх краін свету: алоэ, пеларгонія — з Афрыкі, фікус, лімоны, азаліі, камеліі — з Азіі, агавы, кактусы, традэсканцыі, магноліі — з Амерыкі, драцэна, дорнаптус — з Аўстраліі, плюшч, язмін пакаёвы, мірт, лаўр высакародны і многія іншыя — з Міжземнамор'я.

Вядома, у нас па памерах яны значна драбнейшыя, чым у сябе на радзіме. Але і тут яны зелянеюць круглы год і ўпрыгожваюць наша жытло. Аднак не ўсе ведаюць, што многія з раслін, апрача дэкаратыўных, валодаюць лячэбнымі ўласцівасцямі. Мы раскажам толькі пра некаторыя з іх, найбольш распаўсюджаныя.

Амаль у кожнай кватэры вы сустрэнеце алоэ — шматгадовую травяністую расліну сямейства лілейных. Лісце мясістае, сабранае ў густыя разеткі або двухраднае; шэра-зялёныя або блакітнаватыя, пятністыя або паласатыя, з калючкамі па баках. Гэта жыхар Паўднёвай Афрыкі. Вядома яго каля 460 відаў. У Беларусі яго называюць сталетнікам і вырошчваюць у аранжарэях і пакоях. Трэба адзначыць, што ні адна з вядомых лекавых раслін не карыстаецца такім вялікім поспехам пры лячэнні розных захворванняў, як алое. Яго шырока ўжываюць як у народнай, так і ў навуковай медыцыне. З яго лісця атрымліваюць прэпарат сабур, у якім 20—25 працэнтаў глюказіда, аланін, які ўжываецца як слабіцельнае. Прэпараты алоэ выкарыстоўваюць пры тканевай тэрапіі як біялагічны стымулятар. У народзе свежым лісцем лечаць бранхіяльную астму, язвы страўніка і кішэчніка, раны, нарывы, туберкулёз і ўжываюць як слабіцельнае па адным лістку на аднаразовы прыём (дзейнічае праз 8—10 гадзін).

Карысная расліна і агава-шматгадовая з сямейства агавых. Лісце ланцэнтнае, мясістае з калючкамі, сабрана ў прыкарнявую разетку. Кветканос вышынёю 6—12 м. Пасля цвіцення (на радзіме ў Амерыцы на 8—10 годзе жыцця) усе надземныя часткі агавы адміраюць і з карнявішча вырастае новая расліна. Пашырана ў пустынях цэнтральнай Амерыкі, галоўным чынам у Мексіцы, дзе вядома каля 450 відаў. Культывіруюць іх дзеля валакна ў Заходняй Афрыцы, Паўднёвай Азіі на Зондскіх і Філіпінскіх астравах. У нас агавы вырошчваюць у аранжарэях і дома як дэкаратыўныя расліны. У апошні час у нас вырас попыт на агаву як лекавую расліну. У народзе яе шырока ўжываюць пры лячэнні радыкуліту і ішыасу. Лісце націраецца на тарку і мязга ўціраецца на ноч, хворае месца абвязваюць чым-небудзь цёплым. Праз дзень - два пасля ўцірання нацёртае месца чырванее, як пры адзёры, або нават паяўляюцца пухіры, моцны сверб, але гэта праз 3—4 дні праходзіць. Праз 5—6 дзён уціранне трэба паўтарыць. Каб зменшыць раздражненне скуры, мязгу або дробна нарэзаную масу агавы насыпце ў бутэльку і заліце спіртам. Праз 5—6 дзён, а лепш праз 20 настой уціраюць у хворыя месцы. Хутка наступае поўнае выздараўленне. Настой агавы са спірта не страчвае сваіх лекавых уласцівасцей больш за год.

Пры хваробах страўніка, печані, лёгкіх, як болепатольнае, адхарквaючае савецкія гамеапаты рэкамендуюць прымаць свежы сок агавы па 20 кропель на сталовую лыжку вады, запіваючы чыстай вадой.

У народзе агаву часта называюць сталетнікам, блытаючы з алоэ. Але гэта няправільна. Вырошчваючы агаву ў пакоях, яе трэба трымаць на сонечным баку, а летам выносіць на адкрытае паветра, прывучыўшы да яго паступова. Дадому занесці трэба да замаразкаў. Глеба ўжываецца звычайна садовая з дадаткам гліны або тынкоўкі.

У Цэнтральнай Амерыцы расце агава кантал. Яе лісце ў народнай медыцыне ўжываецца як лекавае пры ракавых захворваннях.

Часта можна ўбачыць на акне цікавую расліну, на лісцях якой у кож-

най зазубрынцы расце маленечкая раслінка з двума-трыма парамі літсочкаў і тонкімі паветранымі карэньчыкамі. Калі гэтыя вадкавыя пупышкі, або „дзеткі", затрымліваюцца некаторы час на лісце мацярынскай расліны, дык на трэцяй пары іх лісточкаў утвараецца трэцяе пакаленне. Гэта брыяфілюм Дэрмона (больш правільна — каланхое Дэгрэмона) сямейства талсцянкавых. (У перакладзе з грэчаскага брыя — пышна, філас — ліст. г.зн. ліст, што пышна расце). Радзіма гэтай вечназялёнай расліны — трапічная Афрыка, востраў Мадагаскар. Брыяфілюм добра расце ў пакаёвых умовах. Для пасадкі „дзетак" бярэцца дзярновая і ліставая зямля і чысты рачны пясок (2 : 2 : 1) і высаджваецца ў скрынкі, а пасля перасаджваюцца ў гаршкі. Трымаць трэба на добра асветленым месцы, а зімою пераносіць ў прахалоднае памяшканне (14—15°) або на вокны падалей ад шкла, паліваць раз у тыдзень. Летам паліваць па меры высыхання землянога камяка.

Доўгі час нічога не ведалі пра лекавыя ўласцівасці гэтай расліны. Але людзі заўважылі, што брыяфілюм валодае незвычайнай актыўнасцю да вегетацыйнага размнажэння яго, яго „дзеткі" вызначаюцца здзіўляючай стойкасцю — доўгі час застаюцца жыццяздольнымі, і пачалі ўжываць яго як лекавы сродак. Так, пры грыпе сокам брыяфілюма змазвалі слізістую абалонку носа і гэта давала станоўчыя вынікі, вылечваючы нарывы, розныя сыпы, экзему, зводзілі мазалі і інш. І людзі не памыліліся. Лабараторныя праверкі, а пасля клінічныя выпрабаванні пацвердзілі гэта, і фармакалагічны камітэт Міністэрства аховы здароўя дазволіў ужываць сок і мазь брыяфілюма (каланхое) для лячэння доўга незажываючых язв, свішчоў, ран і апёкаў.

## ЗНАЧКІ НА АДЗЕЖЫ

На прылаўках нашых магазінаў усё больш і больш з'яўляецца новых тканін з ільну, бавоўны, шоўку, шэрсці, лаўсана, нітрона, сілона і іншага сінтэтычнага валакна. І калі мы ўсе добра ведаем як абыходзіцца з ільнянымі, баваўнянымі, шарсцянымі тканінамі, то часта губляемся, калі адзенне пашыта або звязана з сінтэтычнай матэрыі. Сапраўды, кожнае з іх мае свае асаблівасці і неаднолькава рэагуе на тэмпературу праса, вады, розныя хімічныя рэчывы, якія ўжываюць для чысткі адзення.

Каб пакупнікі ведалі, як абыходзіцца з той або іншай тканінай, чысціць, прасаваць гатовыя рэчы, — світары, плацці, кашулі, блузкі, касцюмы, паліто — на іх прышываюцца ўмоўныя значкі. Да гэтага года такія значкі кожная краіна рабіла па-свойму. З гэтага года вырашана ва ўсіх краінах СЕУ увясці адзіную абавязковую для ўсіх сістэму маркіроўкі, якую распрацаваў Цэнтральны навукова-даследчы інстытут швейнай прамысловасці. Каб мова гэтых значкоў стала зразумелай усім — пакупнікам і спецыялістам, — трэба ведаць, які значок чаму адпавядае. Мы прыводзім найбольш пашыраныя з іх.



— МЫЦЬ ПРЫ ПЭЎНАЙ ТЭМПЕРАТУРЫ


— МЫЦЬ НЕЛЬГА


— ПРАСАВАЦЬ МОЖНА


— ПРАСАВАЦЬ НЕЛЬГА



— ЧЫСЦІЦЬ МОЖНА ЛЮБЫМІ СРОДКАМІ



— ПРЫ ХІМЧЫСТЦЫ ТРЭБА БЫЦЬ АСЦЯРОЖНЫМ


— ЧЫСЦІЦЬ НЕЛЬГА



— АДБЕЛЬВАЦЬ МОЖНА


— АДБЕЛЬВАЦЬ НЕЛЬГА

Калі вы купляеце гатовае адзенне, звяртайце ўвагу на значок, прышыты на адваротным яго баку, пастарайцеся запомніць значэнне кожнага, гэта вам спатрэбіцца і вы пазбегнеце непрыемнасцей, не папсуеце сваё адзенне ні чысткай ні прасаваннем.

## ЗІМОЮ

Яшчэ на двары мароз і не мінула небяспека абмарозіцца, прастудзіцца. Небяспечныя і сакавіцкія ветры, завеі, завірухі. Таму мы прапануем некалькі парад, якія дазволяць лягчэй перанесці холад, мароз.

Не трэба прывыкаць да цяпла ў кватэры: сачыце, каб тэмпература не была вышэй 18—20°. Асабліва важна гэта ўначы. Лепш накрывайцеся лішняй коўдрай, хай у пакоі будзе свежае паветра.

Не залежвайцеся ў ложку, — ледзь прачнуліся, адразу ўставайце, зрабіце абавязкова некалькі жвавых практыкаванняў.

На снеданне ешце толькі гарачае, бо інакш будзеце мерзнуць на трамвайным ці аўтобусным прыпынку, на рабоце, у магазіне. Карысна ўранку выпіць кубак гарачага малака з лустай хлеба, памазанага мёдам, тварагом або варэннем.

У першую чаргу паклапаціцеся пра ногі — яны замярзаюць хутчэй за ўсё. Не насіце тонкіх капронавых панчох, бо гэта можа прывясці да рэўматызму. Вельмі зручна адзяваць калготкі, асабліва шарсцяныя. Абутак павінен быць па свабадней, каб не парушаць кровазвароту, каб можна было адзець шарсцяныя шкарпэткі. У памяшканні боты здымiце, бо інакш да ног не паступае паветра, змяншаецца прыток крыві і ледзь выйдзеце на вуліцу, як ногі аледзянеюць.

Калі ногі пачалі настываць, стукніце сябе некалькі разоў пад каленкамі рабром далоні — гэта ўзмоцніць кровазварот. Пры вельмі вялікім марозе ў панчохі і шкарпэткі насыпце крыху сухой гарчыцы (у тым выпадку, калі вам давядзецца правесці цэлы дзень на вуліцы. Асабліва гэта трэба рабіць тым, хто працуе ў адкрытых кіёсках і ларках). У каго ногі стынуць уначы раім спаць у шарсцяных шкарпэтках.

У моцныя маразы, пры моцным ветры насіце цёплую бялізну. Запомніце, што апранутая пад світар звычайная трыкатажная футболка грэе гэтак жа як і шарсцяная.

## ЯК КУПАЦЦА

Ніколі не прымайце ванны адразу пасля яды. Пачакайце гадзіну-дзве. Гэта трэба памятаць і калі купаецеся ў моры або рацэ.

Калі ў вас вельмі тлустая скура, непасрэдна ў ванне расцірайце цела спецыяльнай рукавічкай або шчоткай. Калі ж скура сухая — пасля ванны разатрыце рукі і ногі, грудзі, плечы далонню, змочанай у аліўкавым алеі.

Каб на руках і нагах не было „гусінай скуры", рэгулярна масіруйце іх шчоткай або махровай рукавічкай, змочанай у растворы кухоннай солі.

Твар і шыю перад ваннай змажце спажыўным крэмам — пад уздзеяннем пары поры раскрываюцца і крэм добра жывіць скуру.

Не налівайце ў ванну адразу вельмі гарачую або вельмі халодную ваду, а толькі цёплую. Ад рэзкіх змен тэмпературы на эмаліі з'яўляюцца дробныя трэшчыны і жоўтыя плямы, якія дрэнна адмываюцца.

Калі не збіраецеся мыць галаву, надзявайце пры купанні поліэтыленавую шапачку або касынку — пара шкодна ўплывае на валасы.

Пакуль сядзіце ў ванне, накладзіце на твар асвяжальную маску з га-

родніны або фруктаў, папярэдне памыўшы твар. Вельмі карысна такая маска. Вазьміце яечны жаўток, некалькі кропель лімоннага соку, чайную лыжку алею і дробку крухмалу, усё перамяшайце. Можна змяшаць тварог з лыжачкай мёду.

## КАЛІ Ў ПАМЯШКАННІ ЦВІЛЬ

Цвіль прыносіць людзям шмат непрыемнасцей. З'яўляецца яна на сценах у дамах, на малочных фермах, дзе вільготнасць паветра асабліва вялікая, плямы цвілі пакрываюць не толькі сцены, але і столь. У кватэрах, заражаных цвіллю, яна часта псуе нават прадукты.

Каб папярэдзіць з'яўленне цвілі, неабходна часцей праветрываць памяшканне, на прадпрыемстве сачыць за спраўнасцю вентыляцыі. Але калі ўжо з'явілася, з ёю трэба змагацца. Прэпарат для барацьбы з цвіллю нескладаны, яго можна зрабіць самім. Вазьміце дзве вагавыя часткі меднага купаросу і адну частку амонева-калевых квасцоў (іх можна набыць у магазінах хімрэактываў), усё старанна змяшайце. Адну вагавую частку прэпарата растварыце ў дзесяці частках вады (1 кг на 10 літраў), нагрэтай да 40°. Для гэтага трэба ўзяць драўляны, шкляны або эмаліраваны посуд, ні ў якім разе нельга браць металічных. У раствор дадайце сем вагавых частак гашанай вапны. Атрымаецца падобная да кашы сумесь. Гэтую сумесь трэба роўным слоем нанесці на сцены, столь, пераборык. Звычайна на квадратны метр паверхнасці ідзе 50—60 г сумесі. Ведаючы гэта, лёгка разлічыць, колькі трэба падрыхтаваць сумесі. Перад тым, як рабіць такую пабелку, з памяшкання трэба вынесці ўсе харчовыя прадукты. Пасля пабелкі закрыйце яго на суткі, каб прасохла, а потым добра праветрыце. Цяпер можна бяліць смела. Пабелку лепш рабіць у сухое надвор'е.

Калі плямы ад вільгаці не пакрыліся цвіллю, каб яны не праступілі пасля пабелкі столі і афарбоўкі сцен, перад рамонтам пакрыйце іх белай нітрагліфталевай фарбай.

## У КУХНІ І Ў КВАТЭРЫ

Пах цыбулі з металічных відэльцаў і нажоў можна лёгка выдаліць, калі працерці іх сухой сталовай соллю.

Калі ў тэрмасе з'явіўся непрыемны пах, прапаласкайце яго вадою з воцатам (на шклянку вады чайная лыжка воцату) і пазбавіцеся паху.

Забруджаныя парасоны можна добра вычасціць растворам вады з нашатырным спіртам. На паўлітра вады 1/4 шклянкі нашатырнага спірту.

Шыба будзе ззяць, калі вы памыеце яе вадой з газай. (Адна сталовая лыжка на тры лыжкі вады).

Ад праса на белых ільняных і баваўняных тканінах часам застаюцца жоўтыя падпаліны. Каб пазбавіцца іх, намачыце тканіну ў растворы вады з кіслым малаком (1 : 1) і пакіньце на ноч.

Калі ў вашым пограбе паявіліся мурашкі, чарвякі або якія іншыя насякомыя, пасыпце месцы іх скаплення багата соллю.

Каб новы абутак не слізгаў, натрыце падэшву сырой бульбай.

Калі ў вас ёсць печка, не выкідайце лупін ад бульбы, а паліце яго ў печы. У час згарання лупін утвараецца вільготная пара, якая ачышчае печку ад сажы.

Шарсцяныя плацці і світары набудуць больш прыгожы выгляд, калі перад тым, як мыць, вы замочыце іх на некалькі гадзін у дажджавой вадзе, паклаўшы туды крыху тонкіх стружак мыла.

Плямы ад какавы, кавы, чаю лёгка выдаляюцца, калі вы папярэдне змочыце іх некалькімі кроплямі гліцэрыну, а пасля памыеце рэч у цеплаватай вадзе.

Пакінутую гарачым прасам жоўтую пляму памажце цыбуляй, памыйце ў халоднай вадзе, пасыпце соллю і пакладзіце на некалькі гадзін на сонцы.

Забруджаныя шкляныя рэчы, шыбы і люстэркі перад тым, як мыць вадой, патрыце разрэзанай цыбуляй.

Пасыпце цыбулю, калі вы яе смажыце, цукровай пудрай — яна будзе залацістай і смачнай.

Паніровачныя сухары ўтвораць залацістую смачную скарынку, калі вы папярэдне кавалкі мяса або рыбы змажаце ўзбітым яечкам, а пасля абваляеце ў сухарах.

Хрэн лёгка натрэцца, калі яго нанач пакінуць у халоднай вадзе.

Падлога, пафарбаваная маслянай фарбай, набудзе прыемны бляск, калі яе мыць цёплай вадой з воцатам і нашатырным спіртам (на вядро вады 3 лыжкі нашатырнага спірту і паўшклянкі воцату).

Цяпер вельмі модныя чаканныя ўпрыгожванні з медзі і іншых металаў. На жаль, яны нярэдка пакідаюць цёмныя плямы на адзенні. Каб гэтага не было, пакрыйце іх з адваротнага боку лакам для пазногцяў. Лак час ад часу трэба будзе ўзнаўляць, але плям на адзенні не будзе.

Расчоскі і шчоткі для валасоў лепш за ўсё чысціць так: вазьміце цёплую ваду, дадайце некалькі кропель нашатырнага спірту, пакладзіце туды шчоткі, расчоскі і добра памяшайце, каб растварыўся бруд. Калі дзе што засталося — выдальце шчоткай, добра папалашчыце і высушыце.

У гэтым сезоне модныя скураныя курткі і паліто. Зацёртыя мясціны на каўняры і манжэтах добра час ад часу праціраць анучкай, змочанай у гліцэрыне, — гэта верне ім першапачатковы глянец. Калі ж паношанае паліто ўсё працерці свежай апельсінавай скарынкай, яно заблішчыць, як новае.

На сподачках пад пакаёвымі кветкамі часта ўтвараюцца плямы і кругі, якія цяжка змыць. Наліце ў сподачак слабы раствор воцату і пакіньце на гадзіну, а пасля спаласніце.

Калі вам трэба зрэзаць гузік з адзення, пакладзіце паміж тканінай і ім грабеньчык — так ніколі не парэжэце матэрыял.

Патрапаныя або пакамечаныя карункі, цюль стануць жорсткімі і свежымі на выгляд, калі іх пакласці паміж двума лістамі вашчонай паперы і адпрасаваць.

Пацямнелыя ад работы ў садзе або агародзе рукі добра адмываюцца мыльный пенай, у якую ўсыпана чайная лыжка цукровага пяску.

Калі ў вас няма халадзільніка, а на двары ўжо цёпла, наліце ў таз вады і пастаўце туды посуд з прадуктамі. Мяса захаваецца дзень-два, калі вы яго зальеце сырым малаком, каб усё было пакрыта. Малако затрымлівае размнажэнне гніласных бактэрый.

Перш чым пачысціць гародніну, вымыйце яе старанна пад струменем вады: буракі, радыску, моркву патрыце шчоткай.

Гародніну чысціце нажом з нержавеючай сталі. У скурцы знаходзяцца спажыўныя рэчывы, таму зразайце яе як мага меней.

Усе салаты з сырой гародніны трэба гатаваць непасрэдна перад падачай на стол, бо пры працяглым ляжанні гародніна страчвае, і спажыўнасць, і смак.

Некалькі кропель лімоннага соку або воцату, дадаcontainsныя ў салат адразу пасля прыгатавання, дазволяць захаваць у ёй больш вітаміну.

Калі лісце салата завяла, апусціце яго на 15 хвілін у цёплую ваду і яно зноў стане свежае. Іншую гародніну можна асвяжыць, паклаўшы ў халодную ваду з воцатам (2—3 лыжкі). Праўда, ад гэтага змяншаецца колькасць каштоўных мінеральных рэчываў і вітамінаў.

Салат можна трымаць толькі ў шкляным, эмаліраваным або керамічным посудзе. Ні ў якім разе не ў металічным.

Морква ўтрымлівае шмат вітаміну А — каратыну, асабліва патрэбнага для зроку. Выкарыстоўвайце летні час, штодзень старайцеся з'есці 2—3 сырыя морквы, рабіце з яе сок для немаўлятак. Сырая летняя морква значна карысней, чым кансерваваная. Да таго ж яна спрыяе лепшаму страваванню.

Калі ў халадзільніку з'явіўся пах ад рыбы, мяса або іншых прадуктаў, пастаўце туды сподачак з падсмажаным зернем кофе.

## ЛЕТНІ АБЕД

На двары спякота. Гарачыня. Звычайна ў такі час людзі скардзяцца на адсутнасць апетыту. І гэта зразумела. Летам смела можна абмяжоўваць сябе ў салодкіх, мучных, мясных стравах, але неабходна сачыць, каб сырая гародніна была на стале ў вялікай колькасці штодзень. І наогул, летам ежа павінна быць лёгкай, каб добра засвойвалася. Ніжэй мы падаем некалькі рэцэптаў страў, якія можна выкарыстаць для летняга абеду.

## САЛАТ З МОРКВЫ І ГУРКОЎ

Ачышчаную моркву натрыце на буйнай тарцы, гуркі ачысціце і нарэжце брусочкамі, пакрышыце дробна кроп. Усё памяшайце, заліце смятанай, дадаўшы паводле густу соль і цукар. Хто любіць больш вострыя стравы, можа ўліць крыху соку з лімона або воцату.

На 2—4 морквы — столькі гуркоў, 2 сталовыя лыжкі кропу, паўшклянкі смятаны, соль і цукар — паводле густу.

## САЛАТ З БУРАКОЎ І ХРЭНУ

Ачысціце і натрыце малады бурак на буйнай тарцы. Пачышчаныя яблыкі нарэжце кубікамі, дадайце нацёрты хрэн, зеляніну, кроп і пятрушку, запраўце смятанай або маянэзам. Соль і цукар — паводле густу.

На 1 кубак — адно яблыка, сталовая лыжка цёртага хрэну, дзве лыжкі смятаны, лыжка дробна парэзанай зеляніны.

## САЛАТ З ЗЯЛЁНАЙ ЦЫБУЛІ З ТВАРАГОМ

Дробна нарэжце цыбулю, змяшайце яе з тварагом, з нацёртым на буйнай тарцы мяккім нявострым сырам, пасаліце і паліце смятанай.

На 150 гр зялёнай цыбулі — 300 гр тварагу або сыру, шклянка смятаны, соль — паводле густу.

## СУП МАЛОЧНЫ З „ВУШКАМІ"

Замясіць цеста, узяўшы паўтары шклянкі мукі, адно яечка, 4 кілішкі вады, солі паводле густу. Тонка раскраіць. Адварыць паўшклянкі рысу, змяшаць з двума дробна парэзанымі, пасечанымі крутымі яйкамі і лыжкай масла, і гэтым фаршам начыніць „вушкі". За чвэрць гадзіны да абеду апусціць іх у вар, а калі ўсплывуць — перакласці ў малако, якое кіпіць (паўтара — два літры), пасаліць. Пракіпяціць пяць хвілін і суп гатовы. Да яго падаюць цукар і карыцу ў парашку.

## БОРШЧ СА СВЕЖАЙ КАПУСТЫ

Ачышчаную бульбу нарэзаць кубікамі, моркву — тонкімі кружочкамі, а капусту пакрышыць буйнымі кавалкамі. Пакласці ўсё ў каструлю, наліць вады, каб нават не пакрывала, пасаліць і паставіць тушыць на невялікі агонь. Калі будзе амаль гатова, дадаць сталовую лыжку смятанкавага масла і яшчэ крыху патушыць. Не чакаць, каб капуста была зу-

сім мяккая, яна павінна захаваць пругкасць. Калі гародніна гатова, далійце вады, колькі патрэбна, каб быў суп, укіньце пару перчынак, лаўровых лісткоў і закіпяціце. Падавайце да стала са смятанай і зелянінай кропу і пятрушкі.

## БАКЛАЖАНЫ ПА-УСХОДНЯМУ

Нарэзаць кружочкамі 2 буйныя баклажаны, пасаліць, абваляць у муцэ і падсмажыць. Зрабіць соус з 1 кг памідораў, дадаць чайную лыжку цукру, пучок дробнапарэзанай зяляніны пятрушкі. Баклажаны пакласці ў каструлю, перасыпаючы кожны рад тоўчанымі сухарамі і залiваючы соусам. Зверху павінна быць шмат сухароў і соусу. Усё паліць 3—4 лыжкамі алею, у якім смажыліся баклажаны, і запякаць паўгадзіны ў духоўцы.

Падаваць на стол, калі астынуць, нарэзаўшы кавалкамі і зверху пасыпаўшы чорным молатым перцам.

## ШЧУПАК ПАД СОУСАМ ТАРТАР

У падсоленай вадзе зварыць 2—3 морквы, некалькі карэньчыкаў пятрушкі, сельдэрэй і гарошын 20 чорнага перцу. Калі ўсё амаль гатова, рыбу апусціць у ваду, праз 30 хвілін зняць і даць астыць у булёне. Затым выкласці кальцом на талерку, вакол пакласці адвараную, нарэзаную кубікамі і запраўленую растопленым маслам моркву, адвараную дробную бульбу, залітую растопленым гарачым маслам і пасыпаную дробна парэзанай зелянінай пятрушкі і кропу. У круг, утвораны рыбай, пакласці соус тартар, зроблены з маянэза, 2 сталовых лыжак дробна парэзаных маслін і салёных гуркоў, 1 сталовай лыжкі дробна парэзанай зяляніны пятрушкі, чайнай лыжкі молатага перцу, паводле густу пасоленага, і адной пацёртай на тарцы цыбуліны.

Салёныя гуркі можна замяніць памідорамі.

## У КУХНІ І Ў КВАТЭРЫ

Калі гатуеце гародніну, дадайце ў ваду два кавалачкі цукру, яны значна палепшаць яе смак.

Перад тым, як чысціць маладую бульбу, змачыце рукі ў вадзе з воцатам — яны не будуць так пэцкацца і хутка адмыюцца.

Вам для прыгатавання падлівы патрэбна белае віно, а ў хаце яго няма. Дадайце ў воцат крыху цукру — цалкам заменіць белае віно ў любой падліве.

Каб знішчыць з патэльні пах цыбулі або рыбы, пратрыце яе чаем.

Адзенне, якое заільснілася, добра працерці ватным тампонам, змочаным у чорнай каве, — бляск знікне.

Каб зняць з лакіраванай мэблі сляды ад пальцаў, дастаткова правесці па іх разрэзанай бульбай.

Пацямнелая медзь заззяе, калі яе пачысціць разрэзанай бульбай.

Разрэзанай сырой бульбай добра чысціць напісаныя маслянай фарбай карціны.

Калі на пакаёвых кветках з'явіліся паразіты, размачыце ў вадзе некалькі акуркаў ад сігарэт і памыйце гэтай вадой лісце раслін.

Каб знішчыць пах рамонка, дастаткова ў ваду дадаць кавалачак лімоннай коркі.

На скураных рэчах чарнільныя плямы выдаляюцца соллю. Для гэтага пакрыйце плямы тоўстым слоем вільготнай солі і так пакіньце на два дні. Затым соль страсіце, а пляму пратрыце губкай або анучкай, змажце шкіпінарам і натрыце да бляску.

Праціраййце лісце фікуса перыядычна чорным півам, і яно набудзе прыгожы зялёны колер.

Калі забрудзіўся або блага зашпільваецца замок — „маланка", пачысціце яго старой зубной шчоткай і злёгку змажце вазелінам.

Бронзавыя рэчы, якія пацямнелі — пачысціце жорсткай шчоткай, змочанай у гарачым воцаце, а затым пратрыце сухой анучкай.

Перад тым, як выціснуць з лімона сок, апусціце яго на некалькі хвілін у гарачую ваду, соку будзе болей.

Лета — пара адпачынку. І часта выкарыстоўваючы выхадныя дні, мы выязджаем адпачываць на ўлонне прыроды, захапіўшы з сабою палатку. Каб палатка не працякала, дах прамачыце водаадштурхоўваючым растворам. Для гэтага ўстанавіце палатку, добра нацягніце верх і апырскайце яго спачатку 10-працэнтным растворам гаспадарчага мыла (100 гр мыла на 1 літр вады), а калі тканіна падсохне, апырскайце 10-працэнтным растворам алюмакаліевых квасцоў. Каб прымачыць чатырохмясцовую палатку, дастаткова 4 літраў кожнага раствору.

Перад тым, як чысціць маладую бульбу, не забудзьцеся змачыць рукі воцатам (не выцірайце, дайце высахнуць так). Скура рук не пацямнее ад чысткі.

Старыя плямы ад маслянай фарбы лёгка адмываюцца з тканіны, калі вы іх ледзь-ледзь змажаце сметанкавым маслам або маргарынам, а праз некаторы час пратрэце шкіпінарам, газай або бензінам. Пасля рэч трэба памыць.

Пагнутыя металічныя пруткі можна выпрастаць. Для гэтага апусціце іх у вар і пакіньце там, пакуль вада не астыне. Пасля гэтага ім лёгка надаць ранейшую форму.

Не закупляйце летам свежай гародніны на некалькі дзён, — чым дольш яна захоўваецца, тым менш у ёй застанецца вітамінаў. Таму старайцеся купляць яе часцей, трымайце ў халадзільніку або ў халодным сухім месцы.

Не трымайце ачышчаную гародніну перад прыгатаваннем у вадзе; частка вітамінаў і мінеральных солей у вадзе разбураецца або раствараецца. Так, ачышчаная бульба за дзень страчвае амаль 20 працэнтаў вітаміна С, а нарэзаны шпінак за гадзіну — 34 працэнты. Толькі цвятную капусту можна пакласці на паўгадзіны ў ваду з соллю або воцатам, каб выдаліць з яе усіх насякомых і вусеняў.

Салаты запраўляйце маянэзам, воцатам або смятанай непасрэдна перад падачай на стол. Калі яны пастаяць 2—3 гадзіны, страцяць амаль усю спажыўную каштоўнасць. Ніколі не гатуйце салатаў на два дні — і карысці мала і нясмачна.

Нікеліраваныя часткі розных рэчаў, як ручкі дзіцячых калясак, дэталі таршэраў, абажураў і г.д. вельмі добра чысціць попелам ад сігарэт. Для гэтага пасыпце попелам мяккую вільготную анучку і натрыце ёю нікеліраваную рэч. Пасля адпаліруйце да бляску сухой фланелевай анучкай.

Коркі пасля працяглага ўжывання набываюць непрыемны пах цвілі і ссыхаюцца. Час ад часу іх трэба кіпяціць у чыстай вадзе, пасля чаго непрыемны пах знікае.

Перад тым, як смажыць, нагрэйце патэльню. Пасыпце яе дробнай соллю і толькі тады кладзіце тлушч. Тлушч не будзе распырсквацца і пойдзе яго ўдвая менш.

Ужывайце казінае малако. Яно багацейшае за каровінае тлушчам, які да таго ж лепш усвойваецца, мае вітаміны А і Д, а жалеза ўтрымлівае прыблізна столькі ж, як і жаночае. Таму казінае малако рэкамендуюць немаўлякам у якасці прыкорму, а часам і замяняльніка матчынага малака. У казіным малацэ ўдвая больш, чым у каровіным, асабліва каштоўнай часткі малочнага бялка — лактаальбуміна. Яно карысна і дзецям і дарослым.

Замарожаную рыбу трэба адтаіваць хутка, заліваючы халоднай вадой. Дробная адтайваецца паўтары-дзве гадзіны. Буйная — тры-чатыры. Каб зменшыць страту мінеральных рэчаў, ваду падсольваюць (на два літры вады 10 гр солі).

Мяса адтайвайе павольна, папярэдне памыўшы яго, — тады можна атрымаць мясны сок. Для адтайвання можна пакласці ў халадзільнік з тэмпературай +2° — +8° або ў пограб. Каб была меншай страта вільгаці, пакладзіце мяса ў поліэтыленавы мяшок або каструлю. Для гатавання мяса можна не адтайваць.

Звычайна агурковы сезон заканчваецца ў жніўні-верасні. Пазней свежыя агуркі ўжо далікатэс. Але кожны аматар-гароднік можа вырасціць на сваім агародзе агуркі так, каб мець свежыя да Кастрычніцкага свята, Новага года.

Што ж для гэтага трэба зрабіць? Калі вы высяваеце агуркі ў прадольныя радкі ў адлегласці 80—90 см градка ад градкі, пасадзіце паміж гэтымі градкамі расаду капусты на адлегласці 50—60 см.

Завязвацца маленькія агурочкі і ўтварацца галоўкі капусты пачынаюць адначасова. Вось тады трэба выбраць маленькія агуркі з моцным сцяблом

і, не адрываючы сцябла пакласці іх па аднаму ў сярэдзіну качана, злёгку прыкрыўшы лісткамі. Калі вы будзеце паліваць грады, памятайце, што ў вас у „хатках" ёсць агуркі, і не залівайце іх вадой зверху, а галоўнае — сачыце, каб не адарвалася сцябло. Увосень, капусту, дзе летам „жыў" агурок, трэба выкапаць з коранем. Атрасіце зямлю і падвесце качан да столі разам з „кватарантам". Верхнія тры-чатыры лісты завянуць, а сярэдзіна доўгі час будзе свежай.

Такая капуста захаваецца на працягу ўсёй зімы, захаваецца і свежы агурок. Перад святам асцярожна разрэжце качан і атрымаеце прыемны сюрпрыз — свежы хрумскі агурок.

Ніколі не пакідайце алей у адкрытай бутэльцы, трымайце яе шчыльна закаркаванай. Калі алей доўгі час судакранаўся з паветрам, у ім накапліваюцца прадукты акіслення і палімерызацыі насычаных тлустых кіслот, якія аказваюць дрэннае і нават таксічнае ўздзеянне на слізістую абалонку страўніка і кішэчніка.

Не давайце каве доўшы час кіпець — пена разбураецца і пулхіры пары ўносяць з сабою частку яе лятучых кампанентаў. Пена ж затрымлівае водарныя рэчывы, захоўвае добры смак напітку.

Не трымайце цукар побач з прадуктамі, якія маюць моцны пах, бо цукар лёгка насычваецца ім.

Ніколі не чысціце зубы рознымі металічнымі рэчамі, шпількамі, іголкамі, стальнымі пер'ямі. Яны не толькі могуць пашкодзіць дзясны, слізістую абалонку, але і эмаль зуба, унесці інфекцыю, выклікаць запаленне, развіццё карыёза. Такую шкоду могуць прынесці і зубачысткі з пластмасы. Таму карыстайцеся зубачысткамі, якія зроблены з дрэва або гусінага пер'я.

Не пакідайце ў алюміневым посудзе кіслую капусту, марынады, баршчы, кісялі. Алюміній лёгка акісляецца і на посудзе ўтвараецца тонкая плёнка вокісу, якая можа часткова перайсці ў ежу.

Калі суп атрымаўся вельмі тлусты, працадзіце яго праз змочаную халоднай вадой анучку, — частка тлушчу застанецца на ёй.

Запэцканыя маслянай фарбай рукі лёгка адмываюцца алеем. Уватрыце ў запэцканае месца крыху алею, а затым змыйце яго цёплай вадой.

Фасоля будзе больш пажыўнай і смачнай, калі ваду, у якой яна гатуецца, адразу ж зліць, ледзь яна закіпіць, заліць яшчэ раз халоднай вадой і дадаць у яе тры лыжкі алею.

Мяса хутчэй згатуецца, яго смак будзе лепшы, калі пры варцы пакласці карэнне зеляніны і цыбулю.

Калі ў страву дадаць муку і запраўкі, гэта да пэўнай ступені захавае вітамін С ад разбурэння.

Каб крэм або соус не падгарэў, пакладзіце на дно посуда шкляны шарык.

Каб лягчэй ачысціць арэхі, дастаткова іх пакласці на кароткі час у гарачую ваду.

Звычайна буракі вельмі доўга варацца. Паскорыць гэты працэс можна

так. Памыйце буракі, залійце халоднай вадой і пастаўце на агонь. Калі вада закіпіць, прасачыце, каб яны кіпелі роўна гадзіну. Праз гадзіну злійце ваду і адразу ж апусціце ў халодную, дзе пакіньце на 10—15 хвілін. Праз 15 хвілін буракі будуць мяккія, захаваюць колер, смак.

Суткі захаваецца мяса свежым, калі яго загарнуць у змочаную воцатам сурветку.

Каб у звараных у крутую яйках не ўтварылася цёмная праслойка паміж жаўтком і бялком, гатуйце іх толькі 5 хвілін, а потым на 10 хвілін пакідайце ў гарачай вадзе.

## ЧАСНОК

Са старажытных часоў народы свету ўжываюць часнок не толькі як прыправу, але як лячэбны сродак. Асаблівай папулярнасцю карыстаецца ён у народаў Усходу, адкуль і прыйшоў у Еўропу. Ведаючы яго лекавыя ўласцівасці, у старажытнасці многія народы на Усходзе насілі часнок на шыі на нітачцы для папярэджвання захворванняў. I гэта мела рацыю.

Часнок утрымлівае ў сабе шмат фітанцыдаў — рэчываў, якія забіваюць хваробатворныя бактэрыі. Гэтыя антыбактэрыяльныя ўласцівасці часнаку і выкарыстоўваюцца пры лячэнні розных хвароб. Як і многія іншыя расліны, часнок выдзяляе і лятучыя фітанцыды, якія здольныя ўплываць на бактэрыі на адлегласць. Таму нават заразныя хваробы не заўсёды могуць адолець бар'ер, які перад імі ставіць часнок. Так, яго баяцца грып, дызентэрыя і іншыя кішэчныя інфекцыі.

У часнаку шмат вітамінаў B, C, Д, таму яго актыўна выкарыстоўваюць пры лячэнні цынгі. З часнаком лепш засвойваецца ежа, у ім ёсць рэчывы, якія наладжваюць работу кішэчніка, павышаюць апетыт.

Хто хварэе на атэрасклероз і гіпертанію, рэкамендуецца есці штодзень часнок — паляпшаецца сон, змяншаюцца галаўныя болі і галавакружэнні.

У народнай медыцыне пры падагры, каменнях нырак і мачавога пузыра ўжываюць часночную настойку. Для гэтага 5 галовак часнаку дробна рэжуць і настойваюць у 500 г гарэлкі на працягу 8—10 дзён у цёплым месцы. Гатовую настойку прымаюць 3 разы на дзень па палове чайнай лыжкі.

Пры грыпе карысна кашыцу часнаку на ватным тампоне ўводзіць у нос. Удыхаюць пары часнаку пры туберкулёзе лёгкіх і прастудзе. Кашыцу са свежага часнаку ўжываюць пры каросце, экземе, для лячэння гнойных ран. Смажаны часнок разам з цыбуляй у Балгарыі ўжываюць пры панарыцыях, сок з часнаку са свіным тлушчам пры коклюшы ўціраюць у грудзі і шыю.

Валодае часнок і супрацьглістнымі ўласцівасцямі, у тых, хто яго есць, не бывае глістоў.

Але трэба памятаць, што эфірныя маслы часнаку ў вялікай колькасці

могуць выклікаць пякотку, раздражненне слізістай абалонкі страўніка. Таму не трэба есці яго галоўкамі — досыць двух-трох зубкоў. Гэта цалкам дэзінфіцыруе рот, можа папярэдзіць страўніка-кішачныя захворванні, павысіць апетыт, наладзіць страваванне, будзе служыць прафілактычным сродкам супраць атэрасклероза і гіпертаніі.

Сок часнаку ўваходзіць у склад алахола, прадаецца ў іх гатовая настойка-алілсат. Дарэчы, яна вельмі добра ўмацоўвае валасы, калі яе ўціраць у скуру галавы.

Смела ўжывайце часнок штодзень, ужывайце са звычайнай стравай — гэта толькі палепшыць яе смак. Каб не было пасля часнаку непрыемнага паху, заешце яго смятанай або запійце малаком. Нельга ўжываць часнок толькі ў адным выпадку — пры запаленні нырак.

## САЛАТ „СЫРОК"

Два плаўленыя сыркі, слоік зялёнага гарошку, тры яечкі, слоік маянэзу, соль, кроп, пятрушку паводле густу. Плаўлены сырок натрыце на буйнай тарцы і змяшайце з зялёным гарошкам і здробненымі крутымі яйкамі. Запраўце маянэзам, перамяшайце і пакладзіце ў салатнік горкай. Зверху аздобце зелянінай пятрушкі і долькамі яблык.

## ЧАСНОЧНЫ САЛАТ

500 гр цвёрдага сыру (швейцарскага, галандскага), два крутыя яечкі, тры-чатыры буйныя долькі часнаку. Сыр натрыце на буйнай тарцы, часнок — на дробнай, парэжце яечкі, паліце маянэзам і ўсё змяшайце. Пакладзіце ў салатнік і зверху ўпрыгожце зелянінай пятрушкі.

## ЛІМОН З СЫРАМ

Нарэзаны тонкімі лустачкамі лімон пакладзіце на талерку, пасыпце цукрам, — а зверху — нацёртым на буйнай тарцы цвёрдым галандскім сырам. Добрая закуска да каньяку.

## ПІРОГ „ДАМСКІ КАПРЫЗ"

500 гр мукі, 250 гр сметанковага масла, 150 гр смятаны, 300 гр цукру, шклянка вады, палова палачкі дрожджаў для цеста. Для начынкі шклянка варэння, 6 яек, 100 гр арэхаў, 1—2 лыжкі цукровай пудры.

На дошку насыпце муку горкай, зрабіце ў ім лунку і ўліце туды разведзеныя ў вадзе з цукрам дрожджы, пасаліце, дадайце цукар, растопленае масла і смятану. Хуценька рукамі вымяшайце цеста і дайце яму пастаяць каб паднялося. З гатовага цеста зрабіце праснак, раскатайце скалкай і выпякайце ў гарачай духоўцы на патэльні не больш 10—15

хвілін. Калі прастыне, пакладзіце на яго варэнне або джэм (лепш клубнічны), а зверху ўзбітыя ў густую пену бялкі (калі бялкі ўзаб'еце, дадайце ў іх адну-дзве сталовыя лыжкі цукровай пудры). Бялкі пасыпце раздробленымі арэхамі, папярэдне абсмажанымі на патэльні, і зноў пастаўце пірог на 10 хвілін у негарачую духоўку. Калі зверху ўтворыцца скарынка — пірог гатовы.

## ЯБЛАЧНЫ ПІРОГ

На 2 шклянкі мукі 3/4 шклянкі сумесі масла і лярду, 1/2 чайнай лыжкі солі, 4 сталовыя лыжкі халоднай вады.

Прасейце муку і соль, двума нажамі змяшайце муку з тлушчам. Апырскайце халоднай вадой і асцярожна замешвайце відэльцам, пакуль не атрымаецца аднародная маса. Гатовае цеста збіце ў шар і пастаўце на гадзіну ў халоднае месца. Разрэжце шар на дзве часткі, раскатайце кожную палову на дошцы, пасыпанай мукой. Калі слой цеста будзе крыху большы за ліст, пакладзіце яго на ліст.

Падрыхтуйце начынку. Для гэтага вазьміце 6 шклянак парэзаных яблык, 3/4 шклянкі цукру, 1 сталовую лыжку мукі, 1/4 чайнай лыжкі карыцы, 1/4 чайнай лыжкі пацёртага мускатнага арэха, 1/4 чайнай лыжкі солі, дзве сталовыя лыжкі масла.

Пакладзіце яблыкі на цеста, пасыпце цукрам, мукой, соллю і спецыямі. Зверху пакладзіце кавалачкі масла, пакрыйце другім слоем цеста, злучыце яго краі з ніжнім слоем, прыціснуўшы іх разам відэльцам. Зверху зрабіце некалькі надрэзаў. Выпякайце ў духоўцы 15 хвілін пры тэмпературы 230°. Праз 15 хвілін зніжце тэмпературу да 175° і выпякайце яшчэ 30—40 хвілін. Яблыкі за гэты час стануць мяккімі, а цеста падрумяніцца.

## У КУХНІ І Ў КВАТЭРЫ

Перад тым, як смажыць мяса, рыбу, бульбу або гародніну, абавязкова падсушыце іх сурвэткай, у час смажання яны набудуць прыемнае чырванаватае адценне.

Калі вам трэба захаваць свежую рыбу, пачысціце яе ад лускі і выпатрашыце і толькі пасля выносце на холад. Мыць трэба непасрэдна перад тым, як будзеце гатаваць.

Высахлая брынза зноў зробіцца смачнай, калі пакладзеце яе на некаторы час у падсоленае малако.

Алей у салат ліце толькі тады, калі яе пасалілі, дадалі воцат і перац, бо соль у алеі не расстварaецца.

Каб не было непрыемнага паху ў кухні, калі варыце капусту, пакладзіце ў каструлю кавалак хлеба.

Калі цеста паднялося, а печка яшчэ не гатова, пакрыйце цеста добра змочанай паперай. Яно не будзе больш падыходзіць.

У шафе з'явілася цвіль. Пакладзіце туды некалькі шарыкаў камфоры. Яна паглыне вільгаць і цвіль знікне.

Ніколі не мыйце фаянсавы посуд вельмі гарачай вадою, — яна псуе глазур, выклікае трэшчыны, змяняе колер фаянсу (ён жаўцее). Мыйце яго цёплай вадой з мылам або парашком, а пасля палашчыце ў халоднай вадзе.

Калі на шклянках з'явіліся жоўтыя плямы ад чаю, — пратрыце іх пітной содай, і яны заблішчаць як новыя.

Накіп з унутраных сценак чайніка можна лёгка зняць, калі пакінуць яго з чаем з лімонным сокам.

Драўляны пасуд, падстаўкі, кухонныя дошкі мыйце адварам лушпіння цыбулі, яны захаваюць прыемны жоўты колер.

Плямы з посуду з вогнетрывалага шкла добра змываюцца, калі яго пакінуць нанач у моцным растворы пральнага парашка.

Мяса не будзе высыхаць і прыгараць, калі ў час смажання паставіць у духоўку кубак з вадой.

Рыбу лягчэй ачысціць, калі папярэдне акунуць у вар або патрымаць у халоднай вадзе з воцатам.

Каб пячонка была смачнай, патрымайце яе перад смажаннем 2—3 гадзіны ў малацэ.

Ніколі не палівайце мяса, якое запякаецца ў духоўцы халоднай вадой. Ад гэтага яно робіцца жорсткім. Палівайце яго булёнам або гарачай вадой.

Каб разынкі ў цэсце размеркаваліся раўнамерна, памыйце іх гарачай вадой і абсыпце мукой перад тым, як пакласці ў цеста.

Грэцкія арэхі перад ужываннем злёгку пракаліце, ачышчаныя ў духоўцы. Яны будуць больш водарныя і скурка будзе лёгка шалушыцца.

Вітаміны ў малацэ лепш захаваюцца, калі яго гатаваць у закрытым посудзе. Калі малако пралілося на гарачую пліту, залітае месца тут жа пакрыйце мокрай паперай, — пах не пашырыцца на кватэру.

Бульба будзе смачнейшай, калі перад смажаннем яе на некалькі хвілін апусціць у гарачую ваду, абсушыць, а пасля пакласці на моцна нагрэтую патэльню. Саліць трэба, калі бульба ўжо будзе румяная.

Калі лопнула пластмасавая ручка, аправа ад акуляраў, іх можна склеіць самім. Месцы злому змачыце ацэтонам або змыўкай для пазногцяў, злучыце, звяжыце ніткай і запалкай абраўняйце краі, каб не было „шмару". На наступны дзень нітку здыміце.

Каб акуляры ў вас не пацелі, зранку пратрыце іх намыленай анучкай з гліцэрынам, адпаліруйце фланеллю — шкельцы будуць у вас чыстыя цэлы дзень.

Чарнільную пляму з сшытка або кніжкі можна змыць перакісам вадароду, дадаўшы ў яго дзве-тры кроплі нашатыру.

Некалькі сухіх апельсінавых скарынак, кінутых у амаль патухлы агонь, дапамогуць яму зноў разгарэцца.

Каб духоўка не пахла гарэлым, у яе трэба пакласці жменю солі.

 

Калі смажыце пончыкі, уліце ў тлушч лыжачку рому або каньяку — пончыкі не прапітаюцца тлушчам і будуць больш рассыпчастыя.

## З ФРАНЦУЗСКАЙ КУХНІ

Французская кухня заўсёды вызначалася майстэрствам кулінарыі. Сведчаннем яе папулярнасці з'яўляюцца і дзесяткі слоў („рэстаран", „амлет" і інш.), якія шырока бытуюць усюды. Адной з яе асаблівасцей з'яўляецца шырокае выкарыстанне прыпраў і вінаграднага віна, каньяку і лікёра ў самых розных стравах. Не парушаючы французскіх рэцэптаў мы можам замяняць іх нашымі вінамі „Твішы", „Тэтра", „Расійскае паўсалодкае" (французы выкарыстоўваюць толькі сухое і напаўсухое віно). Ніжэй даем некалькі рэцэптаў з французскай кухні.

## ЗАПРАЎКА ДЛЯ САЛАТАЎ

Для 1 шклянкі запраўкі 3/4 шклянкі аліўкавага (кукурузнага або іншага расліннага) алею, 1/4 шклянкі 3% віннага воцату, 1 растоўчаную галоўку часнаку, 1/4 чайнай лыжкі молатага чорнага перцу, 3/4 чайнай лыжкі солі.

Воцат, алей, часнок, перац і соль старанна размяшаць да атрымання аднароднай масы, і адразу заліваць ёю страву, што падаецца на стол. Змешваць запраўку рэкамендуецца ўзбоўтаннем у посудзе з герметычнай накрыўкай або ў змясіцелі.

## ЯЛАВІЧЫНА ПА-БУРГУНДСКУ

На 5—6 чалавек 1 кг мяса, 1 шклянка дробнапарэзанай цыбулі; 1 шклянка дробна парэзанай морквы, 200 гр свежых грыбоў, 2 галоўкі цыбулі-шалот, 1 зубочак часнаку, 2 скрылёчкі (50 гр) сала, 1/2 шклянкі сухога чырвонага віна, 1/3 шклянкі каньяку, 2 ст. лыжкі аліўкавага (кукурузнага або іншага) алею, 2—3 лыжкі солі, 1/4 лыжкі молатага чорнага перцу. Мяса парэзаць на кавалкі і націрці соллю і перцам. Наліць у каструлю алей і пакласці палову сала. Пакласці моркву, а зверху слой мяса. На мяса — слой цыбулі, з цыбулі-шалот і грыбы. Пасыпаць соллю і перцам. Зноў слой мяса, на яго — слой цыбулі і грыбоў і, нарэшце — трэці слой мяса. Накрыць усё тонкімі лусточкамі сала. Паліць віном, каньяком і пасыпаць перцам. Паставіць у нагрэтую да 200°С духоўку на 30—40 хвілін або пакінуць там, пакуль мяса не стане мяккім.

## ЯЛАВІЧЫНА ТУШАНАЯ

750 гр ялавічыны ад задняй нагі, 100 гр нарэзанага тонкімі скрылёчкамі сала, 50 гр сала са скуркай, 250 гр цяляціны (ад шынкі), шклянка белага сухога віна, 1 ст. лыжка каньяку ці гарэлкі, 2 шклянкі нарэзанай кружочкамі морквы, 1/2 шклянкі нарэзанай кольцамі цыбулі, 1 лыжка дробна нарэзанай зеляніны пятрушкі, 1 лаўровы ліст, 1/2 чайнай лыжкі перцу, 1/2 чайнай лыжкі солі.

Дно гусятніцы выкласці тонкімі скрылёчкамі сала і сала са скуркай. Пакласці цыбулю і моркву. Ялавічыну нашпікаваць салам і злёгку адсмажыць на патэльні і пакласці разам з цяляцінай у гусятніцу. Паліць віном, гарэлкай ці кан'яком і, калі ёсць, крыху ўліць моцнага булёну. Пакласці соль, перац, пятрушку і лаўровы ліст. Закрыць накрыўкай і паставіць на сярэдні агонь на 10—15 хвілін.

Затым паставіць у нагрэтую да 150° духоўку і тушыць каля 4 гадзін (праз дзве гадзіны часта паліваць сокам, які ўтварыўся).

За паўгадзіны да гатоўнасці зняць накрыўку і даць мясу падрумяніцца. Смачная халодная і падагрэтая.

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

Сумесь з гароднінных сокаў п'юць пры слабасці, туберкулёзе і гіпертаніі. Робіцца яна наступным чынам. Змешваюць па шклянцы бурачанага, маркоўнага, журавіцнага соку, дадаюць паўшклянкі белага партвейну, 200 грамаў альясу і пакідаюць пастаяць тры гадзіны, пасля чаго сумесь можна ўжываць. Дзецям даюць па 50 грамаў тры разы на дзень, дарослым — па сто грамаў столькі ж разоў.

Настой аеру ўжываюць пры анеміі, страўнікавых і кішачных кольках, паносах, павышанай кіслотнасці, пры захворваннях жаўцёвага пузыра і нырак, істэрыі, гіпахандрыі. Збіраюць карнявішча ранняй вясною або позняй восенню і здымаюць з яго кару, рэжуць уздоўж на кавалкі і сушаць. Для прыгатавання настою чайную лыжку здробненага карнявішча заліваюць шклянкай вару, накрываюць і даюць настаяцца, пакуль не астыне. У дзень выпіваюць да дзвюх шклянак настою — па паўшклянкі за паўгадзіны да яды.

Здробненым у парашок карэннем прысыпаюць раны і фрункулы, якія цяжка загойваюцца.

Пры хворых дзяснах робяць сумесь з лімонаў і яек. Для гэтага бярэцца 30 яек і 30 лімонаў. Памытыя і выцертыя насуха яйкі кладуцца ў слоік, куды выціскаецца сок з лімонаў. Слоік шчыльна закрываецца і ставіцца на тыдзень у цёмнае месца. Пасля ўсё старанна змешваецца, плёнка ад яйка выкідаецца. Сумесь прыймаецца нашча штодзень па сталовай лыжцы.

Горкі палын прыймаюць для ўзбуджэння апетыту, пры парушэнні стрававання, павышанай кіслотнасці, страўнікавых кольках, гастрытах, захворваннях печані і жаўцёвага пузыра, анеміі, пры бяссонніцы і дрэнным паху з рота, залатусе, туберкулёзе і гемароі, сустаўным раматусе і эпілепсіі, супраць рабакоў. Ужываецца верхняя надземная частка без ніжняга адраўнелага сцябла. Для прыгатавання настою бяруць адну-дзве чайныя лыжкі здробненага палыну, заліваюць шклянкай вады, накрываюць, даюць настаяцца. Прымаюць за паўтары гадзіны да яды. Сутачная доза — шклянка настою.

# СКАРОЧАНЫ КАЛЯНДАР НА 1975 ГОД

| | СТУДЗЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| А. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ч. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| П. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| С. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Н. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |

| | ЛЮТЫ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| А. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С. | 1 | 8 | 15 | 22 | | |
| Н. | 2 | 9 | 16 | 23 | | |

| | САКАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| | КРАСАВІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| А. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| С. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Ч. | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| П. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| С. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Н. | 6 | 13 | 20 | 27 | | |

| | МАЙ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| А. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Ч. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| П. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| С. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Н. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |

| | ЧЭРВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А. | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| | ЛІПЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| А. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| С. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Ч. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| П. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| С. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| Н. | 6 | 13 | 20 | 27 | | |

| | ЖНІВЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| А. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Ч. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| П. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| С. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| Н. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |

| | ВЕРАСЕНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| А. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| С. | 3 | 10 | 17 | 24 | | |
| Ч. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| П. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| С. | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Н. | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

| | КАСТРЫЧНІК | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| А. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Ч. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| П. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| С. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| Н. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |

| | ЛІСТАПАД | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| А. | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С. | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч. | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П. | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

| | СНЕЖАНЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П. | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| А. | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |
| С. | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | |
| Ч. | 4 | 11 | 18 | 25 | | |
| П. | 5 | 12 | 19 | 26 | | |
| С. | 6 | 13 | 20 | 27 | | |
| Н. | 7 | 14 | 21 | 28 | | |

ЗМЕСТ

Białostockie Zakłady Graficzne zam. 3600 0-4